Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№6 (4601) 11 лютага 2011 г.



# Мележава праўда

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

**Кожны з тых, каго мы сёння называем класікамі нацыянальнага прыгожага пісьменства, хто ўваходзіць у неадменны "залаты фонд" літаратуры, без каго наогул цяжка ўявіць апошнюю — некалі станавіўся выключэннем, бясспрэчным наватарам, які ўрываўся ў *панунючы* дыскурс, быццам свежы вецер і, здавалася, парушаў асновы таго, як трэба пісаць.**
**Адным з такіх пісьменнікаў, безумоўна, з'яўляецца Іван Паўлавіч Мележ, 90-годдзе з дня нараджэння якога 8 лютага святкавала наша краіна.**



Загадка кожнага таленту — у яго вытоках, станаўленні і сталенні. Першыя крокі Івана Мележа працсей за ўсё было б апісаць карцінамі з "Палескай хронікі", але ўсё ж такі не пейзаж фарміруе асобу; звернемся да аўтабіяграфічных згадак і думак: "Цяпер сам з гонарам думаеш: колькі папамераў нагамі зямлі, ідучы ў "навуку"… Мераў кожны дзень — і ў студзеньскі сівер, і ў красавіцкае разводдзе, калі, дабраўшыся да ганка школы, чуў, як вада хлюпае ў лапцях, абцінае горача анучы. Цяпер сам здзіўляюся той — ад бацькоўі дзядоў, пэўна, — цярплівасці, з якой тады браў усе нягоды: не толькі не наракаў калі-небудзь, але нібы і не заўважаў іх. Маці потым, помню, дзівілася, са спачуваннем і задавальненнем: кожны дзень, ва ўсякае надвор'е, мокры, скалелы — у школу, са школы!" Мележ называе гэта "цярплівасцю", але што яшчэ месціць у сабе гэтае слова? Мэтанакіраванасць, упартасць, уменне пераадольваць боль, нязручнасці, пераадольваць урэшце, самога сябе — і не страчваць надзеі.

Выкажам меркаванне, што не ўсе хлопцы-палешукі валодалі падобнымі якасцямі ў найвышэйшай ступені. Хіба нехта яшчэ з правінцыяльных Глінішчаў паехаў паступаць у Маскву, ды не абы-куды, а ў знакаміты "ИФЛИ" (Інстытут філасофіі, літаратуры і гісторыі), больш ліберальны на той час, чым нават Маскоўскі ўніверсітэт? Хапіла "цярплівасці" Мележу, калі не паступіў у першы раз, пачакаць і на наступны год стаць-такі студэнтам прэстыжнай установы. Пачынаюцца і першыя публікацыі. Пакуль што гэта традыцыйныя для ружовага юнацтва вершы. Немудрагелістыя, яны наўрад ці ўразяць каго сёння. Але рэчыўнасць вобразу, уласцівая ім, пазней поўна праявілася ў Мележавай прозе. Каб далёка не хадзіць за прыкладамі, успомнім апавяданне "Васіль Дзяніcавіч", якое адкрывала першую кнігу пісьменніка — "У завіруху" (1946). У першым жа абзацы Мележ, распавядаючы пра бамбёжку, нібы між іншым апісвае, як адвальваецца ад бальнічнай столі кавалак тынкоўкі і як доктар спакойна адкрывае фортку і выкідвае яго на двор. Проста? Безумоўна. Але гэта адразу знаёміць чытача з характарам галоўнага героя — без доўгіх "прадмоваў і пасляслоўяў". Вядома, першыя апавяданні былі толькі начыркамі да будучага Мележа. Тады яго хвалявала зусім іншае — тэматыка валодала ўвагай: па свеце каціліся вайна.

Для пісьменніка яна сталася новым выпрабаваннем — цярплівага лёс б'е наймацней. Баі, адступленне, цяжкая рана, хваробы на ўсё жыццё, але што ён піша пра год ранення? — "з вялікай прагай да жыцця, з вялікім запалам, на ўсю маладую сілу жыў я ў той год". Пазней, пра выкладанне ў эвакуіраваным універсітэце: "Помню гэты час як час вялікай, радаснай дзейнасці". На гэты ж перыяд прыпадае ягоная сустрэча з Чорным.

Дарэчы, гэта абсалютна розныя пісьменнікі. Абодва яны раслі з аднаго кораня, але Мележ не прыняў засяроджанасць Чорнага на псіхалогіі асобы, паглыбленні ў экзістэнцыяльныя праблемы і пошук сэнсу чалавечага існавання. Для Мележа важней было адлюстраваць жыццё як яно ёсць, паказаць панараму жыцця. Але ці можна сказаць наступнае: тое, да чаго дайшоў Мележ у "Людзях на балоце", тую "шырокасць" Чорны адкрыў яшчэ ў рамане "Зямля" і апавяданнях 20-х гадоў? І так, і не. Бадай, Мележ заўсёды, ад самай сустрэчы з майстрам, якому заставаўся тады літаральна год жыцця, азіраўся на вопыт Чорнага, прымаў і не прымаў яго, быццам бы ішоў насустрач і ў той жа час адпрэчваў, змагаўся з ім — каб сказаць сваё. У дзённіках за 1945 год ён запіша: "У мяне мова невыразная. Пісаць вобразна, ярка. Не расцягваць апісанні і псіхалагічныя аналізы (як у К. Чорнага). Маляваць людзей у простай абстаноўцы, з простымі словамі, звычайнымі і нібы няважнымі, але як у жыцці. Добра "У завіруху". І тут — таксама парадокс. Бо "У завіруху" — гэта найбольш "чорнаўскі" твор Мележа, уласнаручна праўлены ў Маскве тады яшчэ жывым майстрам. Гаворачы пра "Людзей на балоце", ён напіша, што хацеў бы напісаць серыю раманаў і давесці яе да сучаснасці — фактычна паўтараючы словы Кузьмы Чорнага 1920-х гг. (і таксама не завяршае сваю эпапею). Прыклады можна доўжыць. Мабыць, асноўнае адрозненне між двума класікамі — у тэмпераменце. Чорны дзякуючы духу паўставання гісторыі, пагружанасці ў расплывістую метафізіку жыцця (характэрную для многіх пісьменнікаў даваеннай пары) урэшце прыйшоў да трагічнага светаадчування. Мележ — усім сваім талентам — сцвярджаў *пазітыўны вобраз свету* (астатняе — адмаўляў, адсякаў; гэтым тлумачыцца і яго непрыняцце Быкава (гл. ліст да І. Навуменкі ад 18.04.63), які ішоў проста па слядах Чорнага). Праз выхад на вонкавую, аб'ектыўную рэчаіснасць ён паглыбіў уяўленні менавіта пра яе; Чорны, у сваю чаргу, разнасцежыў перспектыву ў суб'ектыўную рэчаіснасць, ва ўнутраны свет беларуса, у архаічныя глыбіні яго менталітэту і гістарычнага лёсу. Але хіба менш гаворыць пра беларуса тая нястрымная, аж да слёз радасць Чарнушчыхі ад зяцевага падарунка — новых ботаў, чым разважанні Чорнага пра вялікае скрыжаванне? Абодва яны мелі сваю праўду, абодва былі *народнымі* пісьменнікамі, кожны па-свойму…

Пазітыўная карціна свету пераносілася пэўным чынам і на ўсё зробленае Мележам. Усведамлялася: напісанае — застаецца. За кожны радок неслася адказнасць. Нават аўтограф на кнізе — твор мастацтва. Што ўжо казаць пра аповеды, раманы і іх пераклады — праз усю эпісталярную і дзённікавую спадчыну Мележа праходзяць скаргі: "прашу самастойна не рабіць ніякіх праваак у тэксце (абзацаў, скарачэнняў)" і г.д. Упарта (цярпліва!) перапісваў ён кожны свой тэкст: узважваў, прымерваўся, прычым з самага пачатку сваёй творчай дарогі: "Подготовил исправленный вариант "Горячего августа". Не берись за голову, увидев поправки. Когда я чернил рассказ, думал о переводчике, которому это доставит новую работу, но зато я теперь спокоен — рассказ стал *значительно лучше* и "законченнее" (ліст да П. Кабзарэўскага ад 27.05.47). Паказальная ў гэтым плане гісторыя з "Мінскім напрамкам": сумарна ён адняў у Мележа ці не сем гадоў творчай працы, але пад канец жыцця Мележ урэшце скажа: "Эта книга — первая моя большая, много крови она мне испортила и много труда стоила, я возвращался к ней много раз, в том числе — последний — совсем недавно. Может быть, Вам любопытно будет с ней познакомиться, хотя я и не всем доволен в ней. Трудная это книга, может быть, тем она и дорога мне" (ліст да Ю. Андрэева ад 25.10.75). Тут амаль што асалода ад катаржнай працы над раманам.

І ў той жа час — не пакінута нічога таго, за што было б сорамна перад нашчадкамі.

Тут жа і загадка "Палескай хронікі". Па сутнасці пакідаючы свой галоўны твор незавершаным, Мележ стварыў міф пра яго (як Гогаль пра другі том "Мертвых душ"). Накрэсліўшы круг свайго лёсу, пісьменнік пакінуў пытанні адкрытымі. Дакладней, ён дае магчымасць чытачу самому адказаць на іх.

Бездакорны стыль. Глыбіня і праўда. Загадка творчага лёсу.

Прыклад таго, якім і павінен быць сапраўдны класік.

## Пункціры

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка выказаў глыбокія спачуванні кампазітару і дырыжору Анатолію Крэмеру ў сувязі са смерцю яго жонкі, народнай артысткі Савецкага Саюза Таццяны Шмыгі. "Яна была актрысай з вялікай літары, сапраўднай зоркай савецкай і расійскай аперэты і кіно", — гаворыцца ў спачуванні.

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь сумесна з аблвыканкамамі распрацоўвае праграму развіцця рэгіянальнага вяшчання. Мэта праграмы — узняцце ўзроўню абласнога і раённага тэле- і радыёвяшчання. Праграма мусіць быць зацверджана ў 2011 годзе.

Белтэлерадыёкампанія з брэндам "Дзіцячы конкурс песні Еўрабачанне-2010" увайшла ў лік пераможцаў X Нацыянальнага конкурсу "Брэнд года 2010" і ўганаравана самай аўтарытэтнай айчыннай узнагародай у галіне брэндынгу — залатым медалём і дыпломам пераможцы ў прафесійнай намінацыі "Культура і мастацтва".

Літаратурна-дакументальная выстаўка "Іван Шамякін. Мае кнігі — мая біяграфія" разгарнулася ў Гомельскім палацава-паркавым ансамблі Румянцавых і Паскевічаў. Асноўнымі экспанатамі выстаўкі сталі асабістыя рэчы пісьменніка, фотаздымкі, кнігі з аўтографамі. Выстаўка арганізавана пры дапамозе Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры.

Міжнародны фестываль праваслаўных песнапенняў "Коложский благовест" пройдзе ў Гродне 16 — 19 лютага. Горад над Нёманам будзе прымаць яго ўжо ў дзясяты раз. На юбілейнае мерапрыемства запрошаны каля 45 калектываў з Беларусі, Расіі, Польшчы, Украіны, Літвы, Латвіі, Сербіі, Румыніі.

Дні культуры і эканомікі Магілёўскай вобласці прайшлі ў польскім Куяўска-Паморскім ваяводстве. Галоўнай культурнай падзеяй Дзён стаў канцэрт заслужанай артысткі Беларусі Ірыны Дарафеевай, арганізаваны пры падтрымцы беларускага пасольства ў Варшаве і Культурнага цэнтра Беларусі ў Польшчы, а таксама фотавыстаўка "Беларусь і яе людзі", на якой былі прадстаўлены каля 30 фотаздымкаў, зробленых журналістамі БелТА.

Умяшальніцтва мэцэнатаў патрабуе лёс унікальнай жывапіснай работы XVII ст.: "Наданне Мікалаю Радзівілу Чорнаму тытула князя Свяшчэннай Рымскай імперыі", якая патрапіла ў антыкварна-аўкцыённы дом «Парагіс». Карціна раней упрыгожвала Нясвіжскі палац. Вяртанне яе туды стала б вялікай падзеяй для Беларусі.

Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі запрашае ў лютым на музычныя вечары ў Камернай зале імя Л. Александроўскай. Гэты творчы праект даволі папяховы і існуе ўжо два гады. "Вечар камерна-інструментальнай музыкі" пройдзе 12 лютага. Канцэрт "Памяці вялікай спявачкі" да 107-годдзя Ларысы Александроўскай адбудзецца 18 лютага. Вечар рамансаў Чайкоўскага і Рахманінава запланаваны на 27 лютага.

У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва прайшла групавая выстаўка скульптуры "Обогащаясь друг от друга", прыўрочаная да 70-годдзя скульптара-манументаліста, прафесара Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Анатоля Арцімовіча. Разам з творамі майстра былі прадстаўлены работы яго вучняў і калег — беларускіх скульптараў некалькіх пакаленняў.

**Падрыхтавала Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# У чаканні перамен

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

**У параўнанні са сходамі іншых абласных пісьменніцкіх арганізацый справаздачна-выбарчы сход Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі быў бурным. Пісьменнікі актыўна абмяркоўвалі дасягненні і недахопы ў дзейнасці кіраўніцтва аддзялення, уносілі канструктыўныя прапановы, спрачаліся. За ходам пасяджэння назіралі першы сакратар праўлення СПБ Генадзь Пашкоў і старшыня Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Рыгор Сакалоўскі, якія прыбылі на магілёўскі сход, каб падтрымаць калег і даць карысныя парады па арганізацыі работы старшыні Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза Уладзіміру Дуктаву.**

З 30 літаратараў Магілёўшчыны, якія з'яўляюцца членамі Саюза пісьменнікаў Беларусі, на сходзе прысутнічалі 18. Робячы справаздачу перад калегамі за мінулыя пяць гадоў, Уладзімір Дуктаў пералічыў у першую чаргу тое, чаго ўдалося дабіцца магілёўскім пісьменнікам у супольнасці. Гэта — удзел у шэрагу юбілейных мерапрыемстваў: да 125-годдзя Янкі Купалы і Якуба Коласа, да 200-годдзя В. Дуніна-Марцінкевіча, да 95-годдзя А. Куляшова. Праводзяцца сумесна з іншымі творчымі арганізацыямі, установамі культуры і адукацыі, таварыствам "Веды" літаратурных чытанняў імя М. Гарэцкага, А. Куляшова, А. Пысіна, І. Чыгрынава, а таксама Сіманаўскіх літаратурных чытанняў, традыцыя якіх была адроджана тры гады таму. У рамках літаратурнага календара "Юбіляры месяца" адбылося больш як 80 розных мерапрыемстваў, падчас якіх праводзіліся кніжныя выстаўкі, чытацкія канферэнцыі, прэзентацыі новых кніжных выданняў.

Асаблівасцю Магілёўскай арганізацыі з'яўляецца пераважна мужчынскі склад і даволі салідны ўзрост большасці майстроў слова. Бачна па ўсім, вырашэнне пытання амаладжэння арганізацыі і далучэння да яе таленавітых аўтараў стане галоўным у бліжэйшы час. У дакладзе старшыні прагучала інфармацыя пра тое, што з верасня 2007 года пры абласным аддзяленні дзейнічае секцыя па рабоце з маладымі літаратарамі, якую ўзначальвае член савета аддзялення Мікалай Хобатаў.

У дакладзе было адзначана, што магілёўскія пісьменнікі шмат і ахвотна сустракаюцца са сваімі чытачамі, удзельнічаюць у падрыхтоўцы да друку культурна і гістарычна значных выданняў, выдаваных упраўленнем ідэалагічнай работы Магілёўскага аблвыканкама. Сярод іх варта ўзгадаць кнігу-фотаальбом "Магілёўская вобласць", адзначаную на Нацыянальным конкурсе "Мастацтва кнігі-2008" статуэткай "Залаты фаліянт"; чатыры нумары абласнога альманаха "Магілёўскі пошукавы веснік", кнігу нарысаў А. Балдоўскага "Ветэраны. Перамаглі врага и разруху", за якую ён быў адзначаны Расійскім камітэтам ветэранаў вайны і ваеннай службы; кнігу нарысаў М. Барысенкі "Вызваленне: ад Хоцімска да Магілёва і Бабруйска (верасень 1943 — чэрвень 1944 гг.)"; кнігу нарысаў М. Дадзівовіча "Я выбіраю Бабруйск"; выданне "Магілёўшчына алімпійская" і іншыя.

Аднак, нягледзячы на шэраг дасягненняў і даволі вялікую работу па папулярызацыі кнігі і пісьменніцкай працы, не ўсё, як аказалася, яшчэ наладжана ў дзейнасці Магілёўскай арганізацыі. І пра тое шчыра распавялі ў сваіх выступленнях і рэпліках удзельнікі сходу. Іван Пехцераў падкрэсліваў, што работа з моладдзю, у прыватнасці са студэнцкай, вядзецца недастатковая — магілёўская моладзь мае свае літаратурныя аб'яднанні, але дзейнічаюць яны зусім не пад патранатам Саюза пісьменнікаў. Мікалай Давідовіч хацеў бы, каб у магілёўскіх пісьменнікаў склаліся лепшыя сувязі з літаратарамі іншых абласцей. Віктар Арцем'еў наракаў на тое, што пісьменнікі надта рэдка збіраюцца разам — нават радзей, чым таго патрабуе статут. Валянцін Крыжэвіч і Мікалай Леўчанка, якія прыбылі на сход з Чавусаў і Быхава, у сваіх выступленнях развілі гэтую тэму, паскардзіўшыся на тое, што сталіся аддаленыя ад дзейнасці арганізацыі. Мікалай Падабед выказваўся за тое, каб часцей выносіліся на агульнае абмеркаванне ці прэзентаваліся новыя літаратурныя творы членаў Саюза, бо "мы ўжо перасталі радавацца поспехам сяброў". Гучалі таксама нараканні на тое, што дагэтуль яшчэ Савету абласной пісьменніцкай арганізацыі не ўдалося дамовіцца з аблвыканкамам пра ўсталяванне абласной літаратурнай прэміі. Абраны на другі тэрмін старшынства Уладзімір Дуктаў абяцаў пісьменнікам звярнуць увагу на крытыку і прыкласці ўсе намаганні для выпраўлення хібаў.

## Прынятыя ў СПБ



**Тамара Мітрафанаўна ЛЯЛІХАВА**
***Паэтэса***

Нарадзілася 12 лістапада 1937 года ў в. Машавое Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыла рускае філалагічнае аддзяленне Магілёўскага педагагічнага інстытута. Кіравала хорам, вакальнай групай. Цяпер на пенсіі. Вершы пачала пісаць яшчэ ў школьным узросце. Друкавалася ў ваеннай газеце "Воздушный часовой", у часопісе "Нёман". Выдала кнігі: "Истины жизни" (2001), "Гронка бацькавай каліны" (2002), "Благословенна встреча" (2003), "Табе, Беларусь, свае песні спяваю" (2004), "Адна на скразняку" (2005).



**Сцяпан Іванавіч МІКСЮК**
***Публіцыст***

Нарадзіўся 15 красавіка 1948 г. у в. Нова-Высокае Ельскага раёна Гомельскай вобласці. Служыў ва Узброеных Сілах. Скончыў школу бортправаднікоў і працаваў бортправадніком на пасажырскіх самалётах. Завочна скончыў лётна-тэхнічнае вучылішча грамадзянскай авіяцыі па спецыяльнасці "Тэхнічная эксплуатацыя радыёабсталявання самалётаў". Працаваў радыётэхнікам аэрапорта. Скончыў завочна юрыдычны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Шмат друкуецца ў перыёдыцы. Аўтар трох кніг публіцыстыкі: "Помни имя моё" (2008), "Каролинские рассказы" (2008), "В памяти народной" (2010).

## Актуальна

# «Не аддзяляць сябе ад культуры»

**Ірына ТУЛУПАВА, фота Юрыя Іванова**

**На падмурку, які закладвалі славутыя беларускія роды ў гісторыю Бацькаўшчыны, сённяшнімі днямі працягваецца будаўніцтва сучаснай беларускай культуры. Сведчаннем таму — два вялікія пасяджэнні, арганізаваныя Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь у Мірскім замку.**



***На здымку: міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка ўручае ўзнагароду дырэктару Музея сучаснага выяўленчага мастацтва Наталлі Шаранговіч.***

Пры канцы студзеня адбылося пасяджэнне Рэспубліканскага грамадскага савета па справах культуры і мастацтва пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, які вызначыў асноўныя пункты ўзаемадзеяння дзяржавы і грамадства. А на самым пачатку лютага ў сценах Мірскага замка, які занесены ў спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА, адбылася выніковая калегія Міністэрства культуры Беларусі. Яна мела назву "Аб працы па выкананні галіновай праграмы "Захаванне і развіццё культуры Рэспублікі Беларусь на 2006 — 2010 гады і задачы сферы культуры на 2011 год" і сабрала прадстаўнікоў усіх буйных устаноў культуры розных кірункаў дзейнасці, кіраўнікоў рэспубліканскага, абласнога, раённага ўзроўняў. Прысутнічалі і прадстаўнікі органаў улады, сумежных міністэрстваў, з кім вядзецца дзелавое партнёрства і без якіх складана вырашыць пераважную большасць пытанняў.

Скіравансь да канструктыўнай працы мела свой практычны вынік: у праект падрыхтаванага пратакола калегіі былі ўнесены значныя дапаўненні, выказаныя падчас дэбатаў. Таму спрыяла і нядаўна прынятая (26 снежня 2010 года) дзяржаўная праграма "Культура Беларусі" на 2011 — 2015 гады. У ёй пазначаны 10 раздзелаў, якія адпавядаюць асноўным задачам, галоўным кірункам дзейнасці ў сферы культуры. Удзельнікі сустрэчы вялі гутарку пра традыцыйную народную творчасць і прафесійнае мастацтва, пра клубна-аматарскую і бібліятэчную дзейнасць, пра музейную справу і падрыхтоўку кваліфікаваных кадраў, пра пашырэнне дыяпазону абслугоўвання насельніцтва ды іншае.

Міністр Павел Латушка на калегіі пазначыў падыходы да вырашэння задач. Схематычна яны выглядаюць так: канцэнтрацыя працы на ўмацаванні іміджу культуры ўнутры краіны і за мяжой; узаемадзеянне сферы культуры і сферы адукацыі (запланавана правесці сумесную калегію міністэрстваў); развіццё партнёрства паміж дзяржаўным сектарам і прыватным, папулярызацыя і развіццё мецэнатства; выпрацоўка і рэалізацыя новых ідэй, увядзенне сістэмы грантаў і праектная дзейнасць; адраснасць культурных паслуг; тэхнічнае і тэхналагічнае забеспячэнне сферы, інавацыі ў галіне; роля СМІ ў сферы культуры. Залішне даводзіць, што культурная прастора Беларусі лічыцца частка агульнаеўрапейскай. "І менавіта еўрапейскасць культуры падкрэслівае яе беларускасць", — запэўніў міністр. Таму і стаўленне мусіць быць адпаведным. Да прыкладу, урадавай праграмай запланаваны да 2013 года капітальны рамонт і рэканструкцыя ўсіх 27 тэатраў рэспубліканскага і абласнога падпарадкавання, у бліжэйшую пяцігодку — павелічэнне наведванняў тэатраў, канцэртаў, выстаў на 20 працэнтаў, поўная (на 100 працэнтаў) камп'ютарызацыя бібліятэк, захаванне нашай спадчыны і вяртанне аб'ектам даўніны іх гістарычнай выявы ды іншае.

У гутарцы з карэспандэнтам "ЛіМа", падсумоўваючы вынікі мерапрыемства, адзін з яго ўдзельнікаў, начальнік упраўлення культуры Магілёўскага аблвыканкама Анатоль Сінкавец, выказаў, бадай, спадзяванні многіх: "Задачы пастаўленыя вельмі дакладныя ва ўсіх напрамках: клубная сістэма, бібліятэчная, культурна-гістарычная спадчына, нематэрыяльныя помнікі. І калі нашы губернатары будуць дапамагаць і падтрымліваць, то ў гэтую пяцігодку развіццё культуры будзе даволі ўдалым".

Між іншым, за перыяд, калі быў здадзены замак у Міры, у 6 разоў павялічыліся яго даходы, у чатыры — узрасла колькасць наведванняў. Прыватны, але яскравы прыклад вялізнага патэнцыялу і неабсяжных магчымасцей нашай культуры.

Літабсягі

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота Кастуся Дробава

# Летапісец Палескай зямлі

**Ускладанне кветак да помнікаў выдатным беларускім пісьменнікам з нагоды юбілейных дат мусіць стаць добрай традыцыяй, — вырашылі ў праўленні Саюза пісьменнікаў Беларусі. Таму 8 лютага, у дзень нараджэння Івана Мележа, прадстаўнікі пісьменніцкай арганізацыі прыйшлі на Усходнія могілкі, каб выразіць сваё захапленне творчасцю майстра, якая з гадамі не толькі не страціла запатрабаванасць, але стала ўспрымацца яшчэ больш пашнавартасна і маштабна.**

— Калі разглядаць тое, што стварыў Іван Мележ у сукупнасці, — выказаў свае думкі старшыня Саюза пісьменнікаў Мікалай Чаргінец, — то можна сцвярджаць, што свой "Ціхі Дон" на Беларусі ўжо напісаны. Па значнасці для беларускага народа трылогія "Палеская хроніка" і раман "Мінскі напрамак" набліжаюцца да славутага шолахаўскага твора.

Першы намеснік старшыні СПБ Генадзь Пашкоў узгадаў, што за чалавек быў Іван Мележ. Добры, сціплы, тактоўны, тонкі ў адчуванні прыроды роднага краю і душэўнага стану.

Такія людзі і такія творцы — вялікая рэдкасць, таму каштоўнасць набываюць не толькі ўласна іх творы, але і нават успаміны пра іх. Успаміналі Івана Мележа як таварыша, настаўніка, бацьку, брата ў гэты ж дзень у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, дзе прайшла юбілейная вечарына, цёплая сустрэча сяброў Мележа, яго блізкіх, а таксама даследчыкаў і аматараў творчасці. Запрошана на вечарыну была сястра пісьменніка Любоў Паўлаўна. Выступаў народны артыст Беларусі Генадзь Гарбук, у творчым лёсе якога мележаўскі герой Васіль Дзятлік адыграў такую значную ролю (Дзяржаўныя прэміі СССР і Рэспублікі Беларусь за ўвасабленне на тэатральнай сцэне і ў фільме "Людзі на балоце"). У любові да мележаўскай прозы прызнавалася народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч. Цікавыя факты пра Мележа давёў прысутным даследчык Серафім Андраюк. Гучала ў зале і пісьменніцкае слова — на сцэну выходзілі Анатоль Вярцінскі, Генрых Далідовіч, Васіль Зуёнак. Падчас мерапрыемства адбылася таксама прэзентацыя выстаўкі "Летапісец Палескай зямлі", дзе былі прадстаўлены матэрыялы з фондаў Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва.



*На здымку: прадстаўнікі пісьменніцкай арганізацыі на чале са старшынёй Мікалаем Чаргінцом ускладаюць кветкі да помніка.*

Артлінія

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Віктара Кавалёва

# На імяніны Фёдара

**Новая грамадская суполка — "Шаляпінскае таварыства Беларусі", створаная ў сталіцы пры канцы мінулага года, — заявіла пра сябе ярка. Сёння вечарам у Музеі гісторыі горада Мінска адбудзецца ўрачыстае адкрыццё выстаўкі У. Чарнышова, беларускага мастака, у чыёй творчасці гучыць шаляпінская тэма. А на мінулым тыдні ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі з аншлагам прайшоў канцэрт, прысвечаны дню нараджэння вялікага спевака.**

Паводле сучаснага календара дзень яго нараджэння прыпадае на 13 лютага. Арганізатары канцэрта вырашылі адзначыць шаляпінскую дату раней — паводле старога стылю. Калі ж успомніць, што Шаляпін быў чалавекам рускім, пахрышчаным і з маленства пачынаў сваю співацкую кар'еру ў царкоўным хоры, дык можна звярнуцца да праваслаўнага календара, які падкажа: менавіта 1 лютага трэба спраўляць імяніны Фёдара. Ці думалі пра гэта стваральнікі ды ўдзельнікі імпрэзы, ці не, але ім удалося наладзіць сапраўдныя імяніны. Музыказнаўца І. Зубрыч, вядучая вечарыны, прыгадвала факты біяграфіі спевака, пераканаўча зніТоўваючы іх з канцэртнымі нумарамі, з мастацтвам сённяшніх беларускіх выканаўцаў, у якім так ці іначай прысутнічае "святло далёкай зоркі" — след шаляпінскіх традыцый, творчых прынцыпаў, музычных захапленняў. А кожны ўдзельнік дадаваў сваю непаўторную кветку ў букет імяніннiку.



Вечар праходзіў у шчырым душэўным яднанні сцэны і залы. Амаль дзве гадзіны без антракта прамінулі незаўважна — у сэнсе агульнага адчування часу. Ва ўсіх іншых сэнсах — эстэтычным, эмацыянальным, духоўным, пазнавачым — заўважнай і незабыўнай сталася ці не кожная хвіліна. З рэдкаснай самааддачай выступалі Канцэртны хор Асацыяцыі кіраўнікоў хароў хлопчыкаў БСМД пад кіраўніцтвам А. Варлахіна (канцэртмайстар І. Харэвіч); знаныя салісты У. Громаў, Д. Капілаў, Т. Пятрова, Я. Пятроў, Т. Траццяк; піяністка Т. Старчанка ў ролі канцэртмайстра. А як узрушылі публіку ўладальнік Гран-пры Міжнароднага фестывалю-конкурсу харавога і вакальнага мастацтва імя Ф. Шаляпіна, навучэнец Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі М. Паўлаў (клас М. Парахаўнічэнкі); оперная зорка Н. Акініна; фартэпіянны дуэт Н. Котавай і В. Баравіковай!.. Арганізаваў гэтую дабрачынную імпрэзу прадзюсарскі цэнтр "Класіка" Беларускага саюза музычных дзеячаў (аўтар і рэжысёр праекта — арт-дырэктар цэнтра В. Уколаў).

*На здымку: Таццяна Траццяк.*

Повязі

Вера МІКУЛІК,
фота аўтара

# Знайсці ўзаемаразуменне — неабходнасць часу

**Цэнтр міжкультурнага дыялога і Пасольства Украіны ў Рэспубліцы Беларусь арганізавалі прэзентацыю калектыўнай кнігі "Захаванне нацыянальнай самабытнасці ў кантэксце развіцця міжкультурнага дыялога" з удзелам кіраўніка Прадстаўніцтва ААН у Рэспубліцы Беларусь А. Брука, кіраўніка Прадстаўніцтва ЕС у Рэспубліцы Беларусь Ж. Э. Гольцапфеля, кіраўнікоў і прадстаўнікоў сямнаццаці дыпламатычных місій еўрапейскіх краін.**

Кніга была падрыхтавана і выдадзена Цэнтрам міжкультурнага дыялога як вынік шырокага міжнароднага абмеркавання актуальнай праблемы захавання беларускай культурнай самабытнасці ў сучасным глабальным свеце. Сярод аўтараў кнігі — дыпламаты, навукоўцы, рэлігійныя дзеячы, творчая інтэлігенцыя, прадпрымальнікі.



Падчас прэзентацыі былі абмеркаваны шляхі ўмацавання культурнай самабытнасці як асновы канструктыўнага міжкультурнага дыялога. Надзвычайны Паўнамоцны Пасол Украіны ў Беларусі Раман Бяссмертны адзначыў, што беларуска-ўкраінскі міжкультурны дыялог мае глыбокую гістарычную аснову і грунтуецца не толькі на блізкасці нашых менталітэтаў і светапоглядаў, наяўнасці супольнага палескага рэгіёна, але і на неабходнасці ўлічваць досвед адзін аднаго ў захаванні народнай, традыцыйнай часткі нашых культур. Старшыня Вышэйшага каардынацыйнага савета Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва Уладзімір Карагін звярнуў увагу прысутных на тое, што бізнес і культура як асноўныя фактары будаўніцтва грамадзянскай супольнасці сёння патрабуюць асаблівай падтрымкі для свайго развіцця. Генеральны дырэктар цэнтра Любоў Уладыкоўская выказалася, што міжкультурны дыялог павінен весці да мірнага, бесканфліктнага вырашэння самых розных пытанняў і праблем.

Удзельнікі мерапрыемства асабліва адзначылі цёплую, душэўную атмасферу, якая панавала падчас сустрэчы, што стала магчымым перш за ўсё дзякуючы выстаўцы майстроў беларускай народнай творчасці: ткачыхі Наталлі Кангановіч, майстра саломапляцення Алены Папкоўскай, разьбяра па дрэве Дзмітрыя Зайцава, глінабітнага майстра Сяргея Нарановіча. Музычнае аздабленне мерапрыемства ўзяў на сябе ансамбль флейтыстаў "Brevis" пад кіраўніцтвам Паўла Сурагіна.

*На здымку: арганізатары прэзентацыі Раман Бяссмертны, Любоў Уладыкоўская, Уладзімір Карагін.*

З-пад пяра

Брэсцкая друкарня "Альтэрнатыва" выпусціла калектыўны зборнік твораў аўтараў-берасцейцаў, якія пішуць для дзяцей. Гэтая кніга вершаў, апавяданняў ды казак называецца "Карусель". Укладала яе Таццяна Дзямідовіч — малады таленавіты празаік і маладая мама дваіх дзетак. Ці не таму кніжка атрымалася такой цікавай, пяшчотнай, з вясёлай назвай, з каляровай блакітна-сіняй вокладкай. У зборнік увайшлі творы на рускай і беларускай мовах чатырнаццаці паэтаў і празаікаў.

**Надзея ПАРЧУК**

У межах сацыяльна-культурнага праекта "Рэгіёны", скіраванага на папулярызацыю мастацкай спадчыны рэгіёнаў Беларусі, у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адбылася творчая сустрэча "Родныя мясціны. Случчына: літаратурна-мастацкія традыцыі і пераемнасць". У мерапрыемстве прынялі ўдзел вядомыя ўраджэнцы Случчыны: пісьменнікі, даследчыкі, краязнаўцы, прадстаўнікі Слуцкага райвыканкама, народны калектыў "Ячаўскія вячоркі". У межах творчай сустрэчы таксама адбылося адкрыццё выстаўкі жывапісу і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва "Вандроўка: зіма-лета". Аўтар работ — маладая мастачка са Слуцка Алена Хатэнка.

**Алена ЖДАНОВІЧ**

Адзначыць надыход Новага года ў лютым, па ўсходнім календары, Пасольства Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Беларусі вырашыла прадстаўленнем культурнага праекта, падрыхтаванага сумесна з Беларускім цэнтрам моды. Падчас моднага шоу, у якім прынялі ўдзел кітайскія студэнты і мадэлі беларускай студыі "Тамара", гледачы атрымалі магчымасць пазнаёміцца з касцюмамі кітайскіх імператарскіх дынастый, а таксама кітайскім нацыянальным строем. А пасля мадэльеры Беларускага цэнтра моды прэзентавалі калекцыю жаночага адзення з кітайскага шоўку — "Шаўковы шлях".

**Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

Аматарскі літаратурны клуб "Белы бусел" створаны ў Кобрыне пяць гадоў таму намаганнямі літаратара Васіля Паўзуна. У клубе праходзяць вечарыны, ладзіцца вучоба для паэтаў-аматараў. У 2010 годзе з'явіўся першы зборнік твораў кобрынскіх пісьменнікаў "Натхненне". Намячаецца выданне другога зборніка. А нядаўна "Белы бусел" падзяліўся на дзве самастойныя арганізацыі. Ці было гэтае рашэнне правільным — пакажа час. Пакуль жа паралельна існуюць два літаратурныя аб'яднанні, і — цудоўная магчымасць параўноўваць.

**Наталля КАНДРАШУК**

Да сярэдзіны лютага працуе ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча выстаўка "Пяць месяцаў з жыцця паэта". Яна распавядае пра адзін з самых шчаслівых перыядаў жыцця Максіма — кастрычнік-люты 1916 года, калі Багдановіч ненадоўга вярнуўся ў горад свайго маленства, Мінск. Знаёмства з беларускімі пісьменнікамі, сустрэча Новага года, напісанне новых славутых твораў — усё гэта змясцілася ў тыя пяць месяцаў, зрабіўшы іх незвычайнымі ў біяграфіі паэта. Выстаўка адкрылася 9 снежня ў 119-ы дзень нараджэння Багдановіча.

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

# Сяргей Кара-Мурза: «Мы павінны ўзняцца над болем і гневам»

**Днямі Мінск наведаў член Саюза пісьменнікаў Расіі, вядомы публіцыст і палітолаг Сяргей Кара-Мурза — галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута сацыяльна-палітычных даследаванняў РАН, доктар навук, прафесар. Ён удзельнічаў у рабоце семінара, прысвечанага 20-годдзю СНД. На ім прысутнічалі і журналісты, у тым ліку карэспандэнт "ЛіМа" Уладзімір Бацкалевіч. Думаем, што меркаванні знакамітага грамадазнаўцы па найбольш вострых пытаннях ідэалогіі постсавецкага часу будуць цікавыя і нашым чытачам.**



Фота Паўла Пятровіча

**— Сяргей Георгіевіч, цяпер у некаторых постсавецкіх рэспубліках (Украіна, Грузія) ідуць гарачыя дыскусіі наконт легітымнасці дзяржаўнай улады. Цімашэнка абвінавачвае Януковіча, Чабурданідзе — Саакашвілі ў фальсіфікацыі прэзідэнцкіх выбараў, іншых грахах. Памятаецца, некаторыя "светлыя" галовы заяўлялі і пра нелегітымнасць Дзяржаўнай думы Расіі. Якія, на вашу думку, павінны існаваць крытэрыі легітымнасці?**

— Многія блытаюць паняцці легітымнасць і легальнасць. Так, Дзярждума атрымала на выбарах большасць галасоў, і яе па праву можна лічыць легальнай. Але каб стаць яшчэ і легітымным вышэйшым органам улады, трэба заваяваць аўтарытэт у народа, згуртаваць яго. Калі няма згоды, дзяржава траціць моц. Легітымнасць — гэта яшчэ і перакананне людзей у тым, што, нягледзячы на промахі і недахопы ўлады, яна на дадзены момант з'яўляецца сілай, якой неабходна падпарадкоўвацца. Іншымі словамі, выбар найменшага ліха.

На мой погляд, легітымнасць ні ў якім разе нельга падсілкоўваць рознай ідэалагічнай фразеалогіяй. Успомнім гісторыю. Петраград, люты 1917-га. Лічы, за тры дні рухнула магутная Расійская імперыя. Рускі народ-баганосец пайшоў супраць цара — пасланніка божага. У кастрычніку Часовы ўрад здаўся бальшавікам без бою, у тэатрах нават спектаклі не адмянялі. А што адбывалася пазней? Савецкі чалавек, які быццам бы верыў ідэалам камунізму, разбураў помнікі Леніну і яго паплечнікам, гнаў з высокіх пасад камуністаў і камсамольцаў.

Абаронцы савецкага ладу жыцця былі надта далёкімі ад народа, дасканала не ведалі стану яго жыцця, надзей, спадзяванняў. І тым самым падрывалі легітымнасць Кампартыі — кіруючай і накіравальнай сілы грамадства. А ідэолагі постмадэрну ўдала выкарысталі слабасць культуралогіі, паліталогіі, сацыялогіі, мадэліравання перакананняў… У выніку рухнула "апора міру і сацыялізму". Галоўная прычына — нежыццяздольнасць савецкага грамадазнаўства. Калі сляпы вядзе сляпога, то абодва ўпадуць у яму.

**— Якія высновы варта зрабіць з вопыту "каляровых" рэвалюцый?**

— Гэта не рэвалюцыі ў класічным разуменні (змена грамадскіх фармацый), а хутчэй за ўсё — спектаклі постмадэрну, мэта якіх — звергнуць уладу, вырваць рэспубліку з постсавецкай прасторы. У іх арганізатараў не было пазітыўных праграм паляпшэння жыцця людзей, але было гарачае жаданне стаць лідарамі нацыі. І што? Украіна ледзь зводзіць канцы з канцамі, а большасць насельніцтва Грузіі і Кыргызстана знаходзіцца за рысай беднасці.

**— Апошнім часам вы актыўна займаецеся вывучэннем анаміі постсавецкага грамадства. Ці ўдалося ўстанавіць яе дакладны дыягназ?**

— Анамія фіксуе разрыў паміж мэтамі, марамі і рэальнымі сродкамі іх рэалізацыі. Іншымі словамі, гэта з'ява распаду прававых, эканамічных, сацыяльных, маральных норм, якія звязваюць людзей і грамадства. У савецкія часы гэтае паняцце не выкарыстоўвалася, яно нават у слоўнікі не ўносілася. У выніку многія думалі, што прастытуткі жывуць у Швецыі, шызафрэнікі — у ЗША, мафія існуе ў Сіцыліі. Згодна ідэалагічным догмам, у краіне "развітога сацыялізму" такіх паганых з'яў не павінна было быць. Хваробу заганялі ў кут. Пасля распаду СССР выявілася, што і наша грамадства мела патрэбу ў рэанімацыі. Людзі ведалі нормы паводзін, але ігнаравалі іх.

Тое ж самае і цяпер. Глядзіце, у Расіі 10 працэнтаў дзяцей нараджаюцца па-за шлюбам, у Грузіі — 75. І гэта ў краіне, якая спрадвеку славілася сваімі моцнымі сямейнымі традыцыямі! У паспяховым 2008 годзе ў нас ад злачынных замахаў пацярпелі 2 мільёны 300 тысяч грамадзян, з іх 40 тысяч загінулі. Дэпрэсіўная эканоміка ўзмацняе анамічныя тэндэнцыі. Сярэдні рост даходаў насельніцтва суправаджаецца спадам узроўню жыцця беднякоў. Ва ўсю моц праяўляюцца жорсткасць і хамства багатых і моцных. Знішчаецца гістарычная памяць. Людзі выпадаюць з часу, не плануюць сваю будучыню, пражыў дзень — і дзякуй Богу.

**— Бязлітаснасць можна неяк утаймаваць праз прававыя нормы, а як утаймаваць хамства, бяздушнасць, абыякавасць?**

— На маю думку, неабходна забараніць тэлеканалам дэманстрацыю фільмаў, у якіх галоўнымі героямі выступаюць гангстары, бандыты, злодзеі, прахвосты, прастытуткі і іншая погань. Тэлебачанне, кінематограф кляпаюць свае серыялы па штампах Галівуда. Ненарматыўная лексіка становіцца нормай. Ей "узбройваюцца" дзеці. Часам ідзеш каля школы — і вушы вянуць, калі чуеш, пра што і як яны гавораць. І гэты яд раз'ядае душы, губіць іх.

Зняты цэлыя пласты з багатай рускай літаратуры. Многае ліквідавана з творчасці Льва Талстога, Блока, Брусава, Горкага, Ясеніна… У фільме "Сяргей Ясенін" вялікі паэт-лірык паказаны непрабудным прапойцам і бабнікам. Напрошваецца пытанне: калі ж ён ствараў свае цудоўныя вершы, якія і сёння чытаюцца з асалодай?

Дзе выйсце? Перш за ўсё прадстаўнікам інтэлігенцыі варта неадкладна сесці за стол перамоў з прадстаўнікамі ўладных структур. Прааналізаваць стан грамадства, адказаць на пытанні: хто мы і куды ідзём. Неабходны інтэлектуальнае асваенне рэальнасці, новая эстэтыка. І, канечне, законы, якія б абаранялі годнасць чалавека. Творчая інтэлігенцыя павінна стаць рухавіком у барацьбе за духоўнасць грамадства. Яна — найбольш адчувальная сіла супраць ілжывых канцэпцый і паняццяў. Мы павінны ўзняцца над болем і гневам. Барыкады з такой важнай задачай не справяцца.

**— Загалоўкі вашых артыкулаў "Расія пад ударам", "Расія пры смерці?", "Дэмантаж народа", "Непаладкі ў рускім доме", іншых публікацый гавораць самі за сябе — краіна дужа хворая, ёй патрэбна неадкладнае хірургічнае ўмяшальніцтва. А нядаўна "патрыёт" Клачкоў прама заклікаў народ да паўстання. Сяргей Георгіевіч, дык ці не будзе ў Расіі рэвалюцыі?**

— Ёсць шмат спосабаў зрабіць сябе змагаром за шчасце народнае. Яго заява не што іншае, як правакацыя. Хачу супакоіць вас: у Расіі не ўзнікла рэвалюцыйнай сітуацыі. Нашы людзі добра разумеюць, што рэвалюцыя — гэта агульная гібель. Тым не менш, становішча ў нас надзвычай складанае. Таму ўладам даводзіцца лавіраваць паміж рознымі слаямі грамадства — алігархамі і люмпенамі, сярэднім класам і беднатою, прадпрымальнікамі і рабочымі… Згодна сацыялагічным апытанням, 75 працэнтаў расіян лічаць Ельцына крыніцай усіх бедаў, 85 працэнтаў выказаліся супраць устанаўлення яму помніка.

І ўсё ж помнік у Свярдлоўску адкрылі. Мы наступаем на адны і тыя ж граблі — на словах даражым думкамі людзей, на справе — іх ігнаруем. Кіруючая "вярхушка" пранізана ліберальнымі ўтопіямі, што садзейнічае расслаенню грамадства. Сваю прыхільнасць каштоўнасцям іншай культуры і цывілізацыі нашы рэфарматары апраўдваюць тым, што быццам бы лібералізм — вышэйшае дасягненне сусветнай культуры, што ён заснаваны на агульначалавечых каштоўнасцях і адпавядае "натуральным" жаданням чалавека. А Расія, маўляў, ухілялася ад стаўбавой дарогі цывілізацыі і цяпер ёй даводзіцца расплачвацца за сваю памылку праз хваравітыя рэформы.

Мы пакуль харчуемся трупам забітай савецкай сістэмы. Ніякіх новых рэсурсаў, нічога новага не пабудавалі, ніводнай вялікай сістэмы стварыць узамен савецкай не ўдалося. Мы жывём на нафце і газе, якія былі разведаны, добраўпарадкаваны ў савецкі час. І на газапроводах, якія пабудавалі.

**— Што рабіць? Вярнуцца да гістарычнага вопыту будаўніцтва сацыялізму, планавай эканомікі?**

— Практычна нерэальна вяртанне да планавай эканомікі і прыняцце праграмы ўзнаўлення, якая праводзілася ў СССР пасля 1945 года. Прычына — разбуранасць навукова-тэхнічнага патэнцыялу, складанасць прамысловых вытворчасцей, наяўнасць часткі грамадства (7 — 10 %), якая атрымала ўласнасць праз прыватызацыю і якая будзе актыўна супраціўляцца, наяўнасць праслойкі людзей, якія стыхійна выступаюць супраць рынку, аднак не жадаюць вяртання планавай эканомікі, адсутнасць аб'яднальнай сілы (тыпу татальнай партыі). Таму неабходны нейкі "гібрыдны" праект.

**— Наколькі нам вядома, вы былі назіральнікам на выбарах Прэзідэнта Беларусі. Вашы ўражанні ад падзей 19 снежня.**

— У гэтым скандале была зацікаўлена не толькі апазіцыя, але і яе прыхільнікі з блізкага і далёкага замежжа. Мэта — прымусіць Беларусь рухацца тым шляхам, які ўкажуць Еўрасаюз і ЗША. З усіх мадэляў выхаду з сусветнага фінансава-эканамічнага крызісу Беларусь выбрала самую дзейсную і ўдала рэалізуе яе. Увачавідкі дынаміка развіцця эканомікі і сацыяльнай сферы. Прэзідэнт, урад робяць усё магчымае, каб вывесці краіну ў лік лідараў тэхналагічнага і інтэлектуальнага развіцця. Але камусьці захацелася дэстабілізаваць становішча. Я не сцвярджаю, што ў рэспубліцы няма праблем. Наадварот, многія з іх вырашаюцца марудна: вялікая запазычанасць, імпарт тавараў перавышае экспарт, павялічваецца колькасць стратных прадпрыемстваў. Аднак я не думаю, што змена ўлады паконча з гэтымі праблемамі адразу і назаўсёды… Разумеецца, да добрага чалавек хутка прывыкае. І ён не ўзважвае тое, што было раней, з тым, што ёсць і што яму пагражае.

**— Вы наведвалі выбарчыя ўчасткі. З кім сустракаліся? Што пачулі?**

— Гутарыў і з назіральнікамі ад апазіцыі, і з моладдзю. На маю думку, у людзей сталага ўзросту захаваліся рысы савецкага мыслення. Мяне здзівіла сцэнка на адным з участкаў. Кабета-ветэранка расшпіліла дублёнку, каб паказаць медалі, і пайшла ў атаку на групу дзяўчат, якія прадстаўлялі тут інтарэсы іншых кандыдатаў у прэзідэнты. Якія абразлівыя словы гучалі ў іх адрас! Да іншадумства трэба ўсё ж адносіцца цярпліва. Я не ўпэўнены, што тыя ж дзяўчаты — ворагі Беларусі. Проста яны часова не разумеюць, варта растлумачыць іх памылкі, пераканаць. Лозунг "Хто не з намі, той супраць нас" даўно страціў сваю актуальнасць.

Юбілеі

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

# Незвычайны чалавек

**85 гадоў споўнілася Міхасю Канстанцінавічу Міцкевічу, доктару тэхнічных навук, сыну і захавальніку спадчыны Якуба Коласа.**

Пра тое, што ў сусветных славутасцей таксама бываюць дзеці, задумваешся па-сапраўднаму толькі тады, калі раптам давядзецца пазнаёміцца з кімсьці з іх (як варыянт, пазнаёміцца завочна — з тэлеінтэрв'ю альбо з газетнай публікацыі). Вельмі часта такія знаёмствы расчароўваюць, бо ў дзецях мы міжволі шукаем водбліск геніяльнасці бацькоў. Гэта і сапраўды цяжка — вырасці ў Асобу, ад нараджэння знаходзячыся ў цені вялікага чалавека. Але малодшаму сыну Якуба Коласа, Міхасю Канстанцінавічу Міцкевічу, тое ўдалося. Ён не стаў "ламаць сябе", каб ператварыцца ў бляклую копію бацькі. Абраў зусім іншы шлях. І стаў вядомым навукоўцам. А яшчэ — спартсменам, майстрам спорту па кулявой стральбе.

Аднак, як высветлілася, мы ведалі не пра ўсе таленты Міхася Канстанцінавіча. Выстаўка, падрыхтаваная да яго 85-гадовага юбілею Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеем Якуба Коласа, адкрыла нам гэтага незвычайнага чалавека яшчэ і як цікавага фотамастака. Работы Міхася Міцкевіча, выкананыя ў чорна-белым рэжыме, шырока не рэкламаваліся. Фатограф здымаў членаў сваёй сям'і, блізкіх, сяброў. Аднак атрымоўваліся не проста кадры, якія фіксуюць рэчаіснасць, — атрымоўваліся высокамастацкія творы, напоўненыя роздумам, пачуццямі стваральніка, філасофскімі абагульненнямі.

Цікава раскрывае нам асобу Міхася Міцкевіча таксама прадстаўлены музеем збор кніг з дароўнымі надпісамі і вершы, якія ў розныя часы яму прысвячалі сябры і родзічы.

— Да тых часоў, пакуль я не падрыхтаваў гэтую экспазіцыю, — тлумачыць сам Міхась Канстанцінавіч, — ніхто не задумваўся нават над тым, што ёсць такі цікавы жанр у літаратуры — прысвячэнні. Прысвячэнні літаратараў літаратарам — іх многа, яны ёсць у кожнага паэта. А якія цікавыя прысвячэнні пішуць навукоўцы! Каб сабраць самае лепшае — былі б цэлы зборнік цікавых выслоўяў і думак.

Выстаўка адкрылася ў дзень нараджэння юбіляра. Да той жа падзеі быў прымеркаваны літаратурны вечар, што прайшоў пад назвай "Дарагі мой Міхасёк…". Гэта — цытата з Якуба Коласа. Менавіта так, і нійначай, вялікі паэт звяртаўся да малодшага свайго сына ў пісьмах і запісках.

# Ці патрэбна маладым літаб'яднанне?

Алеся ЛАПІЦКАЯ

**Алесь Бадак добра вядомы чытачам "ЛіМа" па сваіх развагах пра сучасны літаратурны працэс. Тэма сённяшняй размовы з галоўным рэдактарам часопіса "Нёман" і старшынёю секцыі па рабоце з моладдзю СП Беларусі — праца з маладымі літаратарамі.**

**— Кажуць, што цікавасць да літаратуры сёння меншае — але ці меншае пры гэтым колькасць пачынаючых творцаў?**

— Не, цяпер іх нават больш, чым трыццаць гадоў таму, калі я сам спрабаваў сябе ў літаратуры: тады цяжэй было выдаць кнігу, надрукавацца, бо было менш выданняў і выдавецтваў. Амаль пры кожнай раённай газеце мелася сваё літаб'яднанне — але, як правіла, для многіх паэтаў і празаікаў творчае жыццё пачыналася і заканчвалася менавіта там. Я памятаю, якім вялікім літаратурным аўтарытэтам для мяне, тады яшчэ школьніка, быў кіраўнік літаб'яднання пры ляхавіцкай раённай газеце, найцудоўнейшы чалавек Кастусь Турко. А ён вельмі ганарыўся тым, што яго ў свой час раз ці два надрукавала "Маладосць". Сёння пры раёнках менш літаб'яднанняў, затое наогул магчымасцей для творцаў куды больш — і гэта стымулюе маладых аўтараў.

**— Канкрэтная праца з творцам — гэта дэталёвае абмеркаванне яго тэкстаў рэдактарам альбо сталым пісьменнікам. Хто з беларускіх літаратараў мае сёння час і ахвоту гэтым займацца?**

— Найперш, вядома, тыя людзі, якія працуюць у нашых літаратурных выданнях, людзі, якія не проста гэтым зарабляюць сабе на хлеб, але і любяць сваю працу, любяць моладзь, імкнуцца ўсяляк падтрымліваць яе. Гэтыя любоў і падтрымка лепш за ўсё праяўляюцца на творчых сустрэчах у школах, у ВНУ, пры нейкіх выпадковых знаёмствах з юнымі аўтарамі. Абыякавы да іх лёсу творца пройдзе міма і падчас свайго выступлення ў маладзёжнай аўдыторыі нават не пацікавіцца, ці ёсць сярод слухачоў тыя, што спрабуюць свае сілы ў літаратуры. А вось неабыякавы яшчэ і запросіць іх на сцэну, пакіне тэлефон рэдакцыі. Увогуле, быць добрым рэдактарам, асабліва ў працы з маладымі, — гэта таксама талент. Кепскі рэдактар сталага майстра ўжо не сапсуе, а вось маладому можа нашкодзіць. На шчасце, рэдактары, якія працуюць у выданнях нашай установы — гэта, як правіла, людзі не выпадковыя. Той з пачаткоўцаў, хто звяртаецца ў Саюз пісьменнікаў, таксама можа атрымаць кваліфікаваную кансультацыю. Калі ў маладых ёсць жаданне пачуць прафесійны аналіз і ацэнку ўласнай творчасці, то зрабіць гэта ёсць каму.

**— А хіба не ўсім маладым гэта патрэбна?**

— Сёння малады чалавек можа сабраць грошы ці знайсці спонсара і выдаць кніжку, не чакаючы, пакуль яго надрукуюць. Вельмі цяжка бывае давесці чалавеку, які трымае ўласную кніжку ў цвёрдай вокладцы, што гэтае выданне не абавязкова ёсць сведчаннем яго таленту. Аналіз творчасці — гэта, як правіла, не толькі станоўчыя каментарыі, але і выяўленне недахопаў, бо, натуральна, не ўсё бывае раўназначным і ў прызнаных аўтараў. І да гэтага трэба быць падрыхтаваным. На крытыку многія рэагуюць хваравіта (хоць калі яна каму падабалася?!). Часам прыкладна так: "Ну і што мне ваш часопіс, у вас наклад некалькі тысяч, а паглядзіце, колькі чалавек заходзіць на мой сайт ці на мой блог!" Хоць зайсці на сайт — гэта тое ж самае, што зайсці ў кнігарню, узяць кнігу і пагартаць. Можна набыць яе, а можна і паставіць на месца.



Фота Кастуся Дробава

**— Якія новыя тэмы, новыя мастацкія прыёмы прыносяць маладыя аўтары ў беларускую літаратуру?**

— Сённяшняя маладая літаратура больш разняволеная ў тэматычным плане, у стылёвым, таму яна вельмі разнастайная, што асабіста мне вельмі імпануе. Адчуваюцца ўплывы не толькі нашай класікі, але і рускай літаратуры, і еўрапейскай, і ўсходняй. Маладыя пільна сочаць за ўсімі плынямі ў сусветнай літаратуры, і гэта цудоўна. Тут вам і нелінейная проза, і постмадэрнісцкая паэзія. І спробы, часам вельмі цікавыя, сумясціць у адным творы некалькі жанраў. Але наватарства, калі яно не абапіраецца на нацыянальнае, калі ствараецца з аглядкай, каб не дай Бог не абвінавацілі ў традыцыяналізме, рызыкуе застацца незапатрабаваным. Вопытныя садоўнікі ведаюць: каб атрымаць багаты ўраджай з дзівосных дрэў, лепш прышчэпліваць іх чаранкі, а не прывозіць самі дрэвы, недзе далёка выкапаныя з коранем.

Што да канкрэтных спраў, то адкрыю невялікі сакрэт: неўзабаве наша ўстанова на базе часопіса "Маладосць" аб'явіць паэтычны конкурс сярод моладзі, прысвечаны 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Магчыма, да конкурсу далучыцца часопіс "Полымя", і лепшыя творы канкурсантаў будуць надрукаваны на яго старонках. Ну, а ў "Нёмане" будуць змешчаны самыя адметныя творы маладых у перакладзе на рускую мову. Пасля, мяркуем, па выніках конкурсу можна будзе і кнігу выдаць.

**— Каго з маладых творцаў вы маглі б вылучыць?**

— Адзін з самых таленавітых маладых празаікаў для мяне — Альгерд Бахарэвіч, хаця сам сябе ён наўрад ці лічыць маладым. Ці той жа Андрэй Хадановіч альбо Зміцер Вішнёў... У гэтым сэнсе, напэўна, прасцей называць імёны прадстаўніц слабой паловы чалавецтва (*смяецца*). Віка Трэнас, Таццяна Сівец, Дзіта Карэліна... А вось зусім новае літаратурнае імя — Алена Мальчэўская. Пакуль яна ў асноўным вядомая як журналістка. Але я чытаў яе вершы і прозу ў рукапісным варыянце; калі б мы перад гэтым не пазнаёміліся, ніколі не паверыў бы, што такія "дарослыя" рэчы піша зусім юная дзяўчына.

Іншая справа, што і сярод дваццацігадовых, і сярод трыццацігадовых цяжка назваць, асабліва ў паэзіі, бясспрэчных геніяў, якім можна прарочыць такую ж ролю ў літаратуры пачатку XXI стагоддзя, якую для свайго часу сыграла паэзія Куляшова, Танка, Панчанкі. У свае трыццаць гэта былі ўжо бясспрэчныя лідары ў беларускай паэзіі. Хоць я цудоўна разумею: "няма таго, што раньш было" і ўжо наўрад ці будзе.

**— Далучэнне маладых літаратараў да працы ў РВУ — збег абставін ці мэтанакіраваная палітыка? Як глядзяцца тэксты маладых журналістаў, літаратуразнаўцаў побач з тэкстамі сталых аўтараў?**

— Тое, што ў нас працуе шмат маладых — не выпадковасць. Час хутка мяняецца, у ХХ ст. у літаратуры ён цёк больш запаволена. Дзесяцігоддзямі на вяршыні былі адныя і тыя самыя імёны, і можна было чакаць 20 — 30 гадоў, пакуль хтосьці зойме яшчэ адно месца на літаратурным алімпе. Сёння літаратура развіваецца больш хуткімі тэмпамі і літаратурныя выданні працуюць у іншым рэжыме: ідзе барацьба за чытачоў, якім 30 — 40 гадоў, а, на вялікі жаль, гэта пакаленні, якія перастаюць чытаць перыёдыку. Каб мы ішлі ў нагу з часам, нам трэба, каб у нашых выданнях працавалі пагодкі тых, хто можа быць нашым чытачом. Што да тэкстаў маладых... Мне падабаецца іх стыль, падабаецца імкненне пісаць арыгінальна, нават калі гэта тычыцца банальных журналісцкіх карацелек. Раней у газетах панавалі журналісцкія штампы, мастацкія творы некаторых аўтараў, крывячыся, называлі газетчынай. Сёння многія газетныя матэрыялы чытаць цікавей, чым мастацкія творы.

**— Што робіць у сэнсе падтрымкі моладзі рэдакцыя часопіса "Нёман"?**

— Апроч таго, што мы друкуем творы рускамоўных пісьменнікаў Беларусі, таксама прапануем сваім чытачам і пераклады беларускай літаратуры на рускую мову. Бо перакладчыкаў, якія перакладаюць з беларускай на рускую, сёння вельмі мала. Пры тым, што беларуская літаратура, не сакрэт, часта выходзіць на еўрапейскі рынак менавіта праз рускую мову: знайсці ў Венгрыі, Францыі, у блізкім замежжы перакладчыкаў з беларускай мовы вельмі цяжка. Не так даўно пры часопісе "Нёман" створаны "Клуб перакладчыкаў". Малады перакладчык можа завітаць да нас у любы рабочы дзень, прынесці свае пераклады, атрымаць кансультацыю.

Людзі прыходзяць у літаратуру альбо паэтамі, альбо празаікамі, альбо драматургамі. І калі паэтамі нараджаюцца, то перакладчыкамі становяцца — гэта бясспрэчна. На сёння ў Беларусі няма выдання, дзе перакладам надавалася б такая роля, як у "Нёмане". Мы нават распачалі новую рубрыку "Тры маіх паэты", у якой найбольшая ўвага прысвечана перакладчыку: мы расказваем пра яго ці робім з ім інтэрв'ю, а ўжо ніжэй друкуем яго пераклады тых трох паэтаў, якіх ён прапануе сам. А то, па даўняй традыцыі, у літаратурных выданнях нават біяграфія перакладчыка, у адрозненне ад біяграфій аўтараў, не даецца.

**— Сёння ў Мінску няма літаб'яднання, якое б, прыкладам, штотыднёва праводзіла сустрэчы літаратараў — з чытаннем і абмеркаваннем твораў, з дыскусіямі на літаратурныя тэмы. Чаму так склалася? Ці патрэбна нам штосьці кшталту колішняга "Першацвета"?**

— Я думаю, пры той жа "Маладосці" такое аб'яднанне магло б існаваць. Хаця мне падаецца, што сёння трэба шукаць і іншыя формы. На пасяджэннях літаб'яднанняў творцы абмяркоўваюць тэксты адно аднаго, так усё пачынаецца і заканчваецца – гэта вельмі важна, але гэтага недастаткова. Мне асабіста вельмі хацелася б, каб мы часцей прыцягвалі маладых аўтараў да нашага літаратурнага жыцця: каб яны часцей удзельнічалі ў круглых сталах, часцей ездзілі з намі на выступленні. Падчас выязных мерапрыемстваў можна прыцягваць да ўдзелу ў іх пачынаючых творцаў, якія жывуць там, куды мы накіраваліся. Папершае, гэта карысна для іх саміх, а па-другое... Адна справа, калі ў моладзевай аўдыторыі пра маладую беларускую літаратуру расказваем мы з Раісай Баравіковай, і зусім іншая справа, калі разам з намі на сцэне выступаюць самі маладыя. Гэта тое ж самае, як калі б у кінатэатры гледачам замест дэманстрацыі фільма проста яго пераказвалі.

Universum



## Паэзія плюс блюз

Віка ТРЭНАС

*Якая яна, цяперашняя "залатая моладзь"? Што сёння значыць быць сучасным і модным? Шаноўныя бацькі, не спяшайцеся хаваць ад дзяцей глянцавыя часопісы, дзе пры кожным зручным і нязручным выпадку згадваецца слова "гламур". Бо гэтая з'ява зусім не палохае людзей высокай культуры. Наадварот, на ейным фоне прасцей адрозніць сапраўднае ад фальшу, натуральнае ад штучнага — карацей, белае найбольш выгадна выглядае побач з чорным. Прынцып кантрасту дапамагае глыбей зразумець найноўшае мастацтва. А непрыняцце маскульту спараджае новыя эстэтычныя формы. Маладое пакаленне беларускіх пісьменнікаў робіць элітарную літаратуру. І яшчэ — паказвае ўзоры твораў і твараў. Быць інтэлектуалам — гэта не толькі пісаць самому, але і чытаць іншых. Быць прафесіяналам — значыць авалодаць сакрэтамі майстэрства ды не пашкадаваць падзяліцца досведам з пачаткоўцамі. Быць адукаваным — ведаць сферу сваёй дзейнасці, але і цікавіцца рознымі відамі мастацтва.*

*Кажуць, немагчыма ўседзець адразу на некалькіх крэслах. Гэта дакладна не пра нас — не пра "залатую моладзь". А як жа выслоўе: здольны чалавек таленавіты калі не ва ўсім, то шмат у чым? Тым болей калі ёсць з каго браць прыклад.*

## Ноты, рыфмы, рытмы

Сярод меламанаў ёсць асаблівыя людзі — тыя, хто слухаюць блюз. Сапраўдныя гурманы, яны смакуюць кожную ноту, для іх музыка стала не проста філасофіяй і ладам жыцця, але паветрам, якім яны дыхаюць. Блюз (англ. "туга, меланхолія"), як і паэзія, — зацягвае.

Неверагодна, але музыка, прыдуманая сто гадоў таму афраамерыканцамі, што апавядала рэальныя гісторыі з іх цяжкога жыцця, кранула сэрцы мільёнаў людзей і стала набыткам сусветнай культуры. Блюз мае нацыянальныя варыянты, яго спяваюць не толькі на англійскай (традыцыйна), але і на французскай, польскай, рускай мовах. Як наконт песень ***па-беларуску***?

Адзін з лепшых блюзменаў Беларусі жыве ў Бяльнічах. Не дзіва, што гурт ягоны называецца "White Night Blues" ("Блюз белай ночы"). Нядаўна калектыў адзначыў сваё дзесяцігоддзе. За гэты час Юры Несцярэнка са сваёй камандай паспеў паўдзельнічаць у шматлікіх фестывалях, у тым ліку замежных, выступіць з аўтарскімі канцэртнымі праграмамі, выдаць некалькі дыскаў на некалькіх мовах. Асабліва прыцягальныя для публікі сталі песні, напісаныя Юрыем Несцярэнкам на вершы сучасных беларускіх паэтаў — Людмілы Рублеўскай, Віктара Слінко, Алёны Беланожкі, Алы Войлакавай.

## Ад вершаў да прозы

Аказваецца, ад вершаў да прозы не адзін крок, а дванаццаць тактаў — як у блюзавай мелодыі. Юры не толькі віртуозны гітарыст, аўтар песень і педагог. "Што тычыцца пісьменніцтва і музычнай творчасці, то адно аднаму не замінае, нават, думаю, наадварот, толькі дапаўняе", — кажа ён. А таму — займаецца журналістыкай, вядзе аўтарскую калонку на сайце "Родныя Вобразы", піша і паспяхова друкуе апавяданні і навелы, спрабуе сябе ў мастацкім перакладзе. Як тут не ўспомніць знакамітыя радкі Уладзіміра Маякоўскага:

*А вы ноктюрн сыграть смогли бы*
*На флейте водосточных труб?*

# Манаверш: увесь свет у адным радку

Таццяна ШЫШОВА

**Французскі філосаф П. Буаст аднойчы даў добрую параду: “Будзьце нешматслоўнымі; дакладны сродак прымусіць слухаць сябе — гэта сказаць шмат у нешматлікіх словах”. Талент казаць многае ў некалькіх словах вельмі добра можна рэалізаваць у такой паэтычнай форме, як манаверш.**



Малюнак Алесі Ісы

## Прырода манаверша

Наконт гэтай формы ў слоўніку В. П. Рагойшы адзначана наступнае: “Аднарадковік (манаверш, ад грэч. monos — адзін і лац. versus — верш, радок) верш, які складаецца з аднаго радка, завершанага па сэнсе, па сінтаксічнай і метрычнай структуры”. Падобную фармулёўку прапануе і С. Бірукоў у сваёй кнізе “Року укор”, але дадае да яе істотную заўвагу: “…але гэтага (пэўнага памеру і рытму. — ***Т. Ш.***) яшчэ недастаткова і для таго, каб назваць вершамі шматрадковы тэкст, якому ўласцівыя знешнія прыкметы паэтычнага твора. Відавочна, што верш (аднарадковы ці шматрадковы) — гэта перадусім канцэнтрацыя — мысленчая, эмацыйная, інтанацыйная. Зразумела, тут можа быць улічаны і момант парадаксальнасці”. Відавочна, што такія фармулёўкі — толькі верхавіна айсберга, бо наконт вызначэння манаверша існуе шмат спрэчак.

На працягу XX стагоддзя манаверш ва ўсіх асноўных заходніх літаратурах мінуў шлях эстэтычнай нармалізацыі, ператварыўшыся ў рэдкую, але заканамерную, не звязаную з эфектам эпатажу форму паэтычнага выказвання; у Расіі, у прыватнасці, да манаверша звярталіся такія розныя аўтары, як К. Бальмонт, Д. Хармс і інш. На мяжы 1980 — 1990-х гг. паэт У. Вішнеўскі нават стварыў на аснове манаверша ўласны аўтарскі жанр, які прынёс шырокую папулярнасць і аўтару, і выкарыстанай ім форме. У англамоўнай паэзіі прыкметна паўплываў на росквіт манаверша засвоены з японскай паэзіі вершаваны жанр хайку, які ў арыгінале ўяўляе сабой адзін слупок з іерогліфаў; у канцы 1990-х гг. з распачатай экспансіяй хайку ў беларускую паэзію развіццё беларускага манаверша таксама атрымала новы стымул. Да падабенства хайку і аднарадковіка мы яшчэ звернемся. Як і большасць маргінальных жанраў, манаверш зрэдку ў невялікай колькасці з’яўляецца ў зборніках паэтаў, але не становіцца папулярным у беларускай паэзіі. Хаця гэты жанр мае ўсе шансы такім стаць, бо, на думку некаторых даследчыкаў, сам манаверш прыйшоў з фальклору. Так, даследчык Я. Сціпанаў параўноўвае манавершы і прымаўкі, народныя запевы. Д. Кузьмін да аднаго з фактараў распаўсюджвання манаверша ў рускай літаратуры адносіць савецкія лозунгі тыпу “Жить стало лучше, жить стало веселей”. Сама прырода манаверша, яго кароткі памер і канцэнтраваны змест спрыяюць фальклярызацыі гэтага жанру. Як ужо было адзначана, існуе шэраг праблем, звязаных з ідэнтыфікацыяй манаверша.

## Манаверш: паэзія ці проза

Нягледзячы на вялікую колькасць крытэрыяў, якія дазваляюць адрозніваць паэзію і прозу, і для простага чытача, і для вопытнага філолага самым першым крытэрыем будзе тое, як твор выглядае — карацей кажучы, у радок ці ў слупок ён запісаны. Прафесар Ю. Арліцкі ў сваіх складаных развагах таксама прыйшоў да такой простай думкі: “Вернемся, аднак, да праблемы размежавання верша і прозы ў іх аўтэнтычнай, пісьмовай рэпрэзентацыі. У адносінах да яе і толькі да яе можна казаць пра магчымасць строгага размежавання большай колькасці тэкстаў на вершаваныя і празаічныя, абапіраючыся пры гэтым на строга фармальныя і таму лагічна несупярэчныя прыкметы: формы размяшчэння тэксту на лісце паперы. Прасцей кажучы, верш — гэта тое, што размяшчаецца ў “слупок”, а проза — тое, што пішацца і друкуецца ў радок”. А калі так, то куды ж аднесці манаверш, які ўяўляе сабой адзін радок? Лагічна было б запісаць яго ў прозу. Паэзія, нават калі гэта паэзія без рыфмы, прадугледжвае хаця б два радкі. Аднак на самай справе на гэтым слабым аргуменце на карысць таго, што манаверш — гэта проза, можна паставіць кропку, бо больш ніякіх аргументаў, якія б дазвалялі залічыць аднарадковік у празаічныя жанры, няма. Затое ёсць іншыя прыкметы, якія адносяць манаверш да паэзіі:

1) рытм, метр. Звычайна такі радок гучыць як вырваны са шматрадковага верша. Дарэчы, тэарэтычна кожны шматрадковы верш утрымоўвае ў сабе свой манаверш — той самы ключавы радок, дзеля якога чытач зноў і зноў вяртаецца да верша. Манаверш — у гэтым выпадку “зэканомлены” верш. У наш час такая эканомія, на жаль, актуальная.

2) наяўнасць сістэмы тропаў, завершанай думкі.

## Манаверш і хайку

Як ужо было адзначана, хайку фактычна адкрыў другое дыханне для манаверша, таму і зрабіў на яго своеасаблівы ўплыў. Нягледзячы на тое, што еўрапейскія літаратуразнаўцы ў адзін голас сцвярджаюць, што сапраўдны хайку запісваецца ў адзін радок, у беларускай літаратуры ўсё ж склалася традыцыя запісваць яго ў тры радкі. Аднак многія беларускія манавершы вельмі нагадваюць хайку. Так, напрыклад, калі б сам А. Арашонак не адзначыў свой аднарадковік як манаверш, яго бездакорна можна было б залічыць у хайку:

*Над морам ноччу зноў ззяе*
*маяк — бурштынавы ліхтар.*

У гэтым выпадку для сапраўднага хайку не хапае аднаго склада, аднак для сучасных хайку гэта ўсяго толькі дробязь, бо правіла аб 17 складах носіць хутчэй рэкамендацыйны характар. Калі запісаць гэты верш у характэрных для хайку суадносінах 5-7-5, сумненняў не застанецца, перад намі — дзіця японскай паэзіі:

*Над морам*
*ноччу зноў ззяе маяк —*
*бурштынавы ліхтар.*

Прычым, такі падзел на радкі з’яўляецца не толькі штучным прытрымліваннем правіл хайку, а яшчэ і адпавядае рэальным паўзам у вершы. Наяўнасць такіх паўз таксама больш характэрная для хайку, як і сам змест. І пры ўсім гэтым, калі мы зноў вернемся да шматлікіх фармулёвак манаверша, аднарадковік А. Арашонка падыходзіць пад іх апісанне. Атрымліваецца, што ўсё залежыць ад самога аўтара: якім жанрам назавеш, так яго і будзе ўспрымаць чытач. З другога боку: а чаму нельга лічыць манаверш і хайку роднаснымі з’явамі? Хайку толькі адлюстроўвае ўсходняе светабачанне, успрыманне свету, аднак фармальна і яго можна лічыць манавершам. Сам хайку ў свой час з’яўляўся толькі часткай гульнідвубою рэнга, таму і хайку — гэта таксама адзін радок, які як быццам вырваны з агульнага верша. Такім чынам, паміж хайку і манавершам нельга правесці дакладнай мяжы. Наадварот, некаторыя даследчыкі лічаць сапраўднымі манавершамі менавіта аднарадковікі накшталт манавершаў А. Арашонка, бо яны заснаваны на тропах. Такую думку прадстаўляе Я. Сціпанаў, які размяжоўвае паняцці манавершаў і аднарадковікаў. Да першых адносяцца вершы, заснаваныя на нейкім мастацкім прыёме, сюды ўваходзяць і вершы-паліндромы. Да аднарадковікаў аўтар адносіць так званыя “кічавыя” вершы, больш блізкія да афарызмаў. Так, калі прытрымлівацца думкі даследчыка, да манавершаў будуць адносіцца наступныя радкі А. Дэбіша і В. Бурлак:

“ *У англамоўнай паэзіі прыкметна паўплываў на росквіт манаверша засвоены з японскай паэзіі вершаваны жанр хайку, які ў арыгінале ўяўляе сабой адзін слупок з іерогліфаў; у канцы 1990-х гг. з распачатай экспансіяй хайку ў беларускую паэзію развіццё беларускага манаверша таксама атрымала новы стымул. Як і большасць маргінальных жанраў, манаверш зрэдку ў невялікай колькасці з’яўляецца ў зборніках паэтаў, але не становіцца папулярным у беларускай паэзіі. Хаця гэты жанр мае ўсе шансы такім стаць, бо, на думку некаторых даследчыкаў, сам манаверш прыйшоў з фальклору.*

*У сутонні збалелай душы*
*сонца ўзышло.*

*Поўзаў По ў запоі.*

А да аднарадковікаў М. Навіша:

*Дзе праўда ёсць,*
*там нас з табой няма.*

З дакладнасцю можна сказаць, што прыведзеныя тры аднарадковікі зусім розныя, аднак усе яны заснаваны на тым ці іншым прыёме, толькі ў адным выпадку ён больш выразны, а ў іншым — менш, таму і падстаў падзяляць іх на манавершы і аднарадковікі няма.

## Манаверш і афарызм

У прынцыпе спробы залічыць манаверш ці да хайку, ці да афарызма і ёсць адлюстраванне ўсё той жа праблемы аднясення аднарадковікаў да прозы ці да паэзіі. Аб’ядноўвае манаверш і афарызм лаканічнасць, канцэнтрацыя зместу. А галоўнае іх адрозненне — наяўнасць ці адсутнасць тропаў. Хаця гэта і не вельмі істотнае адрозненне, бо па сутнасці кожны манаверш прэтэндуе стаць афарызмам, у той час як не кожны афарызм ёсць манаверш. Так, напрыклад, манаверш М. Навіша несумненна з’яўляецца афарызмам:

*Сама лёгка вучыць*
*усё чалавецтва адразу.*

Паколькі два апошнія пытанні так і не вызначаны, то даследчыкі, у прыватнасці Д. Кузьмін, вылучаюць такія фармальна-жанравыя разнавіднасці манавершаў, як манаверш-хайку, манаверш-афарызм, манаверш — антычная стылізацыя. Апошні тып манавершаў, які ўяўляе сабой аднарадковік, напісаны антычным гекзаметрам, не сустракаецца ў сучаснай беларускай літаратуры. У манавершах-хайку часам адсутнічаюць усялякія знакі прыпынку:

*Рой зорак*
*узвіўся з нябачнага вулею.*

Такія манавершы прадстаўлены ў творчасці А. Ліпая пад назваю “стрэмкі”. Увогуле знакі прыпынку ў “стрэмках” А. Ліпая прысутнічаюць, аднак кропак у канцы вершаў няма. Такім чынам, аўтар хацеў паказаць, што, нягледзячы на тое, што яго аднарадковікі поўнасцю завершаны і аўтаномны, усё ж працяг ягонай думкі магчымы. Часцей за ўсё манавершы-хайку ўяўляюць сабой лірычныя мініяцюры апісання прыроды ці пачуццяў, як гэта і прынята ў хайку. Такімі, напрыклад, з’яўляюцца манавершы А. Дэбіша, А. Арашонка, А. Ліпая.

*У сутонні збалелай душы*
*сонца ўзышло.*

*Перабірае вечнасць*
*пацеркі стагоддзяў.*

*Лебедзь тваёй рукі ловіць*
*з вуснаў маіх пацалункі.*

Для манавершаў, якія больш падобныя да афарызмаў, важнае значэнне набывае назва, бо часта яна дапамагае раскрыць змест аднарадковіка. Так, напрыклад, раслумачыць манаверш В. Ыванова можна па-рознаму:

*Шмат зор у небе,*
*сонейка адно.*

Аднак усё становіцца на свае месцы, дзякуючы простай назве “пра каханне”. Бывае, што і сама назва становіцца часткай верша, бо менавіта яна дапамагае раскрыць абсурдысцкі сэнс верша:

*“Апафеоз пустэчы”*
*Засунь мяшкі*
*ў мяшок з мяшкамі.*

І ўсё ж назвы ў беларускіх манавершах сустракаюцца рэдка, як, дарэчы, амаль ва ўсіх маргінальных жанрах. Часцей за ўсё такія вершы адзначаюць назвай жанра, у якім напісаны верш.

Такі шырокі спектр варыяцый манавершаў паказвае на тое, што, нягледзячы на невялікае распаўсюджанне дадзенай формы, ён не з’яўляецца штучна вынайдзеным жанрам, а, надварот, з’яўляецца своеасаблівым эцюдам для мастакоў слова, эцюдам, які дазваляе злавіць імгненне, не губляючы час на пошук лішніх слоў.

Да таго ж, манаверш даказвае наступную жыццёвую ісціну: недасказанае прыцягвае ўвагу, становіцца загадкай. А гэта значыць, што мы, чытачы, становімся сааўтарамі манаверша, бо разгадваць яго давядзецца менавіта нам.

# Самотнае падарожжа аўтсайдара

**Уладзімір КАПЦАЎ**

**Кнігу Анатоля Казлова ў перакладзе на рускую мову складаюць аповесць, 2 невялікія раманы і 8 апавяданняў. Таму нас перш-наперш зацікавіла, што дало падставу аб’яднаць іх у адзіны збор твораў, чым адметныя рысы мастацкага свету гэтага аўтара.**

Прозу Анатоля Казлова нельга назваць простай для чытацкага ўспрымання. Ён не з тых пісьменнікаў, хто “чапляе” адразу, а наадварот, патрабуе пастаяннага набліжэння да сябе.

А. Казлоў хоча зацікавіць чытача, які паважае містыку і інфернальных істот (“Мінск і воран, Парыж і здань”), творы пра акультныя секты (“Дзеці ночы”) ці наогул эратычную тэму ў літаратуры (“Юргон”). З такімі сюжэтамі можна зрабіць “класную” чытанку для масавага спажыўца літаратурнай прадукцыі. Але гэтага, на шчасце, не атрымалася.

А. Казлоў з тых пісьменнікаў, хто не ўмее пісаць проста. Ён разумее каштоўнасць мастацкага слова. Пісьменнік адчувае свет на мяжы катастрофы. Гэтая катастрафічнасць перш-наперш духоўная.

Калі шукаць кантэкст і паралелі, то будуць яны, хутчэй, не ў межах нацыянальнай літаратурнай традыцыі, а еўрапейскага кшталту. Бліжэй за ўсё проза Анатоля Казлова стаіць да традыцыі экзістэнцыяльнага рамана XX стагоддзя. Тут таксама назіраецца цэлы шэраг разыходжанняў з нацыянальнай традыцыяй, паколькі азначэнне “экзістэнцыяльны” звязана ў нас з так званай “ваеннай прозай” (часцей за ўсё ў дачыненні да прозы В. Быкава) і дамінуючую ролю ў ёй выконвае праблема асабістага выбару.

Менавіта гэта і робіць прозу цікавай і арыгінальнай у прасторы сучаснай беларускай літаратуры. Але непасрэдна экзістэнцыялізм як філасофскі кірунак глядзіць на праблему існавання чалавека значна шырэй, больш трагедыйна і песімістычна. Бадай, адзін з галоўных крытэрыяў — гэта свабода самавызначэння, дзе выбар — неабходная ўмова. Мутацыі несвабоды — жах (“хвароба да смерці”) ці ўседазволенасць. Экзістэнцыя вылучае сваю свабоду не сацыяльна, а духоўна.

Проза А. Казлова прасякнута духам мінулага. Падчас чытання ягоных твораў працей убачыць у іх рысы дэкадэнцкага светаадчування, ніцшэанства, постсімвалісцкую традыцыю. Гэтае “спазненне” прозы А. Казлова адлюстроўвае канцэпцыю развіцця сучаснай беларускай літаратуры. Яе можна трактаваць як тэорыю паскоранага развіцця ці вяртання запазычанасцей, але, на наш погляд, больш падыходзіць метафара застылага, загубленага часу. Разгортванне спружыны часу, якая сціскала нашу літаратуру на працягу амаль усяго XX стагоддзя ў межы некалькіх тэм, прывяло да з’яўлення лакун, якія запаўняюцца толькі ў апошнія гады.

З гэтага пункта гледжання вытокі прозы Казлова не беларускія: гэта Ф. Дастаеўскі з ягоным “чалавекам з падполля”, Кафка з яго пераўтварэннямі, Музіль з яго “чалавекам без якасцей”, Камю з “Чужаніцам” і Зюскінд з “Парфумерам”. У плане літаратурнай традыцыі — гэта мадэрнізм з яго максімальнай суб’ектывацыяй, зацікаўленасцю паталогіяй свядомасці, антыэстэтызмам ці эстэтызацыяй зла.

Рэчаіснасць у Казлова пазбаўлена гармоніі. Гэта свет прывідных каштоўнасцей, падмена іх сімуляцыямі і побытавымі дробязямі. Героям не хапае быцця, унутранага больш, чым знешняга. Вядома, што сон розуму спараджае пачвар. Але ў дадзеным выпадку трэба казаць пра бяссонне свядомасці і асабісты медытатыўны настрой. Адчуванне асабістай недарэчнасці прыводзіць да стану экзістэнцыяльнай самоты. Абодва героі, Юргон і Вілен Падкідны, якіх у пэўнай ступені можна назваць героямі бясчасся і маргіналамі



думкі, адчуваюць гэтую невырашальнасць. Аўтар не дае сваім героям аніводнага шансу на адраджэнне, і ў іх няма мэты жыцця.

Для літаратуры ў рэчышчы традыцыі мадэрнізму амаль не істотны знешні антураж, але вельмі цікавая чалавечая свядомасць і яшчэ больш — падсвядомасць. Гэта і ёсць той самы асабісты свет — унутраная рэчаіснасць. Для гэтага і герой мусіць вылучацца сярод звычайных асоб, несці ў сабе плынь маргінальнасці, разбуральнага пачатку і нават нейкай брутальнасці. Юргон і Вілен Падкідны гэтым патрабаванням адпавядаюць.

А. Казлоў стварае альтэрнатыўную рэчаіснасць з містыкі, фальклору, забабонаў, але ўсё гэта толькі ўрачыстая дэкарацыя. Псіхалагічны стан герояў значна цікавейшы. Духоўную пустату яны вымушаны запаўняць асабістай рэфлексіяй. Такім чынам, знешні свет — гэта антураж свету ўнутранага. Ужо ў назве зборніка адчуваецца бутафорнасць знешняй рэчаіснасці: Мінск, Парыж, Асінаўскі замак пад Магілёвам, — гэта толькі дэкарацыі. Парадаксальнасць прозы А. Казлова ў тым, што пры адсутнасці лірызму на першым плане стаіць аўтарскае “я”, менавіта яго ўспрыманне свету, якім ён у пэўнай ступені надзяляе кожнага з герояў. Вось і атрымліваецца своеасаблівае падарожжа аўтара па асабістым свеце ўнутранай рэчаіснасці.

Філасофія аўтсайдарства бярэ свае вытокі з “падпольнай свядомасці” герояў Ф. Дастаеўскага. Перш-наперш яго падпольная істота псіхалагічна падкрэсліла дылему разумнай пачварнасці. Для падпольнага чалавека, аўтсайдара ў грамадстве, галоўным становіцца самасцвярджэнне. А паколькі ён не можа нічым уразіць грамадства, то сцвярджае сваю філасофію інтэлектуальнай выключнасці. Гэта можа прывесці яго да вар’яцтва і злачынства. Герой, такім чынам, стварае псеўдарэчаіснасць. Але не верыць ні ў Бога, ні ў сваю выключнасць, ні ў магчымасць свабоды.

Вонкавую рэчаіснасць А. Казлоў вызначае як свет зла, бездухоўнасці і смерці. Гэта час ночы, духоўнай цемры, якая распаўсюджвае жах і адзіноту. У час ночы лепш за ўсё атрымліваюцца і містычныя выпадкі, і вар’яцкія рытуалы, і пошлыя ўчынкі. Але ў ім не застаецца месца для кахання. З боку чалавека магчымы жаль і спачуванне. Таму галоўнае адчуванне чалавека — гэта самота. А. Казлоў вызначае свет зла праз пазнавальныя вобразы-сімвалы, напрыклад, ворана. Але гэты свет назаўсёды страціў не толькі Бога і любоў, але і прыгажосць. Яго галоўная рыса — пошласць думак і адчуванняў. Таму яго банальны сімвал і жах жыцця — гэта сметнік, дзе зноў жа воран — адна з галоўных дзейных асоб. Так атрымліваецца невырашальнасць зла за маскай пошласці. Свет цалкам заснаваны ці то на пошласці, ці то на самоце без усялякіх шансаў на выратаванне. І гэта, натуральна, сутнасць і яго рэчаіснасці, і яго асабістага светапогляду.

Сярод іншых вобразаў ментальны вобраз балота, дрыгвы найбольш цікавы, таму што мае тэндэнцыю пашырацца. Навакольны свет — гэта бездань, гэта час, у якім валадарыць ноч, — сімвал метафізічнага і бясконцага зла. Але пошласць зла, як і яго самастойны выбар, залежыць ад чалавека. Рэінкарнацыя зла асабіста ў чалавеку — гэта экзістэнцыяльнае адчуванне пустаты жыцця праз адчуванне адзіноты, якую трэба нейкім чынам запоўніць.

А. Казлоў выкарыстоўвае не толькі нацыянальныя вобразы-сімвалы, але і ментальны дух свядомасці. Таму, напрыклад, адна з галоўных рыс Юргона — памяркоўнасць. Асабісты свет героя знаходзіцца ў прыцемках.

Стварэнне альтэрнатыўнай унутранай рэчаіснасці можна лічыць сапраўдным мастацкім адкрыццём Анатоля Казлова. Гэта сплаў містыкі, фальклору, язычніцкай міфалогіі і элементаў плыні свядомасці. Гэтыя старонкі атрымліваюцца неверагодна атмасфернымі. Уявіце сабе філасофскі дыялог разумных птушак — філіна і, зразумела, ворана. Галоўнае, што ў рэчаіснасці А. Казлова ўнутраная маналогі выглядаюць арганічна і зразумела. Сюжэты і абставіны зноў выглядаюць як умоўнасці.

*“ Проза Анатоля Казлова прасякнута духам мінулага. Падчас чытання ягоных твораў працей убачыць у іх рысы дэкадэнцкага светаадчування, ніцшэанства, постсімвалісцкую традыцыю. Гэтае “спазненне” прозы А. Казлова адлюстроўвае канцэпцыю развіцця сучаснай беларускай літаратуры. Яе можна трактаваць як тэорыю паскоранага развіцця ці вяртання запазычанасцей, але, на наш погляд, больш падыходзіць метафара застылага, загубленага часу. Разгортванне спружыны часу, якая сціскала нашу літаратуру на працягу амаль усяго XX стагоддзя ў межы некалькіх тэм, прывяло да з’яўлення лакун, якія запаўняюцца толькі ў апошнія гады.*

У “Юргоне” метафізіка зла зноў увасабляецца ў метафізіку чалавечай пошласці, духоўны нарцысізм. Адзначым, што ў лексіконе героя адсутнічае слова “кахаць”. Пры гэтым вобраз — шматпланавы і складаецца з бессвядомага язычніцкага мейнстрыму (гнаным юрам), разважлівасці галантнай эпохі (ён мінскі дон-жуан), філасофіі жаночага цела (Грануй). Сам па сабе Юргон — гэта тыповы маленькі чалавек з падполля, якому пашчасціла самарэалізавацца, стварыць ілюзію асабістай выключнасці. Усе ягоныя разважанні патыхаюць местачковасцю. Гэта філасофія асалоды дзеля асалоды. Ён жыве ў фантомнай рэчаіснасці, дзе жанчыны мяняюцца няспынна, і памятае іх пах. Але ён не здольны на ўчынак дзеля сваёй выключнасці, не здольны і на выбачэнне. З гэтага пункта гледжання Юргон — гэта пародыя на злодзея, банальны спажывец, які, у сваю чаргу, нікому не патрэбны і можа толькі браць. Але ўзнікае іншае пытанне: наколькі свет зацікаўлены ў Юргоне? Чым ён прываблівае да сябе жанчын, і тыя не могуць яго пакінуць назаўсёды? Хто больш у кім зацікаўлены?

Гаворачы пра метафізіку зла, трэба разглядаць Юргона ў спалучэнні з Вісуном. Звычайны чалавек без веры і маралі, геній пошласці, увасобіўся ў дзве пачварныя істоты: цялесны мужчынскі юр і метафізічнае жаночае цела — Вісун. У архетыпічным плане Вісун — гэта жаночы пачатак вонкавай рэчаіснасці. Вісуна абуджае менавіта жаночы праклён.

Гэта нават парадаксальна, але іх супрацьстаянне і барацьба — вечны рухавік бруднага і пошлага свету. Спалучэнне супрацьлегласцей і стварае монстра. Яны патрэбны адно аднаму як адлюстраванне якасці іншага. Так ствараецца метафізічная канцэпцыя вывернутай рэчаіснасці. Адзін пасіўна ўвасабляе сабою пошласць, другі яе актыўна ажыццяўляе. Вісун са сваім архетыпічным сховішчам-пячорай — гэта і ёсць, па сутнасці, жаночае адлюстраванне ці ўвасабленне пошласці жыцця. Не трэба навешваць усе грахі на героя. Ён прымітыўна бярэ ад жыцця толькі тое, што бачыць. Атрымліваецца, што менавіта Вісун, рэчаіснасць спарадзілі Юргона. Ён і з’яўляецца ўвасабленнем метафізікі зла: брудны, тлусты. Але яго ўраўнаважвае духоўная пустэча Юргона: “Человек для Висуна — вечная загадка, наверно потому, что люди нынче перерождаются в чудовищ”.

Іх спалучэнне — гэта пераход ад метафізікі зла да яго дыялектыкі. У кожнага з іх свая роля. Пачварная істота і чалавек, пасіўнае і актыўнае, вечны статыст і часовы рухавік асалоды, жаночае і мужчынскае… Аморфнае бяссілле і ілюзія брутальнай мужчынскай сілы… Сутнасць і працэс… Кола замкнулася. Для Вісуна Юргон — гэта таксама перш-наперш цела, у якім можна атрымліваць асалоду. Жаночы інфернальны пачатак банальна і цынічна выкарыстаў героя, як ён, у сваю чаргу, спажывае жанчын. Юргон не асоба, ён не можа ўздзейнічаць на жыццё і атрымлівае выпадковую дапамогу.

Юргон увасобіў у сабе ментальныя рысы беларускага злодзея, чалавека-монстра, Грануя ці Дарыяна Грэя… і атрымаўся вобраз памяркоўнага спажыўца. Пачварны ідэаліст пераўтвараецца ў пасрэднасць і пошлага чалавека, які так нічога і не зразумеў.

Мы бачым, што аўтар імкнецца паказаць рэчаіснасць з вонкавага боку: адваротны бок кахання — юр, зла — пошласць. Рэчаіснасць мае як рэальны, так і містычны бок.

У “Дзецях ночы” Анатоль Казлоў працягвае разважаць на тэму дыялектыкі зла і асабістага выбару чалавека.

У творы прысутнічае ніцшэанскі настрой: Бог памёр, а значыць чалавек сам вырашае, наколькі ён амаральны. Больш таго, ён мае асабістую магчымасць стаць звышчалавекам, набыць абсалютную свабоду і вырашаць лёсы іншых. Калі Бога няма, то ўначы надыходзіць час д’ябла.

Твор развіваецца па дзвюх лініях, якія адлюстроўваюць адна адну. Галоўная тэма — гэта барацьба за душу Вілена, якую свядома і планамерна вядзе лоўца чалавекаў Максім Гурон і інтуітыўна імкнецца прыпыніць Ніна. Вобраз, у якім прысутнічаюць хрысціянскія алюзіі. Жабрачка духу, распусніца, яна становіцца выратавальніцай душы свайго каханага. Гурон — сатаніст, які атрымлівае асалоду ад улады і магчымасці маніпуляваць людзьмі. Яго ў духоўным сэнсе можна назваць пачварай, але перш-наперш Гурон — рэальны монстр, які нясе смерць і разбурэнне душы.

У творы два шляхі да двух розных храмаў. Барацьба дабра і зла, кахання і спакусы, Госпада і Гаспадара набывае канкрэтныя рысы. Пры гэтым ніводны з твораў не сацыялізаваны ў такой ступені. Гэта вобраз хворага, паралізаванага духоўнай безнадзейнасцю грамадства. Імаралізм, нявер’е, распуста. Такім чынам канкрэтныя рысы атрымлівае экзістэнцыяльны вобраз Пустэчы. Вакзал як сметнік душ і жыццё ад сметніка да смерці. Выбар героя — як азарэнне. Ён паспявае зрабіць яго ў бок дабра і выратоўвае сваю душу. Раман “Мінск і воран, Парыж і здань” задае іншы настрой.

Гэта разважанні пра зло як спакусу, як прымус і ўратаванне ад яго. Галоўная гераіня выклікае супярэчлівыя адчуванні. З аднаго боку, яна наіўная ахвяра, з другога — мсціўца такім жа невінаватым нашчадкам свайго каханага-здрадніка.

У творы цікавы і напружаны сюжэт: ёсць здань, але няма інфернальнага свету, прысутнічаюць філасофскія разважанні птушак, дамова з Месяцам — сімвалам зла, пасля якой здань атрымлівае на тры дні сваё жаночае цела. Але, на мой погляд, не гэта істотна. Галоўнае ў тым, што, атрымаўшы магчымасць закахацца хаця б на некалькі дзён, гераіня не пераадолела жадання помсты. Яна не здольная на высокае пачуццё, паколькі помста безнадзейна разбурыла яе знутры. Такім чынам, нікога не забіла, але нікога і не ўратавала.

У фінале гераіня перасяляецца ў цела дзяўчыны, у вачах якой чыталася самазабойства, але і думкі не існавала ў яе, каб выкупіць сваё нерастрачанае каханне выратаваннем жывога чалавека.

Раман пераконвае сваёй безнадзейнасцю для ката і ахвяры. Атрымліваецца галоўны перыфраз: смерць не самае жудаснае на свеце. Ёсць адзінота, любоўны смутак, страта сябе ў часе. Зло ці лёс невырашальныя, але іх можна паспрабаваць падмануць ці абмінуць.

Але галоўнае зло зноў-такі месціцца непасрэдна ў самім чалавеку. З гэтым згодна і гераіня рамана: “Видите, как непросто человеку совладать со своими подсознательными желаниями. Мы все время находимся в плену внутреннего “я”. Потому что в каждом из нас сидит невидимый зловредник, который будоражит душу. Заставляет ее бунтовать, вырываться за рамки, в которые засовываем свое внутреннее эго”.

Хочацца спадзявацца, што зборнік прозы Анатоля Казлова, перакладзены на рускую мову, знойдзе сваіх новых чытачоў, удумлівых і інтэлектуальных. А сам аўтар будзе ўспрымацца не толькі як містык. Перад намі менавіта той выпадак, калі літаратура не толькі выклікае пачуцці, але і абуджае чытацкае мысленне.

# Паэзія



Віктар Шніп

## Восеньскае

* * *

*хмары як воўна*
*і як стрыжаны баран*
*у полі валун*

* * *

*ля стога дрэмлюць*
*як мышы палявыя*
*рудыя лісты*

* * *

*згубіўшы свой цень*
*у шэрай траве скача*
*шэры верабей*

* * *

*птушкі як мухі*
*пад аблокамі ў небе*
*як пад павутой*

* * *

*вецер злуецца*
*а дым ад майго кастра*
*вучыцца ўзлятаць*

* * *

*зашпіліўся дзень*
*на маланку чыгункі*
*начую ў вёсцы*

* * *

*белая хмарка*
*як па лёдзе першы снег*
*слізгае ў небе*

* * *

*жоўтае лісце*
*плыве па чорнай вадзе*
*і ў Млечным Шляху*

* * *

*ля ганка ў траве*
*кошыкі з яблыкамі*
*з золатам чаўны*

## На могілках у Гарошкаве

* * *

*жолуд без шляпкі*
*у першай сівой траве*
*Толіка Сыса*

* * *

*у келіху ліст*
*манетай залатою*
*на дне сусвету*

* * *

*карэнняў вужы*
*у пяску як у вагні*
*труну трымаюць*

* * *

*тут чужых няма*
*і ўсё-ткі воран сівы*
*крыжы вартуе*

* * *

*гронкі рабіны*
*як кароўкі божыя*
*чакаюць сонца*

* * *

*п'е чорны мураш*
*на агарачку свечкі*
*расу як неба*

* * *

*на крыжы паэта*
*павуцінка трапеча*
*як апошні верш*

## Зімовае

* * *

*у снезе валун*
*як кветкі на кактусе*
*на ім снегіры*

* * *

*у белым полі*
*нібыта цэнтр сусвету*
*прыдарожны крыж*

* * *

*чорныя хаты*
*рассыпаным вуголлем*
*на небакраі*

* * *

*нібыта прывід*
*па заснежаным полі*
*ідзе чалавек*

* * *

*ля могілак дуб*
*стаіць з лістком апошнім*
*нібы са свечкай*

* * *

*на возеры лёд*
*вялізарным люстэркам*
*для поўні соннай*

* * *

*іду праз вёску*
*зрэдку брэшуць сабакі —*
*зіму вартуюць*

* * *

*чорны яблык*
*нібы змерзлая зорка*
*на сцежцы ў садзе*

* * *

*на дрэвах шэрань*
*нібы квецень першая*
*у новым годзе*

* * *

*салома ў снезе*
*як золата ў малацэ*
*Млечнага Шляху*



Фота Марыны Вясёлухі



Дзмітрый Пятровіч

* * *

*Вось сшытка чыстыя старонкі…*
*Рукою вечнага Жыцця*
*Іх запаўняюць слоўцаў гронкі,*
*Нібы ўваскрэслых з небыцця,*
*Адчаю, тлуму… Кроплі звонкіх*
*Вяснова-чыстых капяжоў,*
*Надзея, Вера і Любоў —*
*Усё у лёсу пальцах тонкіх…*

* * *

*Ізноў на ўсходзе свежасць залатая,*
*Туманны ранак ў росным аксаміце.*
*Душа спявае — вечна маладая —*
*Пра васількі ў бяскрайнім спелым жыце,*
*Пра двух буслоў у гняздзе*
*над нашай хатай,*
*І пра рабіны-прыгажуні гронкі,*
*Пра край цудоўны, песнямі багаты, —*
*Пра Беларусь — радзімую старонку…*

## Маленства

*Прывабна-патаемным застаешся,*
*Святлом агменю змучанай душы.*
*Дзіцячым сэрцам*
*праз гады ты б'ешся, —*
*Як птушка,*
*што так прагна хоча жыць…*

*І ад сівой пахіленай бярозы*
*Ты шчасця каліўцам у неба прарасцеш…*
*І — зрэдку адчуваючы, як слёзы*
*Ў табе жывуць, — тады і сам жывеш…*

## Пралескі

*Яшчэ туман бялеецца на ўзлеску*
*І першы сонца промнік*
*спіць на ўсходзе,*
*Прачніся, лес!*
*Драмаць-шаптаць ды й годзе!*

*Ты адгукніся песняй салаўінай*
*І шумам голля —*
*звонкаю манетай!*
*Рулліўцы дзятла трэлі-пераліўы —*
*Няйнакш пачатак новага санета.*

*Я назбіраю кветак на узлеску —*
*Букет вялікі для маёй матулі.*
*…І вось яны, любімыя Пралескі —*
*Куточак райскі і душы прытулле!*

* * *

*Ты, хмельна-густалісты шум, —*
*Нібы асенняя рапсодыя,*
*Барвова-жаўтапенны тлум,*
*Тугі спрадвечная мелодыя…*

*Злятаюць, шэпчуцца лісты*
*На дол нястрымнай халадэчы.*
*І звон цішы — адчай пусты —*
*З зімой абвесціць хутка стрэчу.*

## Бярозка

*Прывабна-патаемная*
*У кіпені зялёным.*
*Саромная, бы Ева, ты,*
*У лета ўлюбёная.*
*Зайздросціць толькі ветру мне,*
*Што лашчыць цябе, мілая…*
*А ты ў дзявоча-мройным сне*
*Лунаеш, легкакрылая…*

* * *

*Яшчэ адзін дзянёк мой*
*дагарэў…*
*Стамлёна-ціхі,*
*ніца-трапяткі,*
*Ён сонцам*
*пракаціўся паміж дрэў,*
*Растаў туман*
*шоўкава-прадкім.*
*На чорным полі,*
*зорна-залатое,*
*рассыпана зіхоткае*
*насенне.*
*Няхай спявае*
*сэрца маладое,*
*Хоць на двары*
*рапсодыя асенняя…*

## Дэбют



Ала Мірзаліева

**Ала Мірзаліева нарадзілася ў вёсцы Агарэвічы Ганцавіцкага раёна. Скончыла Баранавіцкае педагагічнае вучылішча, працуе кіраўніком аматарскага аб'яднання "Дайджэст-клуб". Піша вершы і прозу. Аўтар паэтычнага зборніка "Снег, адчай і ліловыя цені…" У газеце "Літаратура і мастацтва" друкуецца ўпершыню.**

* * *

*Цурчыць струменьчыкам вада*
*Па голых камянях.*
*Тут лес шумеў. Цяпер, шкада,*
*Той кут у чорных пнях.*

*Ускрай пясчанае грады*
*Сцяной расце быльнёг,*
*І замурожаны сляды*
*Дзіцячых лёгкіх ног.*

*І тая сцежка, што здалёк*
*Так вабіла дзятву,*
*Больш не жвіруе праз лясок,*
*Схавалася ў траву.*

*Маё дзяцінства зарасло,*
*Згубілася між пнёў.*
*…Паклічу, каб яно змагло*
*Са мной сустрэцца зноў.*

* * *

*Сухую ліпавую квецень*
*У кубак кінулі пад кіпень.*
*Калісь яе гайдала вецце*
*Салодкім сном у месяц ліпень.*

*Над кветкамі кружылі пчолы,*
*Нібыта карагод дзявочы,*
*І звон, духмяны і вясёлы,*
*Стаяў ад раніцы да ночы.*

*А зараз гэты звон я чую*
*У паху ліпавай гарбаты,*
*Што познім вечарам вандруе*
*У цішыні палескай хаты.*

*…Зіма не цягнецца бясконца,*
*І дзякуй квецені за гэта.*
*У той гарбаце кропля сонца*
*Мне нагадала песню лета.*

* * *

*…Яна прыйшла не адна —*
*З ёю прыйшла надзея,*
*Што сэрца аднойчы спаўна*
*Ад шчасця заружавее.*

*А шчасце замерзла ў страсе,*
*Чакае таго імгнення,*
*Калі вясна прынясе*
*Ад адзіноты збавенне.*

*Застылае ледзяшом,*
*Здаецца, ужо на сконе,*
*Яно ўпадзе капяжом*
*Ў сухія твае далоні.*

*А ты прыўзнімаеш руку,*
*Дазволіш кроплям упасці…*
*Каб на стагоддзі пакут*
*Было хоць імгненне шчасця.*

* * *

*Яшчэ аголена вецце,*
*Надвор'е — бы дзікі звер.*
*Яшчэ пранізлівы вецер*
*Шпурляе снег за каўнер.*

*Але, нібы ў дрэвах сокі,*
*Штосьць гоніць у целе кроў,*
*І чуецца спеў далёкі*
*Праз гул веснавых вятроў.*

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

Кніжны свет

11 лютага 2011г.

# Сезон выставак адкрыты!

Марына ВЕСЯЛУХА,
фота Кастуся Дробава

**З 9 па 13 лютага ў выставачным комплексе “БелЭкспа” праходзіць XVIII Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш. Міжнародны кніжны форум у беларускай сталіцы адрозніваецца тым, што ён фактычна адкрывае сезон выставак, і па ўзроўні прадстаўніцтва ў Мінску астатнія краіны арыентуюцца, як развіваецца і кніжная, і выставачная справа, ці паўплываў на іх сусветны эканамічны крызіс.**
**Але сёлетнія паказчыкі надзвычай аптымістычныя: 23 краіны-ўдзельніцы, больш як 600 экспанентаў, звыш 3,5 тысячы квадратных метраў агульнай выставачнай плошчы… Ужо ўстаноўлены і першы рэкорд выстаўкі.**



*Міністр інфармацыі Беларусі Алег Праляскоўскі, першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандр Радзькоў і Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Рэспубліцы Беларусь Крыстаф Вайль адкрываюць кніжны форум.*

“Мы рады, што першы рэкорд устанавіў ганаровы госць форуму — Германія, — заўважыў Дзмітрый Макараў, выканаўчы дырэктар Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, падчас адной з прэс-канферэнцый, што прайшла напярэдадні выстаўкі, — дагэтуль самая вялікая плошча адной экспазіцыі належала Расійскай Федэрацыі (250 метраў), нямецкі ж бок у гэтым годзе ўзняў планку да 255 метраў”.

Петэр Дэтмар, намеснік Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла Германіі ў Беларусі, падкрэсліў: “На стэндзе Германіі ў гэтым годзе дэманструецца некалькі калекцый кніг: “Сонечныя перспектывы. Сённяшні дзень зялёнай архітэктуры!”, “Літаратурныя навінкі 2011 года”, “Герта Мюлер”, “Правы чалавека”, “Графічныя навелы і аўтарскія коміксы” і іншыя. Акрамя гэтага, наведвальнікаў чакае вялікая суправаджальная праграма: літаратурныя чытанні, аўтограф-сесіі, прэзентацыі. Усе кнігі, прывезеныя для дэманстрацыі на выстаўцы, застануцца тут, у Беларусі, яны будуць перададзены ў бібліятэкі краіны”.

Падчас міжнароднага форуму распачнецца рэалізацыя і новага кніжнага праекта — выдання серыі кніг “Бібліятэка нямецкай літаратуры” (на беларускай мове). У яе будуць уваходзіць кнігі-лаўрэаты Нямецкай кніжнай прэміі за лепшы раман года. Твор Катрын Шміт “Ты не памрэш” (пераклад Альгерда Бахарэвіча) — першая кніга, што ўжо пабачыла свет у яго межах у выдавецтве “Макбел”.

Першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч падчас прэс-канферэнцыі заўважыла: “Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш — значная падзея ў нашай краіне. І калі ў беларускую сталіцу на кніжны форум збіраюцца прадстаўнікі 23 краін, — гэта доказ таго, што Беларусь з'яўляецца кніжнай сталіцай не толькі Еўропы, але і свету, бо ля выставачнага комплексу “БелЭкспа” ў гонар удзельнікаў уздымуцца сцягі не толькі еўрапейскіх дзяржаў, але і краін з іншых частак свету. Сярод іх — Злучаныя Штаты Амерыкі, Індыя, Венесуэла. На выстаўцы традыцыйна шырока прадстаўлена расійская, украінская кніга, плённа будуць працаваць і стэнды іншых краін. У стварэнні праграмы форуму, распрацоўцы і падрыхтоўцы мерапрыемстваў актыўны ўдзел прымалі Саюз пісьменнікаў Беларусі, РВУ “Літаратура і Мастацтва”. Прыемна, што захоўваецца традыцыя правядзення Дня бібліятэк, варта звярнуць увагу і на стэнд Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі”.

Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец падчас адкрыцця міжнароднага форуму падкрэсліў: “Для пісьменнікаў Беларусі вельмі значны ўдзел у гэтай кніжнай выстаўцы, бо ён дае магчымасць не толькі прэзентаваць свае новыя выданні, але і прадставіць творы нашых класікаў, яны жылі і будуць жыць у вяках. Міжнародны форум дазваляе ўстанавіць новыя сувязі, завесці знаёмствы, а гэта дае магчымасць спадзявацца на далейшае развіццё нашай літаратуры”.

Каб вярнуць інтарэс да чытання, звярнуць увагу на кнігу як крыніцу асэнсавання рэчаіснасці, напрыканцы мінулага года Міністэрства інфармацыі Беларусі абвясціла акцыю “У падтрымку чытання”. Падчас міжнароднага кніжнага форуму яна будзе гучаць больш шырока. Лілія Станіславаўна падкрэсліла: “Акцыю падтрымліваюць у навуковых установах, адукацыйным асяроддзі, падхопяць кнігагандлёвыя прадпрыемствы і, самае галоўнае, да прапаганды кнігі больш актыўна будуць звяртацца пісьменнікі, грамадскія дзеячы. У сродках масавай інфармацыі будзе ўзмоцнена праца ў гэтым кірунку, на тэлеэкранах з'явяцца сацыяльныя ролікі ў падтрымку чытання”.

Падчас форуму наведвальнікі маюць магчымасць і набыць кнігі. На нямецкім стэндзе працуюць дзве маленькія кнігарні. У адной з іх вы знойдзеце літаратуру на нямецкай мове, у другой — кнігі пра Германію, даведнікі, выданні пра нямецкае мастацтва на беларускай і рускай мовах. Актыўна працуюць і гандлёвыя кропкі ААТ “Белкніга”.

Ужо прыадкрыты таямніцы наступных кніжных форумаў у Мінску. Так, у 2012 годзе ганаровым госцем стане Венесуэла (але будзе ўведзены і новы статус спецыяльнага госця, ім стане Арменія, якая ў 2012 годзе адзначыць 500-годдзе выдання першай кнігі), у 2013 годзе — Іран.

*У пятніцу і суботу Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш працуе з 10.00 да 19.00, у нядзелю — з 10.00 да 15.00. Уваход вольны для ўсіх наведвальнікаў.*

# Славутыя на ўвесь свет

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

**У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі адбылася прэзентацыя апошніх выданняў выдавецтва “Тэхналогія” з серыі “Нашыя славутыя землякі”. Сустрэча стала нагодай для згадак яе ўдзельнікаў пра мінулае і магчымасцю агучыць планы на будучыню.**

Добра вядомая ўсім аматарам беларускай даўніны, гэта серыя была заснавана ў 1988 годзе па ініцыятыве тагачаснага дырэктара выдавецтва “Мастацкая літаратура” Анатоля Бутэвіча. На прэзентацыі Анатоль Іванавіч узгадваў, як у 1986-м тагачасны старшыня камітэта па друку Міхаіл Дзялец прапанаваў рэдактарам буйных дзяржаўных выдавецтваў падумаць над новымі ідэямі. Неўзабаве Бутэвіч выказаў ідэю пра заснаванне міжвыдавецкай серыі. У наступным годзе з'явілася адпаведная пастанова, пасля чаго выдавецтва “Навука і тэхніка” ўзялося за складанне перспектыўнага плана і распрацоўкі афармлення. З'явілася і назва — “Нашы славутыя землякі”. Так называлася кніга Анатоля Грыцкевіча, што выйшла ў 1984 годзе.

Серыя расказвала пра выдатных дзеячаў навукі і літаратуры, вынаходнікаў і грамадскіх дзеячаў. Прычым сярод іх прысутнічалі як тыя, хто жыў і працаваў у Беларусі, так і тыя, хто воляю лёсу і абставін быў закінуты на чужыну. Па словах галоўнага рэдактара выдавецтва “Тэхналогія” Зміцера Санько, які з'яўляецца нязменным каардынатарам праекта, у аснову “Нашых славутых землякоў” было закладзена некалькі нязменных палажэнняў. Па-першае, абмежаванне па мове (выдаюцца толькі рукапісы, напісаныя па-беларуску), па часе (прымаюцца толькі даследаванні, прысвечаныя падзеям да рэвалюцыі 1917 года) і па аб'ёме (каля 64 кніжных старонак). Акрамя таго, у кожным выданні абавязкова прысутнічае блок ілюстрацый (16 старонак).

Усяго ў серыі “Нашы славутыя землякі” выйшла 32 кнігі. Але калі напачатку ў праекце ўдзельнічалі некалькі выдавецтваў (у тым ліку “Полымя”, “Ураджай”), дык цяпер да чытача фактычна даходзяць толькі выданні з падсерыі “Акадэмічная”, выпуск якой ажыццяўляе выдавецтва “Тэхналогія”.

У выдавецкім партфелі — рукапісы кніг пра падарожніка Мікалая Пржавальскага і астранома Марціна Пачобут-Адляніцкага. Але іх выданне хутчэй з'яўляецца справай будучыні. Таму гаворка на прэзентацыі ішла пра апошнія выданні серыі. Гэта кнігі Юрыя Гардзеева “Рамантык эпохі Асветніцтва”, прысвечаная лёсу Антона Тызенгаўза, Алеся Горбача “Песняй даваў людзям радасць” — пра лёс славутага спевака Міхася Забэйды-Суміцкага.

Нарэшце, пакуль апошнім па ліку з'яўляецца даследаванне Вольгі Гапоненкі “Каралева дакладных навук”, якая расказвае пра біяграфію і навуковую дзейнасць матэматыка Соф'і Кавалеўскай.

Наведвальнікі бібліятэкі таксама змаглі ўбачыць выстаўку “Вяртанне славутых імёнаў”. У ёй прадстаўлены кнігі з серыі “Нашы славутыя землякі”, пабачылі свет у розныя гады ў выдавецтвах “Навука і тэхніка”, “Тэхналогія” і “Полымя”, зборнік “Славутыя імёны Бацькаўшчыны” і цэлы шэраг выданняў, якія прысвечаны лёсу беларусаў, што прынеслі славу свайму народу і ўсяму свету.

*У падтрымку чытання*



*Фота Кастуся Дробава*

# Лірыка для фізіка

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь абвясціла акцыю “У падтрымку чытання”. Дадатак “Кніжны свет” з задавальненнем да яе далучаецца. Не адмаўляючы безумоўных пераваг Інтэрнэту і камп'ютарных тэхналогій, варта заўважыць, што кніга па-ранейшаму застаецца актуальнай. Доказ таму — меркаванні знакамітых беларусаў — навукоўцаў, дзяржаўных дзеячаў, якія застаюцца вернымі кнізе.**

**Сёння ў цэнтры ўвагі — чытацкія густы Мікалая Паклонскага, доктара фізіка-матэматычных навук, прафесара:**

— Мая бабуля вучылася ў школе разам з Кандратам Крапівой, яны нават за адной партай сядзелі. Яе ўспаміны пра класіка падштурхнулі мяне да кнігі.

Калі скончыў 10 класаў, атрымаў у падарунак томік вершаў Аляксандра Блока. Яго паэзія аказала моцнае ўражанне: як можна пісаць так ярка і лаканічна! Дарэчы, Блок быў зяцем Дзмітрыя Мендзялеева, і ў яго творчасці хімія праглядаецца. У школьныя гады я набыў зборнік маскоўскіх алімпіядных задач па матэматыцы, там быў фотаздымак пераможцы адной алімпіяды У. Арнольда. Далей сачыў за навуковай кар'ерай Арнольда. Ён стаў вядомым навукоўцам, напісаў шмат кніг, па некаторых з іх давялося вучыцца. У мяне на ўсё жыццё застаўся прыклад высокага мастацтва рашэння пэўнай задачы. І сам хацеў спачатку быць матэматыкам, але брат параіў пасля школы ісці на фізічны факультэт БДУ. Сёння на маёй кніжнай паліцы – спецыяльная літаратура па фізіцы, электроніцы і канкрэтнай матэматыцы. Але перачытваю “Фауста” Гётэ: такая гульня думкі, каштоўная якасць верша! Ахвотна перачытваю вершы Міхаіла Лермантава, прозу Івана Буніна. Захапляюся ўсім, што напісалі Кандрат Крапіва і Уладзімір Караткевіч. У іх ёсць чаму павучыцца.

# Школьныя падручнікі застануцца папяровымі

**Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства “Вышэйшая школа” — адно з найбуйнейшых у Беларусі. На кніжным рынку паспяхова дзейнічае ўжо амаль 50 гадоў, забяспечвае студэнтаў і выкладчыкаў, школьнікаў і абітурыентаў вучэбнымі, метадычнымі, даведачнымі, вытворча-практычнымі, навуковымі і навукова-папулярнымі выданнямі, а таксама кнігамі для вольнага часу. Аўтары, якія супрацоўнічаюць з выдавецтвам, — вядомыя вучоныя, выкладчыкі, высокакваліфікаваныя спецыялісты. Большасць літаратуры выдавецтва мае грыфы Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. На нашы пытанні адказвае дырэктар выдавецтва “Вышэйшая школа” Аляксандр Нячай.**



Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

**— Аляксандр Пятровіч, наколькі ўтульна пачувае сябе сёння выдавецтва?**

— Сацыялагічныя даследаванні, якія праводзіліся некалькі гадоў таму, канстатавалі: рэспандэнты назвалі выдавецтва адным з самых вядомых у Беларусі. Так склалася, я мяркую, дзякуючы літаратуры, якую мы выдаём для ўсіх узроўняў выкладання, у прыватнасці для сярэдняй школы (падручнікі па замежных мовах — кітайскай, англійскай, французскай, нямецкай, іспанскай), прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў і ВНУ. У мінулым годзе выпусцілі ў свет практычна ўсё, што планавалі: 132 найменні агульным накладам 567 тысяч экзэмпляраў. (У асноўным вучэбная літаратура.) Адметнасць прадукцыі мінулага года — значная частка выданняў камбінаваныя: друкаваныя, якія маюць дадатак у выглядзе электронных дыскаў. Такія дадаткі ўтрымліваюць інфармацыю, што неабавязкова змяшчаць у кнізе, ці з'яўляецца яна важным альбо якасна іншым дадаткам да асноўнага матэрыялу. З дапамогай сучасных тэхналогій зручна падаваць ілюстрацыйны, аўдыё- і відэаматэрыял. Доля такіх выданняў павялічваецца, асабліва папулярны аўдыёматэрыял па замежных мовах для вучняў сярэдніх школ.

**— Якія праекты мінулага года асабліва хацелася вылучыць і што плануеце выдаць у 2011-м?**

— Выданні, якія неабходна адзначыць, — тыя, што ідуць пад агульнай назвай “Традыцыйная мастацкая культура Беларусі”. У канцы снежня 2010-га выйшла першая кніга пятага тома, прысвечаная культуры Цэнтральнай Беларусі. У другой чвэрці гэтага года выйдзе другая кніга выдання.

Многа зроблена па замове Рэспубліканскага інстытута прафесійнай адукацыі і Рэспубліканскага інстытута вышэйшай адукацыі. Сярод навінак мінулага года — 4 найменні кніг па такім напрамку, як атамная энергетыка.

Цяпер для дапамогі нашым настаўнікам і школьнікам рыхтуем аўдыёдадаткі да падручнікаў па замежных мовах, каб вучні мелі магчымасць цалкам скарыстаць усе магчымасці засваення мовы як камунікатыўнага рэсурсу і пасля заканчэння школы свабодна на ёй размаўлялі. Наяўнасць аўдыёстудыі ў выдавецтве дае магчымасць рыхтаваць якасныя запісы. У першую чаргу попытам карыстаецца англійская мова. Але і іншыя замежныя мовы не застануцца па-за ўвагай.

**— Ці карыстаюцца попытам нашы падручнікі на расійскім рынку?**

— Справа ў тым, што кожная краіна постсавецкай прасторы зацікаўленая арганізоўваць працэс навучання, асабліва ў сярэдняй школе, з дапамогаю нацыянальных падручнікаў. З мэтай кантролю адпаведнасці падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў у кожнай краіне створана сістэма кантролю — так званая сістэма грыфавання. У Расіі грыфаванне кнігі праходзіць у вучэбна-метадычных аб'яднаннях па адпаведных напрамках. Нам атрымаць грыф у Расіі складана па шэрагу прычын — і арганізацыйных, і фінансавых. Доля нашых выданняў, якія ў 2010 годзе распаўсюджваліся на расійскім рынку, — каля 6 працэнтаў агульнага аб'ёму вытворчасці выдавецтва. Гэта не так шмат, як хацелася. Дзесяцьпятнаццаць год таму гэта доля складала каля 40 працэнтаў, але сённяшнія рэаліі такія.

**— Аляксандр Пятровіч, на вашу думку, ці вытрымае папяровая кніга канкурэнцыю з электроннымі выданнямі?**

— Чалавек, па-першае, кансерватыўны, а па-другое, трэба думаць, разумны: тое, што тычыцца дзіцячых кніг, ніколі не зменіцца. Яны застануцца ў папяровым выглядзе, каб дзеці змаглі нармальна навучыцца чытаць. Хаця ёсць спробы стварэння дзіцячай літаратуры і ў электронным варыянце, але мне здаецца, што дзіцячая літаратура і падручнікі для сярэдняй школы застануцца папяровымі яшчэ надоўга, а можа, і назаўсёды. А вось падручнікі для ВНУ амаль усе хутка стануць электроннымі, а не папяровымі. Асабліва са з'яўленнем ужо не дарагіх і дастаткова камфортных прыстасаванняў для іх чытання, якія пастаянна будуць удасканальвацца. Гэта дастаткова зручна і проста, ва ўсіх ёсць персанальныя камп'ютары, распаўсюджваюцца і рыдары, якія дазваляюць захоўваць вялікую бібліятэку ў некалькі соцень, а то і тысяч найменняў.

Што тычыцца астатняй літаратуры, назіранні падчас удзелу ў міжнародных кніжных выстаўках паказваюць, што кнігі па-ранейшаму прыцягваюць увагу. Якасць нашых выданняў высока ацэнена і спецыялістамі, і шырокай публікай. Але праблема ў тым, што пры росце колькасці найменняў колькасць накладаў пастаянна зніжаецца. І прычын таму шмат. Адна з іх, будзем шчырымі, — у тым, што значна менш мы сёння выдзяляем часу на кнігу як на сродак для адпачынку. Але, канечне, трэба адзначыць, што ў нас з'явілася шмат альтэрнатыў, напрыклад, Інтэрнэт, тэлебачанне.

Задача і выдаўцоў, і, канечне, дзяржавы і грамадства ў цэлым — усімі магчымымі спосабамі, у тым ліку і спецыяльнымі праграмамі, падтрымліваць цікавасць да чытання. Маецца на ўвазе не толькі чытанне як працэс, а перш за ўсё працэдура атрымання неабходнай інфармацыі, фарміраванне навыку такім чынам набываць веды. У наш час пастаянна трэба вучыцца. І ў выніку не важна, у якім выглядзе прыйдзе інфармацыя — на папяровых ці электронных носьбітах, а трэба, каб прага ўдасканальваць, пастаянна атрымліваць новыя веды падтрымлівалася і выдаўцамі, і дзяржавай, і грамадствам. Без гэтага немагчыма ўявіць сабе жыццё ў будучыні.

# Збіральнік абрадаў і казак

**У рэдакцыйна-выдавецкай установе “Літаратура і Мастацтва” выйшла кніга Паўла Шпілеўскага “Беларусь у абрадах і казках”, перакладзеная на беларускую мову Аляксандрам Вашчанкам.**

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

Апошнім часам да ўдзельнікаў беларускага літаратурнага працэсу прыйшло трывалае ўсведамленне каштоўнасці перакладу. Прычым, як праз увасабленне на беларускай мове твораў іншых народаў свету, так і наадварот. Сведчаннем такой пазіцыі з'яўляецца аднаўленне серыі “Скарбы сусветнай літаратуры”, іншыя ініцыятывы дзяржаўных і прыватных выдавецтваў. Але пры аналізе выдадзеных кніг, а не публікацый у перыёдыцы, нельга не звярнуць увагу на наступную акалічнасць: увага перакладчыкаў звернута на ўсе мовы, акрамя… рускай.

Пры ўважлівым разглядзе сітуацыі становіцца зразумелай унутраная логіка працэсу. Сапраўды, найбольшую патрэбу ў перастварэнні маюць творы іншамоўных аўтараў, якія недаступныя для большасці чытачоў на мове арыгінала. Паколькі насельніцтва краіны свабодна валодае рускай мовай, неабходнасці ў тэрміновым перакладзе яе літаратуры нібыта няма. Навошта тады на беларускай мове выходзіць “Беларусь у абрадах і казках”?

Для адказу на гэтае пытанне нагадаем чытачу пра некаторыя факты з біяграфіі яе аўтара, вядомага беларускага пісьменніка, этнографа, краязнаўцы, фалькларыста, журналіста і тэатральнага крытыка XIX стагоддзя Паўла Шпілеўскага. Сын праваслаўнага святара, выпускнік Мінскай семінарыі і Пецярбургскай духоўнай акадэміі, кандыдат багаслоўя, ён некаторы час выкладаў у Варшаве, а апошнія гады свайго кароткага жыцця правёў у Санкт-Пецярбургу. Такім чынам, значны перыяд яго творчай дзейнасці прыйшоў не ў беларускамоўным асяроддзі.




Але самае галоўнае, што ў той час яшчэ не існавала беларускай літаратурнай мовы. Таму Шпілеўскі быў вымушаны пісаць па-руску, але, як адзначае перакладчык А. Вашчанка, “народныя песні, прыказкі, прымаўкі, якія ён ужываў у сваіх творах, заўсёды вылучаў курсівам і перадаваў з усімі арфаэпічнымі асаблівасцямі роднай мовы”. Таму падаецца цалкам лагічным увасобіць нацыянальныя па духу працы Шпілеўскага па-беларуску.

За сваё кароткае жыццё аўтар, які памёр у 1861 годзе, нават не дажыўшы да 38-годдзя, напісаў вялікую колькасць прац. Але сёння нашчадкам часцей за ўсё вядома толькі яго кніга “Путешествие по Полесью и Белорусскому краю”, тады як астатнія публікацыі раскіданыя ў перыёдыцы. Перакладчык узяў на сябе задачу пазнаёміць чытачоў з як мага большай колькасцю артыкулаў і даследаванняў Шпілеўскага. У кнізе “Беларусь у абрадах і казках” чытач знойдзе ўрыўкі з работ “Беларускія павер'і”, “Беларусь у характарыстычных апісаннях і фантастычных павер'ях”, “Даследаванне аб ваўкалаках” і шэраг іншых публікацый. Дапаўняюць кнігу каментарыі аўтара, перакладчыка, спіс прац Шпілеўскага і рэкамендаваная літаратура па тэме.

Як адзначае А. Вашчанка, асноўная заслуга П. Шпілеўскага бачыцца ў тым, што “…у самыя змрочныя часы нашай гісторыі ён адстойваў самабытнасць і таленавітасць свайго народа, захаваў для нас перліны вуснай народнай творчасці беларусаў і спрыяў іх папулярызацыі сярод адукаваных чытачоў”.

## Азбука Морзэ

Чэслава ПАЛУЯН

● У суботу, 12 лютага, у 11.10 у межах Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу пройдзе прэзентацыя дадатка “Кніжны свет” да штотыднёвіка “Літаратура і мастацтва”. Распачнецца і сумесная акцыя часопісаў “Бярозка” і “Вясёлка” — “Чытаем разам”, што пройдзе ў межах шырокай акцыі Міністэрства інфармацыі Беларусі “У падтрымку чытання”.

— Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь ініцыюе эксперымент па замене школьных падручнікаў электроннымі планшэтамі. Па словах першага намесніка міністра адукацыі Аляксандра Жука, эксперымент можа быць спачатку праведзены ў адной з абласцей Беларусі, а далей быць выкарыстаны паўсюль. Плануецца, што замест усіх падручнікаў з 1 па 11 клас школьнікі атрымаюць электронны планшэт, у які будзе ўнесена ўся інфармацыя.

● Восем кніг РВУ “Літаратура і Мастацтва”, а менавіта — “Сказки в лукошке” Валерыя Кастручына, “Касмічная кніга ў творах беларускіх пісьменнікаў” і “Казачныя аповесці пра міжпланетнага Пажарніка і іншых мамурыкаў” Раісы Баравіковай, “Удивительные приключения мышонка Пипа” Эсміры Ісмаілавай, “Первая прыгажуня” Алены Масла, “Птушкі” Алеся Бадака, а таксама “Блакітная кніга ў творах беларускіх пісьменнікаў”, і “Сказки детей Беларуси” — змянілі “імідж”. Адгэтуль яны будуць прадавацца з манжэткамі (спецыяльнымі палоскамі паперы, склеенымі ў выглядзе кола і надзетымі на выданне). Продаж кніг з рэкламай такога кшталту, што коратка распавядае пра кнігу і яе адметнасці, — распаўсюджаная з'ява ў Кітаі і Заходняй Еўропе.

— У выдавецтве Зміцера Коласа пабачыла свет чарговая кніга пра мумітроляў. Казка Тувэ Янсан “Камета над далінай мумітроляў” (ілюстрацыі аўтара; пераклад са шведскай — Настассі Лабады і Алесі Башарымавай) будзе прадстаўлена шырокай грамадскасці 13 лютага падчас Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу.

● Расійскі рынак дзіцячай літаратуры прыняў у свае рады новае выдавецтва Clever Media Group. Выдавецтва, што афіцыйна пачало працаваць мінулай восенню, зверне ўвагу на выпускі развіваючай і навукова-пазнавальнай літаратуры для дзяцей. Як падкрэсліваецца на сайце выдавецтва, у кнігах Clever Media Group будуць раскрывацца тэмы, важныя для дзіцяці на ўсіх этапах яго сталення.

— Пасля трох год уздыму кніжны рынак Францыі ў мінулым годзе ўсё ж такі сутыкнуўся з наступствамі эканамічнага спаду. Так, па выніках 2010 года ў краіне зафіксавана зніжэнне аб'ёму продажу кніжнай прадукцыі ў грашовым выражэнні на 1,5 працэнта (з улікам росту цэн) і на 0,5 працэнта — без уліку. Больш таго, другі год запар зніжаецца колькасць выдадзеных найменняў кніг. Па дадзеных статыстычных ведамстваў, у 2010 годзе з друку выйшлі 63 052 выданні, што на 1 працэнт менш, чым у папярэднім годзе.

● Чацвёрты фестываль вольных выдаўцоў “Бу!фест” пройдзе ў сярэдзіне сакавіка ў Маскве. У якасці яго арганізатараў выступаюць Гільдыя Вольных выдаўцоў і кніжны клуб “Гиперион”. “Бу!фест” — новая незалежная пляцоўка, арганізаваная выдаўцамі для чытачоў. Максімальна дэмакратычныя ўмовы дазваляюць прыняць удзел у фестывалі самым малым і вольным выдаўцам — нават калі яны выдалі толькі адну кнігу. Унікальны і фармат фестывалю — кніжны кірмаш, арт-маркет і канцэртная пляцоўка нон-стоп.

# Сам себе психолог

**Сегодня, во времена перемен, экономического кризиса, глобального потепления, перенаселения, технической революции, множества природных катаклизмов, проблем в личной жизни очень сложно оставаться в гармонии с собой, окружающими, правильно налаживать коммуникацию. Проблемы и кризисы личности поможет решить психолог или… грамотно подобранная книга. Чтобы познакомить читателей "Кніжнага свету" с некоторыми новинками и изданиями, уже ставшими классикой психологической литературы, мы представляем книги данной тематики, увидевшие свет в ООО "Харвест".**

Денис МАРТИНОВИЧ,
Ольга ПАВЛЮЧЕНКО,
Юзефа ВОЛК




## Карнеги. Место встречи изменить нельзя

Знакомить читателей с книгами Дейла Карнеги, советовать им обратиться к творчеству знаменитого американского педагога и писателя кажется изначально бесперспективной затеей. С одной стороны, кто из нас не знает о Карнеги, чьи книги, казалось бы, заполонили все библиотеки и полки магазинов и при этом переведены на все известные языки мира? С другой стороны, зачем нам Карнеги, писавший свои книги в далёкие 1920 — 1940-е годы? С того времени появилось столько литературы по психологии, что его бестселлеры давно устарели и остались в прошлом.

Суровые критики забывают, что развиваются государства, технологии, средства передвижения и связи, но человек со своими проблемами, сомнениями и слабостями остаётся неизменным. Поэтому легко написанные, убедительные книги Дейла Карнеги, которые помогли и продолжают помогать уже не одному поколению читателей, пользуются неизменным успехом. Издательство включило в сборник, объединенный общим названием **"Как завоёвывать друзей и оказывать влияние на людей"**, все наиболее значительные произведения автора. Это работы "Как завоёвывать друзей и оказывать влияние на людей", "Как перестать беспокоиться и начать жить" и "Как выработать уверенность в себе и влиять на людей, выступая публично".

Как утверждает сам автор, его книги помогут вывести читателя из умственного тупика, дадут ему новые мысли, мечты, цели, возможность легко и быстро приобретать друзей и помогут вам склонять людей к своей точке зрения. Вы всё ещё не верите? Карнеги уже идёт к вам!




## Товар! Полцарства за товар!

Продажа товаров и услуг — процесс психологический. Так, по крайней мере, утверждает Виктор Шейнов, белорусский социолог и психолог, профессор кафедры психологии и педагогики Республиканского института высшей школы БГУ. Автор научных работ по проблемам социологии и психологии управления, конфликтологии, он утверждает, что именно знаний психологии как раз и не хватает отечественным бизнесменам и торговым работникам. Более того, поскольку "советская экономика работала совсем в иных социальных и экономических условиях: дефицит товаров и услуг, единые государственные цены, отсутствие конкуренции", результатом становилось низкое качество обслуживания покупателей и клиентов.

Попыткой заполнить этот пробел стала книга **"Искусство торговли. Эффективная продажа товаров и услуг"**. Фактически, это занимательно написанное практическое пособие, в котором есть всё необходимое для овладения эффективной техникой продажи товаров и услуг. Здесь содержится большое количество приёмов и рекомендаций, проверенных практикой в условиях стран СНГ и Балтии.

Материал книги апробирован на многочисленных практических занятиях и тренингах, проводившихся автором с продавцами всех уровней. А поскольку техники продажи товаров и услуг в целом идентичны, книга будет полезна и интересна всем. Как занимающимся продажами — от менеджеров высшего звена до торговых агентов и продавцов, — так и нам с вами — рядовым покупателям.




## Успех — это успеть

Именно с этой цитаты из произведения Марины Цветаевой начинается книга В. П. Шейнова **"Как управлять собой"**. Приёмы использования скрытых ресурсов личности, продуктивное подключение подсознания к решению житейских и творческих проблем, развитие интуиции, памяти, интеллекта, остроумия, активизация творческого мышления — вот неполный перечень того, о чём пойдёт речь в данном издании. Открывает книгу глава "Где взять недостающее время", равно актуальная и для руководителей, и для хранительниц домашнего очага — потому что нам всем его остро не хватает. Проанализировав с помощью приведённых методик определённый период времени, мы чётко увидим, где находится резерв для того, чтобы кардинально изменить свою жизнь, освободившись от привычек, инерции, применяя правильный подход к решению неприятного или сложного дела.

Наиболее подходящими для руководителей окажутся советы, как избавиться от непрошеных посетителей и посетителей-манипуляторов, прекратить разговор, никого не обидев, как укротить телефон, а главное — научиться говорить "нет". Отдельная глава книги посвящена возможностям, мимо которых мы проходим. Читателя заинтересуют приёмы рационального чтения, обучения управлению временем.

Для того, чтобы сила мысли возросла, нужно усвоить формулу, по которой она рассчитывается. И совершенствовать её составляющие до тех пор, пока не будет достигнут требуемый результат. Формула эта проста: ***Сила мысли = Запись цели + (Концентрация мысли) x (Время размышления) + Запись промежуточных результатов.***

На страницах книги читатель найдёт множество полезных советов, как сохранить мозг молодым, а тело здоровым, похудеть без мучений и расходов, и даже... правила толкования снов.




## Так кто из нас обманываться рад?

Пожалуй, нет человека, который хотя бы раз в жизни не стал жертвой манипуляции. Болезненная память о том, что тебя заставили сделать что-то против твоей воли, живёт с нами долгие годы. То ли мы приобрели по слишком высокой цене вещь, которая нам совершенно не нужна, то ли мы приняли решение, которое вредит нашим планам, поддавшись специально созданным обстоятельствам, то ли пошли на поводу у собственных детей, друзей, родных или деловых партнёров... Можно ли сделать "прививку" от подобных покушений на свободу наших действий? В книге В. П. Шейнова **"Психология манипулирования"** детально рассматривается такой аспект человеческих отношений, как тайное управление людьми и умение ему противостоять. И хотя в руках у манипулятора все козыри — он заранее планирует результат псевдообщения, вам придётся импровизировать, но, зная описание ситуаций и уловок, можно успеть предпринять какие-либо меры, которые спутают карты противника. Может быть, вы сумеете "раззомбировать" ближнего, ослеплённого идеей заработать с помощью сетевого маркетинга или, чего хуже, податься в секту. В любом случае, чувство глубокого удовлетворения от того, что ситуации удалось избежать с минимальными для вас потерями, гораздо лучше, чем тяжёлый осадок от того, что вас обвели вокруг пальца.




## Врать или не врать?

Думал ли Хью Лори, английский актёр, писатель и музыкант, когда работал над созданием образа своего знаменитого персонажа — циничного, высокомерного, но чертовски привлекательного и проницательного доктора Хауса, что его фото появится на обложке... книги по житейской психологии? Думал ли он, что "Все врут!" — любимая фраза (и, можно сказать, философия жизни) знаменитого героя сериала станет названием книги? Но не только портрет Хью Лори на обложке и громкое название могут заинтересовать потенциального читателя в издании с громким названием "На грани хаоса. Все врут!".

Книга российского журналиста Светланы Кузиной **"Все врут! Учимся вычислять людей по их внешнему виду"** громко претендует на определение основных черт характера, чувств человека, свойств личности, отношения к собеседнику по выражению лица, позе, положению рук. Книга поможет ответить на вопросы: как узнать, когда человек врёт, и угадывать мысли собеседника? Как по внешнему виду определить, сколько лет проживёт ваш собеседник? Издание научит понимать, кто действительно перед вами, по походке, манере говорить и почерку. Кроме того, в книге Кузина делится опытом работы с экстрасенсами в программе "Битва экстрасенсов", даёт краткую информацию по хиромантии, раскрывает тайны гениев, президентов и маньяков по отпечаткам пальцев…

В книге можно найти много как полезной, так и совершенно бесполезной, но занимательной информации. Но, думаю, все факты, в ней представленные, нужно воспринимать не через призму хаусовской почти аксиомы "Все врут!", а сквозь выражение "внешность обманчива".




## Все тайны НЛП

Нейролингвистическое программирование (НЛП) — сравнительно новая дисциплина, возникшая лишь в середине 1970-х гг. Она берёт начало в нескольких областях знания, которые первоначально были объединены двумя создателями НЛП, — Ричардом Бэндлером и Джоном Гриндером.

Если подходить к определению методик НЛП формально, то определить данную область знания можно следующим образом. "Нейро-" относится к мозгу, сознанию, связанным с телом нервной системой, и к тому, как они обрабатывают информацию и кодируют её в память. "Лингвистическое" указывает на то, что нервные процессы кодируются, упорядочиваются и получают значение посредством языка, коммуникативных систем и различных символических систем (грамматики, математики, музыки, изображений). "Программирование" относится к нашей способности организовывать части (изображения, звуки, тактильные и вкусовые ощущения, запах и символы или слова) в сознании, что затем позволяет достигать желаемых результатов. Эти части образуют программы, которые выполняет мозг. НЛП получило известность благодаря используемым в нём методам осуществления эффективных длительных изменений. Например, в НЛП разработана техника, позволяющая избавиться от фобии за 10-15 минут.

Книга-руководство Боба Бонденхамера и Майкла Холла **"НЛП-практик: полный сертификационный курс. Учебник магии НЛП"** поможет читателю получить всё лучшее из НЛП как для удовлетворения первого любопытства, так и для повышения своей профессиональной квалификации до уровня Практик НЛП.

# Сведения о субъектах хозяйствования, имеющих лицензию на полиграфическую деятельность, по состоянию на 1 января 2011 года

| Наименование лицензиата | Местонахождение лицензиата (юридический адрес) | Учетный номер плательщика (УНП) | Сведения о лицензии (№ бланка лицензии, дата и № приказа о выдаче) | Срок действия лицензии | Составляющие полиграфической деятельности: выпуск печатной продукции |
|---|---|---|---|---|---|
| Коммунальное полиграфическое унитарное предприятие "Оршанская типография" | 221391, г. Орша, ул. Замковая, 3. Витебская обл. | 300051962 | 02330/0150495 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 11.03.2009 № 29 | До 29.03.2014 | без ограничений |
| Минское областное унитарное предприятие "Червенская типография" | 223210, г. Червень, пл. Свободы, 32. Минская обл. | 600004017 | 02330/0150464 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 25.02.2009 № 19 | До 29.03.2014 | без ограничений |
| Коммунальное полиграфическое унитарное предприятие "Колор г. Мозырь" | 247760, г. Мозырь, ул. Октябрьская, 12. Гомельская обл. | 400086953 | 02330/0150500 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 11.03.2009 № 29 | До 29.03.2014 | без ограничений |
| Коммунальное унитарное полиграфическое предприятие "Березовская районная типография" | 225210, г. Береза, ул. Красноармейская, 22. Брестская обл. | 200022954 | 02330/0494128 выдана от 03.04.2009 № 38 | До 03.04.2014 | без ограничений |
| Минское областное унитарное предприятие "Столбцовская укрупненная типография" | 222666, г. Столбцы, ул. Социалистическая, 28. Минская обл. | 600022365 | 02330/0150494 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 11.03.2009 № 29 | До29.03.2014 | без ограничений |
| ООО "Ксен-Ри" | 220036, г. Минск, Бетонный проезд, 17, к. 20 | 101213710 | 02330/0150463 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 25.02.2009 № 19 | До 29.03.2014 | за исключением газет |
| ОДО "Сувиг" | 220141, г. Минск, ул. Ф. Скорины, 40, к. 204 | 100286996 | 02330/0150462 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 25.02.2009 № 19 | До 29.03.2014 | за исключением периодических изданий |
| Производственно-торговое частное унитарное предприятие "Услуга" | 220013, г. Минск, ул. Кульман, 2, к. 134 | 100152430 | 02330/0150474 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 25.02.2009 № 19 | До 29.03.2014 | за исключением газет |
| ОДО "Дивимакс" | 220005, г. Минск, пр. Независимости, 58, к. 138 | 190147176 | 02330/0552765 выдана от 03.04.2009 № 38 | До 03.04.2014 | за исключением газет |
| Производственное частное унитарное предприятие "Типография Федерации профсоюзов Беларуси" | 220030, г. Минск, пл. Свободы, 23 — 107 | 100094818 | 02330/0150408 выдана от 04.09.2008 № 102 | До 04.09.2013 | за исключением газет |
| ООО "Кроссворд" | 220140, г. Минск, ул. Лещинского, 8, корп. 3, к. 209 | 100626823 | 02330/0494104 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 11.03.2009 № 29 | До 29.03.2014 | за исключением газет |
| Производственно-коммерческое ООО "Алексдар" | 220138, г. Минск, ул. Геологическая, 115, к. 3 | 101523696 | 02330/0494221 выдана от 20.04.2009 № 46 | До 20.04.2014 | за исключением газет |
| Полиграфическое частное унитарное предприятие "Интегральные системы и технологии" | 220141, г. Минск, ул. Ф. Скорины, 40, к. 206 | 101071733 | 02330/0150472 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 25.02.2009 № 19 | До 29.03.2014 | за исключением газет |
| Коммунальное издательско-полиграфическое унитарное предприятие "Техническая книга г. Жлобин" | 247210, г. Жлобин, ул. Урицкого, 62. Гомельская обл. | 400071669 | 02330/0150471 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 25.02.2009 № 19 | До 29.03.2014 | без ограничений |
| Белорусско-Кипрское совместное предприятие "Унифлекс" ООО | 220007, г. Минск, ул. Фабрициуса, 8 | 100731908 | 02330/0494108 выдана 29.03.2004 № 71, продлена от 11.03.2009 № 29 | До 29.03.2014 | за исключением периодических изданий и книжной продукции |
| ЗАО "Бонем" | 220138, г. Минск, ул. Геологическая, д. 59, корп. 4, к. 7 | 100759001 | 02330/0150467 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 25.02.2009 № 19 | До 29.03.2014 | за исключением газет |
| ОДО "НоваПринт" | 220138, г. Минск, ул. Геологическая, д. 59, корп. 4, к. 34. | 101430969 | 02330/0552786 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 25.02.2009 № 19 | До 29.03.2014 | за исключением газет |
| Научно-исследовательское проектно изыскательское РУП "Институт "Белжилпроект" | 220004, г. Минск, ул. Кальварийская, 17, каб. 217 | 100048299 | 02330/0494131 выдана от 03.04.2009 № 38 | До 03.04.2014 | за исключением газет |
| Гродненское областное унитарное полиграфическое предприятие "Слонимская типография" | 231800, г. Слоним, ул. Хлюпина, 16. Гродненская обл. | 500041154 | 02330/0150493 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 11.03.2009 № 29 | До 29.03.2014 | без ограничений |
| Производственное частное унитарное предприятие "Альтиора" | 220072, г. Минск, ул. Сурганова, 11, к. 214 | 100810375 | 02330/0150478 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 25.02.2009 № 19 | До 29.03.2014 | за исключением газет |
| Иностранное полиграфическое ЧУП "Альтиора — Живые краски" | 220072, г. Минск, ул. Сурганова, 11, к. 212 | 800004673 | 02330/0150479 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 25.02.2009 № 19 | До 29.03.2014 | за исключением газет |
| ООО "Бизнесофсет" | 220043, г. Минск, пр. Независимости, 95, корп. 7, к. 3 | 190171556 | 02330/0552770 выдана от 9.07.2010 № 112 | До 9.07.2015 | за исключением газет |
| Производственное РУП "Минсктиппроект" | 220123, г. Минск, ул. В. Хоружей, 13/61 | 100299864 | 02330/0494102 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 11.03.2009 № 29 | До 29.03.2014 | за исключением газет, кроме газет "Республиканская строительная газета" и "Вести БНТУ" |
| Производственное частное унитарное предприятие "Ходр" общественного объединения Белорусское товарищество инвалидов по зрению | 220004, г. Минск, ул. Освобождения, 9, к. 1 — 18 | 101205418 | 02330/0150482 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 25.02.2009 № 19 | До 29.03.2014 | за исключением газет |
| Производственное унитарное предприятие "Дижан-2000" общественного объединения "Белорусское общество инвалидов" | 220123, г. Минск, ул. В. Хоружей, 29 — 24 | 190235192 | 02330/0150498 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 11.03.2009 № 29 | До 29.03.2014 | за исключением периодических изданий |
| Белорусский национальный технический университет | 220013, г. Минск, пр-т Независимости, 65 | 100354447 | 02330/0494119 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 23.03.2009 № 32 | До 29.03.2014 | за исключением газет |
| РУП "Минская печатная фабрика" Департамента государственных знаков Министерства финансов Республики Беларусь | 220030, г. Минск, ул. Володарского, 3 | 100048217 | 02330/0494107 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 11.03.2009 № 29 | До 29.03.2014 | за исключением газет |
| Учреждение образования "Военная академия Республики Беларусь" | 220057, г. Минск-57 | 100981168 | 02330/0150499 выдана от 29.03.2004 № 71, продлена от 11.03.2009 № 29 | До 29.03.2014 | за исключением газет, кроме газеты "Время патриотов" |

# Навінкі кнігавыдання

*Айчынныя выданні, зарэгістраваныя Нацыянальнай кніжнай палатай Беларусі апошнім часам*

**Мастацкая літаратура для дзяцей і юнацтва**

**Сыракомля, У.** Вандроўкі па маіх былых ваколіцах: успаміны, даследаванні гісторыі і звычаяў: [для старэйшага школьнага ўзросту] / Уладзіслаў Сыракомля; [пераклад з польскай мовы, прадмова, каментарыі Кастуся Цвіркі]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2010. — 173 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1225-2.

**Творы замежных аўтараў у перакладзе на беларускую мову**: [для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту / складальнік З. І. Падлiпская]. — Мінск: Беларусь, 2010. — 475 с. — 20600 экз. — ISBN 978-985-01-0887-6 (у пер.).

**Бабушкины сказки**: [украинские и английские народные сказки: для дошкольного и младшего школьного возраста] / художник Дидковская Е. М. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2010. — 70 с. — 6000 экз. — ISBN 978-985-454-544-8 (в пер.).

**Зимовье**: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста] / художник Дидковская Е. М. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2010. — 16 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-454-559-2.

**Иванов, А. А.** Великая тайна Хомы и Суслика: [сказки: для дошкольного и младшего школьного возраста] / Альберт Иванов; [художник Е. Грубина]. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2010. — 90 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-454-512-7 (в пер.).

**Иванов, А. А.** Волшебный ручей Хомы и Суслика: [сказки: для дошкольного и младшего школьного возраста] / Альберт Иванов; [художник А. Бушкин]. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2010. — 82 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-454-514-1 (в пер.).

**Коза-дереза**: русская народная сказка: [для дошкольного и младшего школьного возраста / художники: Ирина Пустовалова, Владимир Пустовалов]. — Минск: Славянское слово, 2010. — 18 с. — 1900 экз. — ISBN 978-985-6955-01-6.

**Кот и Лиса**: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста] / художник Дидковская Е. М. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2010. — 16 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-454-556-1.

**Кот, Лиса и Петух**: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста] / художник Дидковская Е. М. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2010. — 16 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-454-551-6.

**Кот, Лиса и Петух. Лисичка-сестричка и Волк. Кот и Лиса**: [русские народные] сказки: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / художник Е. М. Дидковская. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2010. — 48 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-454-543-1 (в пер.).

**Кэрролл, Л.** Алиса в Стране Чудес: [для младшего и среднего школьного возраста] / Льюис Кэрролл; [перевод с английского языка О. Павлушенко; художник В. Голиков]. — Минск: Харвест, 2010. — 128 с. — 7000 экз. — ISBN 978-985-16-8545-1 (в пер.).

**Лисичка-сестричка и Волк**: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста] / художник Дидковская Е. М. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2010. — 16 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-454-550-9.

**Любимые сказки**: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / художник Дидковская Е. М. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2010. — 70 с. — 6000 экз. — ISBN 978-985-454-547-9 (в пер.).

**Машенька и Медведь**: русская народная сказка: [для дошкольного и младшего школьного возраста / художник Наталья Земченок]. — Минск: Славянское слово, 2010. — 18 с. — 2100 экз. — ISBN 978-985-6955-02-3.

**Мужик и Медведь**: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста] / художник Дидковская Е. М. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2010. — 16 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-454-558-5.

**Петушок и два мышонка**: [украинская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста] / художник Дидковская Е. М. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2010. — 16 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-454-557-8.

**Плутишка кот**: [русская народная сказка: для дошкольного возраста]: сказочный театр / [пересказал К. Ушинский; художник и автор конструкции Е. М. Дидковская]. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2010. — 12 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-454-490-8 (в пер.).

**Репка**: русская народная сказка: [для чтения взрослыми детям / художник Галина Шепелевич]. — Минск: Юнипресс, 2010. — 10 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-532-369-4.

**Русские народные сказки**: [для дошк. и мл. шк. возраста] / художник Е. М. Дидковская. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2010. — 254 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-454-542-4 (в пер.).

**Русские народные сказки**: [для среднего школьного возраста]. — Минск: Парадокс, 2011. — 414 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-451-247-1 (в пер.).

**Сказки для малышей**: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / художник Дидковская Е. М. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2010. — 70 с. — 6000 экз. — ISBN 978-985-454-546-2 (в пер.).

**Три поросенка**: [английская народная сказка: для дошкольного возраста]: сказочный театр / [художник и автор конструкции Е. М. Дидковская]. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2010. — 12 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-454-491-5 (в пер.).

**Три поросенка**: английская народная сказка: [для чтения взрослыми детям / художник Галина Шепелевич]. — Минск: Юнипресс, 2010. — 10 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-532-370-0.

**Тургенев, И. С.** Записки охотника: рассказы, повести / И. С. Тургенев. — Минск: Мастацкая літаратура, 2010. — 237 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1215-3.

**Беларуская літаратура**

**Беларускія казкі**: [для сярэдн. шк. узросту; рэдактар-укладальнік А. С. Бржазоўскі]. — Мінск: Парадокс, 2011. — 399 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-451-246-4 (у пер.).

**Гапееў, В. М.** Урокі першага кахання: аповесці: [для старэйшага школьнага ўзросту] / Валерый Гапееў. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010. — 187 с. — 1200 экз. — ISBN 978-985-6941-28-6 (у пер.).

**Зборнік беларускага фальклору**: [для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту]. — Мінск: Вышэйшая школа, 2010. — 253 с. — 18300 экз. — ISBN 978-985-06-1847-4 (у пер.).

**Веселая семейка-5**: белорусские народные сказки: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / художник Е. М. Дидковская. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2010. — 48 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-454-507-3 (в пер.).

**Дедушкины сказки**: [белорусские народные сказки: для дошкольного и младшего школьного возраста] / художник Дидковская Е. М. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2010. — 69 с. — 6000 экз. — ISBN 978-985-454-545-5 (в пер.).

**Беларуская літаратура**

**Беларуская літаратура X–XV стст.** / [укладанне, прадмова, каментарый, пераклад на беларускую мову і адаптацыя І. В. Саверчанкі]. — Мінск: Беларуская навука, 2010. — 409 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-08-1200-1 (у пер.).

**Галубовіч, Л. М.** Сыс і кулуары: літаратурна-крытычныя эсэ / Леанід Галубовіч. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010. — 173 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6941-47-7.

**Загурская, А. Л.** Літаратурнае чытанне: рабочы сшытак: 4-ты клас агульнаадукацыйных устаноў з рускай мовай навучання / А. Л. Загурская, Т. А. Няборская. — Мінск: Пачатковая школа, 2010. — 103 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-6947-52-3.

**Залоска, Ю.** Праўда як рэлігія: гутаркі з Васілём Быкавым / Юрась Залоска. — Мінск: Медысонт, 2010. — 190 с. — 500 экз. — (Кнігарня пісьменніка ; вып. 6). — ISBN 978-985-6887-79-9.

**Тычко, Г. К.** Беларуская літаратура XIX–XX стагоддзяў: час і асобы / Г. К. Тычко; Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры і мастацтваў. — Мінск: БДУ культуры і мастацтваў, 2010. — 265 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-522-001-6.

**Цітова, Л. К.** Браму скарбаў сваіх адчыняю...: 5-ты клас: дапаможнік для вучняў агульнаадукацыйных устаноў з беларускай і рускай мовамі навучання / Л. К. Цітова; Нацыянальны інстытут адукацыі. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010. — 126 с. — 3400 экз. — ISBN 978-985-6941-66-8.

**Цітова, Л. К.** Слова – радасць, слова – чары...: 6-ты клас: дапаможнік для вучняў агульнаадукацыйных устаноў з беларускай і рускай мовамі навучання / Л. К. Цітова; Нацыянальны інстытут адукацыі. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010. — 132 с. — 3400 экз. — ISBN 978-985-6941-64-4.

**ГЕАГРАФІЯ. БІЯГРАФІІ. ГІСТОРЫЯ**

**Краязнаўства**

**Белоозерский сельский совет** / [составители: Садовская Е. В. и др.]. — Минск, 2010. — 45 с. — 300 экз.

**Ветка** / [Ветковский районный исполнительный комитет]. — Гомель: Сож, 2010 — 23 с. — 1000 экз.

**Дисненский край** / [составители: А. Янковский и др.]. — Минск, 2010. — 44 с. — 300 экз.

**Регионы Беларуси**: энциклопедия: в 7 т. / [редколлегия: Т. В. Белова (главный редактор) и др.]. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2009– — ISBN 978-985-11-04-63-1 (в пер.).

Т. 2: Витебская область: в 2 кн., кн. 1 / [фотоснимки: Дрибас А. П. и др.]. — 2010. — 533 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-11-0525-6.

**Республика Беларусь. Могилевская область. Кричевский район**: 65 лет Великой Победы / [Кричевский районный исполнительный комитет]. — Могилев: Могилевская областная укрупненная типография, 2010. — 59 с. — 500 экз.

**Біяграфічныя і падобныя даследаванні**

**Гербовник дворянских родов Царства Польского**. — Факсимильное изд. — Минск: Энциклопедикс, 2010– — Обложка и текст параллельно на русском и польском языках.

Ч. 2. — 2010. — 237 с. — 40 экз. — ISBN 978-985-6958-14-7.

**Гісторыя**

**Беларускі дзяржаўны універсітэт (Мінск). Гістарычны факультэт.** Працы гістарычнага факультэта БДУ: навуковы зборнік / [рэдкалегія: У. К. Коршук (адк. рэд.) і інш.]. — Мінск: БДУ, 2006– — ISSN 1995-5669.

Вып. 5. — 2010. — 350 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 100 экз. — ISBN 978-985-518-353-3.

**Гісторыя сярэдніх вякоў, новага і найноўшага часу**

**Бондаренко, К. М.** История Европы: из опыта интеграционных процессов: монография / К. М. Бондаренко, В. С. Кошелев, П. Г. Лукьянов; Министерство образования Республики Беларусь, Могилевский государственный университет им. А. А. Кулешова. — Могилев: МгГУ, 2010. — 381 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-480-629-7.

**История Средних веков: XIV–XV вв.**: 7-й класс: ответы на вопросы и задания учебного пособия «История Средних веков: XIV–XV вв. 7 класс» (авторы: В. А. Федосик и др.) / [составители: В. Л. Лозицкий, Р. Б. Гагуа]. — Минск: Юнипресс, 2010. — 190 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-532-330-4.

**Кошелев, В. С.** История: 8-й класс: рабочая тетрадь: приложение к учебникам для 8-го класса: «Всемирная история Нового времени: XVI–XVIII вв.» (авторы: В. С. Кошелев, Н. В. Кошелева, С. Н. Темушев), «История Беларуси: вторая половина XVI – конец XVIII в.» (авторы: В. А. Белозорович, И. П. Крень, Н. Н. Ганущенко): пособие для учащихся общеобразовательных учреждений с русским языком обучения / В. С. Кошелев, Н. В. Байдакова, С. В. Панов. — Минск: Аверсэв, 2010. — 192 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-529-345-4.

**Гісторыя зарубежных краін**

**Германия и германский вопрос в истории XX века**: сборник научных статей / Министерство образования Республики Беларусь, Бело-

# Болей не п’ю

## Кароткія апавяданні




### Весела зазваніў тэлефон

У дзённіках Л. Талстога ёсць запіс: “Люблю п’яных”.

Быў у мяне прыяцель… Таленавіты, далікатны, нават пяшчотны да людзей чалавек. Але ж, як часта бывае, вялікі аматар. Звязвала нас зямляцтва: абое мы з Мсціслава.

Залежнасць сваю ад алкаголю ён разумеў цалкам. Спадзяваўся аднойчы выбрацца з заганнага кола.

Неяк пасля цяжкага шматдзённага запою патэлефанаваў раніцай, папрасіў завезці ў спецклініку. Маўляў, завязвае. Сёння. Зараз. Назаўсёды. Маўляў, больш трываць немагчыма.

Глядзець на яго было вусцішна: як з маўзалея.

Везці яго было сумна: што ў морг.

Па дарозе ён прыдбаў у гастраноме пляшку партвейну — надта ўжо ж пакутаваў: ломка. Пакуль даехалі — выпіў палову. Як прыехалі — яшчэ чвэрць. Я не пратэставаў: чалавек развітваецца з мінулым. Нарэшце вылез з машыны. Магутны. Два метры ростам. Касы сажань у плячах. Густыя валасы — да плеч. Перахрысціўся на чатыры бакі свету. На чатыры бакі пакланіўся.

Я чалавек не сентыментальны, але ж прабіла сляза. Вось як, аказваецца, гэта бывае. Як мяняюць жыццё.

Мы развіталіся.

Я кіраваў па вуліцах Мінска і ўяўляў свайго сябра на бальнічным ложку пад кропельніцамі. З халоднымі голкамі ў венах рук і носа. З бясконцай пакутлівасцю ў залядзянелых вачах.

Вярнуўся дамоў, сеў за пісьмовы стол, забыўся… А гадзіны праз дзве весела зазваніў тэлефон.

— Прывітанне! — пачуўся звонкі голас. — Ты ўжо дома? Чакай, еду да цябе!

З віскатам затармазіла таксоўка ля пад’езда. Мой сябра выйшаў, расправіў плечы, глыбока ўздыхнуў: вясна была ў самым росквіце, квітнелі каштаны, пяшчотная зеляніна туманіла сквер. Шырока пакрочыў да дома.

Я ўжо стаяў ля дзвярэй. Ён — агромністы, магутны — распасцёр рукі, пасяброўску сціснуў мяне ў абдымках. Усё стала ясна.

— Як палячыўся?

— Добра! Ох, добра!

— Колькі ўзяў? Сто, дзвесце?

Ён весела рассмяяўся.

— Якая розніца? Галоўнае — рашыўся. Сёння — апошні раз. Усё! Болей не п’ю.

Дастаў з кішэні пляшку віна і перахрысціўся.

### Таямніца

Здарылася гэта мінулай зімою на трасе Магілёў — Мінск. Вярталіся пасля пільных спраў дахаты “дальнабойшчыкі”. Раптам бачаць — ляжыць на дарозе чалавек, а трохі ўбаку — стары ровар.

Прыпыніліся.

Здаецца, жывы. Здаецца, трохі дзюбнуў. А мо і болей. Дакладней, п’яны ўшчэнт. Што рабіць? Адцягнуць убок ды пакінуць — замерзне. Трэба было б завезці дахаты, але ж — куды? Рашылі давезці да бліжэйшай вёскі і там выгрузіць. Паднялі за рукі-ногі, укінулі ў кузаў разам з роварам. Паімчалі далей. У кабіне цёпла, музыка льецца прыемная, у абодвух добры настрой. За размовай запамятавалі пра нечаканага спадарожніка. Успомнілі, як пад’язджалі да вёскі Пагост — амаль сто кіламетраў праехалі па трасе. Што цяпер рабіць?.. Выцягнулі з кузава, занеслі да бліжэйшай хаты, пасадзілі на прызбу, побач паставілі ровар. Пастукалі ў акно. Чакаць гаспадароў, аднак, не сталі — пайшлі да сваёй машыны і — уперад.

Будзе жыць.

Да вясны не выпадала ездзіць па гэтай трасе. А калі выпала — успомнілі пра тагo дзядзьку. А як па праўдзе — не забывалі. Харошыя былі хлопцы, казытала ў душы: як ён там? Жывы ці не?

Ля Пагоста прыпыніліся, пакіравалі да той хаты. Так і гэтак, сказалі, быў выпадак. Ну, як жа, адказваюць, памятаем. То Самсон Рукасуй. Галоўны п’янтос на ўвесь край. Жывы! Ачомаўся — паехаў на ровары дамоў. А вы што хацелі?

— Дзюбнуць з ім хацелі. За здароўе.

— Э, не, — адказваюць, — не атрымаецца. Не дзюбае ён цяпер. Ужо з паўгода ў рот не бярэ.

…Прачнуўшыся ў чужой хаце, Самсон Рукасуй адразу запытаўся: “Дзе я?” — “У Пагосце”. — “Дзе? — доўга маўчаў. — А чаму?” — “Не ведаем, — адказваюць. — Прыджгаў на ровары, пастукаў у акно. Мы выйшлі, а ты спіш”. — “Не можа быць”, — запярэчыў Самсон. “Было”.

Далі папіць-паесці, і Самсон паехаў назад. Два дні ехаў: адно — зіма, а не лета. Не па сезоне транспарт; другое — пахмелле, цяжка не палячыўшыся. “Дзе быў?” — пацікавілася жоначка, як толькі прачыніў весніцы. “У Пагосце”. — “Зусім мазгі прапіў?” — “Ну, — пагадзіўся Самсон. — Як на ровар сеў — помню, а вось як даехаў да Пагоста — не”. — “П’янтос пракляты, — прамовіла жонка. — Да смерці піць будзеш?” — “Не, — задумена прамовіў Самсон. — Болей не п’ю. Пакуль усё не ўспомню, кроплі ў рот не вазьму”.

І праўда, не п’е: спалохаўся чалавек. Штодзень пасля работы ўсаджваецца на лаўку і ўспамінае. Іншым разам і ноччу ўсхопіцца, сядзе ля вакна.

Не, відаць, таямніца так і застанецца нераскрытаю.

### Салодкая парачка

Раптам сярод гарадскіх п’яніц прайшла чутка, што Ціхан Шаркевіч з жонкай закадзіраваліся. Насамрэч, ужо тыдзень у крамцы “Вясёлка”, дзе па раніцах збіраюцца тыя, каму трэба папраўіцца і ў каго няма за што, не з’яўляліся.

— Ну-у, — расчаравана сказаў Навум Гаркач. — Гэта ўсё. — Такая ў яго была прымаўка. Як што-небудзь не падабалася або, наадварот, моцна падабалася, казаў: “Гэта ўсё”.

Яны сядзелі на кукішках ля ўвахода ў краму.

— Не можа такога быць, — запярэчыў Сямён Булыга. — Пэўна, калым добры знайшоў.

Так, гэта магчыма, — павесялелі. На калым Ціхан хадзіў часта, не грэбаваў любой працай.

— Каб калым, — зазначыў Валодзька Туз, — паклікаў бы каго. Адзін не любіць працаваць.

Сапраўды, пагадзіліся, адзін не любіць. Падобна, усё ж — закадзіраваўся. Ці падшыўся.

— А мо захварэў? — выказаў здагадку Навум.

— На што? — кліпва пацікавіўся Булыга.

— А хоць на грып. Зараз грып такі: хоць зімой, хоць летам.

— Прыдумаў! Чаго ён будзе хварэць?

І праўда, малоціць Гаркач абы-што. Ціхан ніколі не хварэў. У сумёце ўзімку заначуе — не кашляне.

— А мо на “хімію” патрапіў? — раптам усхвалявана загаварыў Туз. — Мо ўкінулі пятнаццаць сутак?

Што ж, вельмі падобна на праўду. Рэч у тым, што Ціхан ужо не раз трапляў “на хімію”: любіў, падвесяліўшы душу, памахаць кулакамі.

— Цікава, колькі яму ўляпілі. Калі сем, павінен з’явіцца сёння. А як пятнаццаць…

— Не, — сказаў Гаркач, — я ўчора бачыў “хімікаў” каля лазні. Капалі траншэю. Ціхана не было.

Та-ак… Што ж здарылася?

— Мо жонка не пускае з хаты?

— Сказаў! Жонка!

Насамрэч. Жонка ў яго сама паперадзе ў краму бяжыць.

— А можа, — спалохана загаварыў Туз, — можа, ён…

І змоўк, як папярхнуўся. Толькі пальцам кудысьці паказваў, выраčыўшы вочы. Пагледзелі туды, куды паказваў — і таксама як папярхнуліся: Ціхан з жонкай набліжаліся. Трымаючыся за рукі, усміхаючыся адно аднаму. Абодва як з цырульні.

— Прывітанне… — працадзілі скрозь зубы і пакіравалі ў “Вясёлку”. Ніхто не адказаў на гэткае прывітанне, але ўсе пасунуліся следам.

— Дай нам, Каця, малака.

Каця, прадаўшчыца са стажам, усіх ведае, а таксама што каму трэба. Паставіла на прылавак малако, хлеб, а яшчэ бутэльку віна вытворчасці мясцовага вінзавода.

— А вось гэта не трэба, — сказаў Ціхан і віно адсунуў.

Развітчыліся, пайшлі з крамы. Сябры пакіравалі следам.

— Эй вы, салодкая парачка!

Прыпыніліся.

— Што табе?

— Дай рубля.

— Ха-ха! — сказаў Ціхан і паказаў нешта з трох пальцаў.

— Ты заўсёды быў скнара. Зоська!

— Ха-ха! — сказала яна.

Зарагаталі, пайшлі.

— Ты што, падшыўся?

— Не, — абыякава адказаў той. — Навошта? Проста болей не п’ю. Надакучылі вы мне!

Пакрочылі да сваёй вуліцы, дахаты.

Сябры доўга моўчкі глядзелі яму ўслед.

— Ну, гэта — усё, — вымавіў нарэшце Навум Гаркач.

І ўсе пагадзіліся. Так і ёсць. Усё.

— Гады… Во закадзіруюся, я ім…

— А грошы ў цябе ёсць? Ты думаеш там — задарма?.. Пойдзем да Юзэфы, прасіла дровы пакалоць.

— Неахвота сякерай махаць. Пасядзім яшчэ. Хто-небудзь дасць рубля…

### Паралізавала?

Ішоў я па вуліцы Пралетарскай, міма дома, які ў нас называюць “Парыж”, калі пачуў, што мяне нехта кліча. Азірнуўся — у вакне першага паверха ўбачыў колішняга знаёмага Аркадзя. Наблізіўся. Аркадзь ветліва ўсміхаўся, ківаў галавой.

“Як ты?” — спытаў ён. “Ды дзякуй богу”. — “Чуваць было, нешта пішаш?” — “Крэмзаю”. — “Ганарары добрыя маеш?” — “Якія там ганарары? Слёзы”. — “Ну а здароўе?” — “Больш-менш”. — “А ў мяне — дрэнь. Тры гады, як паралізавала. Дацягнуся вось да вакна і сяджу. Не дасі мне рублі тры на віно? Усё весялей будзе”.

Як не даць? Ішоў і ўспамінаў, як разам плёскаліся ў Віхры, ганялі ў футбол, хадзілі да дзяўчат…

А ўвечары сустрэў яго ля ўніверсама. Разам з нейкім сябрам яны стаялі на рагу дзвюх вуліц і спявалі песні савецкіх часоў. Убачыў мяне — трохі сумеўся.

— Палепшала! — апярэдзіў мае пытанні. — Далібог — палепшала. Дзякуй табе!..

### Пацалунак

Чалавек ён быў сціплы і ветлівы. Перш чым падысці і папрасіць на пляшку, доўга хадзіў міма, сарамліва пазіраў на мяне (усё ж такі пісьменнік), уздыхаў. Нарэшце, рашыўся. Доўга гаварыў пра надвор’е, палітыку і палітыкаў — і раптам як у прорву галавой: дай на бутэльку.

— На!

Ён прывык, што яму адмаўляюць, ганяць і гоняць, а тут адразу — на. Узяў грошы і раптам абняў мяне за плечы, балюча пацалаваў у вусны. Та-ак, падумаў я. Моцна цябе прыцiснула, хлопча…

“Заўтра аддамо”. — “Ды ладна ўжо…” Не прыйшоў і паслязаўтра. А калі сустракаў мяне дзе-небудзь на вуліцы, крута паварочваў, кідаўся прэч на злом галавы. І раптам — гады праз тры, калі я ўжо даўно забыў пра тыя рублі, падышоў, працягнуў пазычанае.

“Адкуль у цябе грошы?” — спытаў я.

“На пенсію выйшаў! — шчаслiва прамовіў ён. — А Скрыцкі з Хамянком піць забаранілі”.

Скрыцкі і Хамянок — вядомыя ў нашым горадзе дактары.

“Грошай цяпер у мяне як гразі. Больш не п’ю!”

Пацiснуў мне руку, а потым — як тады — балюча пацалаваў у вусны.

— Люблю пісьменнікаў! — прамовіў на развітанне.

### «Дурань ты, Іванка…»

Колькі было год Іванку, ніхто не ведаў: маленькі, маўклівы, кволы… Пэўна пенсійнага ўзросту ці каля гэтага. Ціха жыў і ціха памёр. Іншыя пасля чаркі песні спяваюць і свараццца, нават б’юцца, а Іванка — адразу дамоў. Зваліцца ў ложак, накрыецца з галавою і — да раніцы.

А бывае і так, што не паспее дайсці да дому. Тады — пад які-небудзь плот ці прызбу ды фуфайку на галаву. То — як з палучкі або авансу. Счакаўшы, пакуль сцямнее, жонка ягоная, Маша, выцягвае з хлява тачку і — у пошукі. Раней, як дачка з імі жыла, было працей. Толькі ж аднойчы дачка заявіла: татка, не магу я больш на цябе глядзець. А Маша, маці яе, сказала: ну дык ідзі замуж. Я сама буду на яго глядзець. Пайшла, бягом пабегла. Цяпер на свайго п’яніцу любуецца штодзень.

Увогуле шмат хто здзіўляўся: як гэта табе, Іванка, пашанцавала на такую жанчынку? Або: як ты, Маша, пайшла за яго? Ну, ладна, памылілася па маладосці, але ж даўно можна было папраўіць памылку. “Ну што вы, — адказвала. — Якая памылка? Слухаць вас не хачу, гадаўкі”.

А ўсё проста: нейкае такое каханне. Такая любоў. Напрыклад, увечары яна ў тэлевізар глядзіць, а Іванка на яе. За сталом — наадварот: ён есць, а яна на яго глядзіць. На работу ў розныя бакі, але ж ён праводзіць і стаіць на вуліцы, пакуль Маша не знікне за дзвярыма бальніцы. Санітаркай яна там працуе.

“Што я буду рабіць, як ты памрэш?” — запытаўся аднойчы.

“А я?” — запыталася Маша.

І абое доўга маўчалі, бо не ўяўлялі такога жыцця.

Канечне, Іванка колькі разоў збіраўся кінуць піць. Папраўдзе — кожны Божы дзень збіраўся. Калі-небудзь да вечара трывае, а ўвечары: ну, апошні раз. Самы апошні.

“А ты пахрысціся, — кажа яму Маша. — Бог дапаможа”.

“Не, гэта нельга. Ці мала што? Можа, пад пісталетам скажуць: пі. І што тады? Усохне рука”.

Затое зранку ў нядзелю кроплю ў рот не возьме. Шпацыруюць яны па горадзе, па магазінах. Выбіраюць, што можна купіць, каб грошы былі. Маша спадніцы, кофтачкі прымервае, усміхаецца, а Іванка пазірае на яе. Абаім хораша і прыемна.

Так і жылі. І раптам — рррaз! — жыццё скончылася. Інфаркт гэта называецца. А правільней — разрыў сэрца. Адны казалі, што сэрца лопнула ад п’янства, іншыя — ад кахання. Ад любові да Машы. Усё можа быць.

— Дурань ты, Іванка, — паспела прамовіць Маша і горка заплакала. — Можа, пажыў бы яшчэ, каб не піў!..

— Усё, Маша, — адказаў ён і перахрысціўся. — Болей не п’ю.

І то былі яго апошнія словы.

*Мсціслаў — Мінск*

## Арт-пацеркі

*Лана ІВАНОВА,*
**фота Віктара Кавалёва і аўтара**

Работы вучняў прафесара Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Зінкевіча экспануюцца на яго радзіме — у Светлагорскай карціннай галерэі імя Г. Пранішнікава. Прадстаўлены творы стыпендыятаў, лаўрэатаў і дыпламантаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі. Як паведамілі нам са Светлагорска, найбольшую ўвагу наведвальнікаў прыцягваюць жывапісныя палотны вядомай чытачам "ЛіМа" студэнткі БДАМ Алесі Скарабагатай, сярод якіх "Белая гара", "Хочаш кавы?", "Снукер" — карціны-ўдзельнікі рэспубліканскіх выставак.



Жывое і гарачае мастацтва джаза тры вечары панавала ў сталічным Клубе імя Ф. Дзяржынскага. Тут праходзіў ХХІІ Міжнародны фестываль "Мінскі джаз" — праект Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі на чале з маэстра Міхаілам Фінбергам. Біг-бэнд пад яго кіраўніцтвам пазнаёміў прыхільнікаў жанру з найноўшымі партытурамі — узорамі амерыканскага джаза ХХІ стагоддзя. Усе інструментальныя групы і салісты гэтага калектыву шчыравалі таксама ў праграме "The best", дзе было прадстаўлена самае лепшае, створанае за больш як сто гадоў існавання джаза. У заключным канцэрце фэсту ўдзельнічалі музыканты з Літвы.

Запомніце гэтае імя: Максім Паўлаў. Навучэнец Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі (клас дацэнта М. Парахаўнічэнкі), ён удзельнічаў у чарговым Міжнародным фестывалі-конкурсе харавога і вакальнага мастацтва імя Ф. Шаляпіна, што праводзіўся ў Ялце па дзвюх намінацыях. У намінацыі "народныя спевы", дзе было 120 спаборнікаў, М. Паўлаў заваяваў Гран-пры; сярод 80 канкурсантаў у эстрадных спевах заняў 1-е месца. Паслухаўшы толькі адну акапэльную беларускую народную песню "Ой, там на гарэ" (нумар у нядаўняй зборнай філарманічнай праграме), мінская публіка перажыла ўзрушэнне ад прыгожага, роўнага і пластычнага голасу, высокай вакальнай тэхнікі, багатай інтанацыйнай палітры, пранікнёнага і вобразнага выканання М. Паўлава.



***На здымках:** Алеся Скарабагатая "Снукер"; спявае Максім Паўлаў.*

# Кампазітар — гэта Прафесія!

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**рэдактар аддзела мастацтваў "ЛіМа", вядучая сустрэчы за "круглым сталом",**
**фота Кастуся Дробава**

**Прапануем увазе чытача працяг размовы, якая адбылася за "круглым сталом" рэдакцыі "ЛіМа" (гл. нумар за 28.01.2011). Яе ўдзельнікі — члены праўлення Беларускага саюза кампазітараў, добра вядомыя ў творчым і навуковым асяроддзі асобы: музыказнаўцы Радаслава Аладава і Таццяна Песнякевіч, кампазітары Галіна Гарэлава, Алег Залётнеў і Рыгор Сурус.**

**Святлана Берасцень.** Разважаючы пра прэстыж сваёй прафесіі, Алег Залётнеў закрануў сапраўды набалелую праблему: безабаронасць прафесіяналізму перад наступам амбіцыйнай аматаршчыны, дылетантызму, недасведчанасці. Сапраўды, сталася так, што крытэрыі прафесіі кампазітара, навучанне якой, па вялікім рахунку, працягваецца шмат гадоў, калі не сказаць — усё жыццё, пачалі размывацца ў масавай свядомасці. Многія сур'ёзныя музыканты задумваюцца над пытаннем: чаму грамадства дапускае, што нават саматужнікі, якія не ўмеюць чытаць ноты, неадукаваныя складальнікі прымітыўных песенек, маюць права называць сябе кампазітарамі і часам зневажальна ставіцца да прафесійнага досведу тых таленавітых і эрудзіраваных творчых людзей, якіх аб'ядноўвае саюз кампазітараў...

**Алег Залётнеў.** Але ж тое, што ўсе саматужнікі цяпер завуцца кампазітарамі, дае права, скажам так, пасрэдным, другарадным, не надта адукаваным членам саюза на гэтым фоне ўзняць галаву, завышаць сваю самаацэнку: маўляў, я ж тады — неапрэчна сапраўдны кампазітар! І патрабаваць да сябе такога ж стаўлення і прызнання, якое іншыя калегі заслужылі сваім талентам...

**Рыгор Сурус.** Алег закрануў надзвычай важны момант. Звярніце ўвагу: у масавых радыёперадачах, у тэлепраграмах кампазітарамі называюць тых, хто напісаў адну-дзве песні, у лепшым выпадку — дзесяць нейкіх песень. Але ж называць кампазітарамі можна людзей з вышэйшай кампазітарскай адукацыяй — і толькі!

**Галіна Гарэлава.** Рыгор Фёдаравіч, хто павінен гэта давесці да грамадства?

**Р. С.** Рэдакцыі радыё, тэлебачання і газет.

**Г. Г.** А я думаю, стаўленне да нашай прафесіі было б іншае, калі б музыка, і акадэмічная ў тым ліку, мела рэзананс як нейкая грамадская з'ява ў шырокім друку. Памятаю шумнае здзіўленне ўкраінскага дырыжора, які сыграў у Мінску сімфанічную праграму, а водгук на яе надрукавалі ці не праз тры месяцы. Маэстра здзіўляўся, бо на Украіне пра канцэрты шмат пішуць самыя розныя штодзённыя газеты, пішуць па-рознаму: хтосьці ўсхваляе, хтосьці ганіць — і гэта цікава.

**С. Б.** У нашых апаратыўных масавых СМІ стаўленне да тых жа сімфанічных канцэртаў іншае, і ні газета "Культура", ні "ЛіМ" на сітуацыю ў агульным інфармацыйным полі не паўплываюць. Між іншым, чытачы "ЛіМа" заўважаюць, што наш літаратурны тыднёвік, у якім няма, як было калісьці, асобнага аддзела музыкі, а ёсць агульны аддзел мастацтваў, музычнаму жыццю надае належную ўвагу. Вядома, хацелася б, каб і ўдзельнікі нашай сустрэчы за "круглым сталом" часцей, чым гэта бывае, пісалі ў "ЛіМ": пра надзённыя праблемы культуры, пра музычныя прэм'еры, пра творчасць айчынных выканаўцаў і калег-юбіляраў...

**Г. Г.** ...і ў кожнага з нас будзе вельмі суб'ектыўны погляд на ўсё гэта, таму не кампазітар павінен пісаць.

**Таццяна Песнякевіч.** А чаму, чаму — не? Павінен пісаць і кампазітар...

**С. Б.** ...і няхай потым іншы кампазітар, пачытаўшы публікацыю калегі, выступіць са сваім суб'ектыўным меркаваннем. Не руцінны "крытычны разбор", а палемічны абмен індывідуальнымі жывымі меркаваннямі сілкуе творчасць!

**Р. С.** Усё гэта так, але ж мы адхіліліся ад асноўнай праблемы сённяшняй размовы: статус кампазітара ў грамадстве. Можа, не ўсе і ведаюць, але прафесія кампазітара ў нас... выключаная з рэестра прафесій. Трэба аднавіць яе ў нашым заканадаўстве! Зразумела, за гэтым "круглым сталом" мы праблему вырашыць не можам. Але мы можам ускалыхнуць грамадскую думку, прыцягнуць увагу кампетэнтных асоб. Спадзяюся, нас пачуюць і падтрымаюць тыя, у каго ёсць афіцыйныя паўнамоцтвы аднавіць прафесію кампазітара ў Кодэксе законаў аб працы, адкуль яна "знікла" роўна 20 гадоў таму. Заўважце, два дзясяткі гадоў — узрост цэлага пакалення...

**А. З.** Такое здарылася не толькі з кампазітарамі. Я працую ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў і ўжо не першы раз набіраю курс гукарэжысёраў. Дык вось, такой прафесіі — гукарэжысёр — у нашай дзяржаве таксама няма. Афіцыйна я нават не магу ўжыць гэтае слова ў дачыненні да сваіх студэнтаў. Хоць мы і называем адпаведных спецыялістаў гукарэжысёрамі, у дакументах пішацца: "рэжысёра (гукавое афармленне)". Але ва ўсім свеце ёсць асобныя прафесіі гукарэжысёра, гукааператара, гукаінжынера.

**Р. С.** Дарэчы, варта пагаварыць пра навучанне прафесіі кампазітара. Яе статус залежыць яшчэ і ад таго, хто ўзначальвае кампазітарскую школу. Загадчык кафедры кампазіцыі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі павінен быць прыкладам для нашага музычнага свету, для калег. А калі чалавек сам даўно ўжо не піша...

**Г. Г.** Уладзімір Васільевіч Дарохін, загадчык кафедры кампазіцыі, мае ў сваёй творчай біяграфіі нямала вядомых музычных твораў. Дарэчы, на міжнародным конкурсе піяністаў, праведзеным нядаўна ў Мінску, многія замежныя спаборнікі гралі менавіта п'есу Дарохіна "Белая вежа", якую самі выбралі са спісу твораў пяці беларускіх кампазітараў, рэкамендаваных для выканання ў абавязковай праграме. А сёння ён піша першы (!) за ўсю гісторыю беларускі падручнік па кампазіцыі!

**Р. С.** Гэта праца музыказнаўцаў.

**Радаслава Аладава.** Ні ў якім разе! Толькі кампазітар павінен гэта рабіць.

**Г. Г.** І яшчэ: калі ўжо гаварыць пра сапраўдную праблему беларускай кампазітарскай школы, дык трэба прызнацца, што цяперашні кантынгент абітурыентаў не пакідае нам магчымасцей для выбару. У нас план набору — пяць чалавек, а сярод тых, хто пачынае вучыцца кампазіцыі, прафесійна прыдатным аказваецца толькі адзін. Прымаем слабенькіх...

**Р. С.** Што ж, яшчэ адно звяно агульнага ланцужка: сама прафесія выключана з Кодэкса законаў аб працы, страціла колішні статус, вучыцца кампазіцыі ўжо непрэстыжна, таму таленавітыя людзі не ідуць на спецыяльнасць, якая страціла і аўтарытэт, і прафесійныя крытэрыі...

**Р. А.** Ды як жа гэта мы гаворым пра непрэстыжнасць прафесіі, калі самі тут скардзіліся, што з'явілася незлічоная колькасць людзей, якія лічаць сябе кампазітарамі, якія хочуць, каб іх называлі кампазітарамі! І калі нават малаадукаваныя людзі мкнуцца ўступіць у саюз кампазітараў, гэта што: сведчанне непрэстыжнасці прафесіі? Не. Можа, гэта — непрэстыжнасць саюза?

**А. З.** Прэстыжнасць або непрэстыжнасць... Што і каму дае членства ў саюзе... Відавочна адно: таленты не нараджаюцца аднагачасова і пастаянна, ці хаця б раз на пяць гадоў па 5 — 10 чалавек. І крытэрыі набору на кампазіцыю заніжаныя дзеля таго, каб забяспечыць нагрузку педагогам: ім жа трэба працаваць. Вось і працуюць: з таленавітымі, сярэднеталенавітымі, малапрыдатнымі... А потым жахаемся: адкуль у творчым асяроддзі генерацыя "шэрых ваўкоў", чаму размываюцца прафесійныя крытэрыі...

**С. Б.** Дарэчы, трымаць прафесійныя крытэрыі на годным узроўні дапамагаюць сур'ёзныя музычныя фестывалі, у праграмах якіх выконваецца, нярэдка ў спалучэнні з класікай, найноўшая музыка. У мінулым стагоддзі спроба наладзіць рэгулярны міжнародны фестываль сучаснай музыкі была і ў нас. Цяпер беларускія кампазітары і музыказнаўцы толькі мараць пра свой фэст і "ловяць шанц" пабываць на такіх інтэрнацыянальных музычных форумах, якія праводзяцца нават у краінах з пэўнымі эканамічнымі праблемамі: Літве, Малдове, Румыніі, Украіне...

**Р. А.** Трэба зазначыць, што не ўсе фестывалі новай музыкі праводзяцца на базе кампазітарскіх саюзаў. Прыкладам — вядомая "Варшаўская восень" са сваім аўтаномным фінансаваннем, якая ў пэўным сэнсе ўвасабляе дзяржаўны прэстыж Польшчы. Міжнародныя фестывалі, вядома ж, вымагаюць адпаведных грошай на іх арганізацыю. Так, мы калісьці, і даволі паспяхова, спрабавалі зрабіць штосьці аналагічнае ў Мінску. Цяпер грошай няма і фестывалю няма. Праўда, я не ўпэўненая, ці сабралася б сёння на яго, як тады, столькі зацікаўленай публікі. Бо сёння, напрыклад, нават самыя грандыёзныя і прэстыжныя оперныя фестывалі на Захадзе збіраюць публіку, можна сказаць, з усіх краін — адтуль і грошы! У нашым выпадку я не ўяўляю, адкуль возьмуцца такія шырокія міжнародныя музычныя сувязі, бо яны ў нас паступова абмяжоўваюцца больш "камерным" фарматам. Але пры тым варта звярнуць увагу на істотную акалічнасць. Тыя кампазітары, якія маюць сапраўды яркі аўтарытэт у свеце, — гучаць і за мяжой. Галіна Гарэлава — гучыць! І ўжо нават ёсць нямала г. зв. сусветных прэм'ер сучасных беларускіх твораў, дзякуючы якім іх аўтары адчуваюць сябе неяк запатрабаванымі. На жаль, такія важныя для культурнага іміджу Беларусі творчыя паездкі нашых калег адбываюцца за іх уласны кошт. А мне здаецца, што фінансавая падтрымка прэстыжных для нашай краіны міжнародных музычных сувязей не павінна лічыцца толькі прыватнай справай таленавітага кампазітара.

**Г. Г.** Сярод нас прысутнічае аўтар монаоперы "Адзінокі птах", прысвечанай Адаму Міцкевічу. Алег, у якіх краінах гучаў гэты твор?

**А. З.** Ва Украіне, у Расіі... Некалькі разоў у Польшчы...

**Г. Г.** А ведае пра гэта, на жаль, толькі вузкае кола сяброў і калег. Як і пра тое, што за апошні год былі прэм'еры на фестывалі ў Кёльне твораў беларускіх кампазітараў Аляксандра Літвіноўскага, Вячаслава Кузняцова, знаных і за мяжой. Таксама неаднойчы выконваліся ў замежжы творы Дзмітрыя Смольскага, Дзмітрыя Лыбіна. Маскоўскі камерны музычны тэатр звярнуўся да опернай творчасці Сяргея Картэса...

**С. Б.** Можна дадаць яшчэ некалькі прозвішчаў: Сяргей Бельцюкоў, Яўген Паплаўскі, Алег Хадоска... Гэтыя ды іншыя прыклады, у тым ліку візіты нашых музыказнаўцаў і кампазітараў на замежныя музычныя форумы ў якасці гасцей, сведчаць, што міжнародныя сувязі саюза кампазітараў пераходзяць на неафіцыйны ўзровень асабістых стасункаў, рэалізацыі індывідуальных праектаў.

**Р. А.** Так, наша міжнародная дзейнасць — удзел у фестывалях, творчыя паездкі — належнай падтрымкі сёння не мае. На жаль.

**Г. Г.** Раскажу, між іншым, такі выпадак. Калі я ўпершыню ездзіла ў Швейцарыю як удзельнік сумеснага музычнага праекта (беларускі аўтар і швейцарскі выканаўца), на мяжы тамтэйшы мытнік хадзіў кудысьці даведвацца, што значыць "Вайс-русланд". А калі неўзабаве зноў тамсама ехала на прэм'еру, мытнікам ужо была знаёма назва нашай дзяржавы. Магчыма, дзякуючы і таму візіту. Насамрэч такія творчыя падзеі надзвычай важныя для краіны, і хацелася б, каб у грамадстве на іх звярталася ўвага.

**Р. С.** Мне зараз успомніўся той час, калі прэм'еры беларускіх кампазітараў наведваў Пётр Міронавіч Машэраў. Ён прыходзіў і на наш з'езд, прысутнічаў на ўсіх дыскусіях, размаўляў з намі ў кулуарах. Ведаў пра ўсе нашы праблемы. І вынікі такіх стасункаў былі істотныя.

**А. З.** Аднак мы ці не з тых часоў прызвычаіліся прасіць у дзяржавы на свае патрэбы: "Дайце, дайце, дайце!". Грошай сёння не даюць. Або даюць недастаткова. Напэўна, мы не павінны адмаўляцца ад сваіх просьбаў. Але ж трэба ўсвядоміць, што часовае задавальненне матэрыяльных патрэб нашага саюза не вырашыць пастаянных праблем, пра якія гаворыцца на кожным з'ездзе. Плата за арэнду і камунальныя паслугі расце. Дзень пры дні нам усё цяжэй утрымліваць сваё памяшканне, і яно памяншаецца. На былых нашых плошчах ужо размясцілася цырульня. Калі так пойдзе далей, мы страцім канцэртную залу і застанёмся з двума пакоямі. Таму, я думаю, нам трэба прасіць у дзяржавы не грошы, а законы. Такія законы, якія спрыялі б развіццю спонсарства. І гэта, да-

рэчы, праблема не толькі для кампазітараў.

**С. Б.** А пакуль няма спрыяльных законаў, хіба кампазітары не могуць паспрабаваць самі стварыць нейкі “фонд узаемадапамогі”? У вас ёсць даволі паспяховыя ў эстрадным жанры калегі, якія арганізавалі б, напрыклад, цыкл папулярных дабрачынных канцэртаў. Магчыма, ёсць у музычнай сферы ініцыятыўная моладзь, здатная прыдумаць камерцыйны праект, які падтрымаў бы некамерцыйнае сур’ёзнае мастацтва...

**Р. А.** Маладых кампазітараў у нашым саюзе цяпер зусім няшмат. Таму што большасць з тых, каго мы прымалі ў БСК апошнім часам, з’язджае за мяжу. Яны захоўваюць членства ў нашым саюзе, а ў іншых краінах набываюць каласальна шырокае гучанне. Я была проста ўзрушана і ўзрадавана неспадзяваным адкрыццём, паглядзеўшы запіс оперы Валерыя Воранава “Жаніцьба”. Мусаргскі — Воранаў”, прадстаўлены на сусветных музычных фестывалях.

**Г. Г.** Аксана Амяльчук таксама вельмі вядомая за мяжой. Яна перамагае ў спаборніцтвах на атрыманне грантаў, з некалькіх дзясяткаў прэтэндэнтаў, напрыклад, менавіта яна атрымала грант на напісанне оперы.

**Р. А.** За мяжой маладымі беларускімі кампазітарамі пішуцца оперы, якімі тут ніхто не цікавіцца. І гэта вельмі прыкра, што калі ў нас з’яўляецца таленавітая моладзь, яна тут зазвычай не застаецца, “сыходзіць” туды. Між іншым, і выпускнікі Галіны Канстанцінаўны... Ім тут нецікава. Неперспектыўна.

**Г. Г.** А тых, хто не з’язджае, — проста не відаць і не чуваць. У саюз уступаюць быццам “на ўсялякі выпадак”. Узносы не плацяць. Свае творы для выканання не прапануюць. На з’езд амаль ніхто з моладзі не прыйшоў... Саюз калісьці, хай з усімі негатыўнымі функцыямі таталітарных грамадства і свядомасці, быў усё-ткі цэхавым аб’яднаннем. Нездарма мы тужым па колішніх “Музычных серадах”: гэта ж быў не толькі паказ музыкі ў асяроддзі калег. Гэта было і прафесійнае абмеркаванне. І часам Абелёвіч ці хтосьці іншы мог так рэзка выказацца! І Мухарынская магла ціха і пяшчотна, але строга ўсё расставіць па сваіх месцах. І гэта таксама была школа. Цяпер многае змянілася. Калі маладая кампазітар цікавіцца маім меркаваннем пра свой твор і, недаслухаўшы мяне, пачынае злавацца, спрачацца, даказваць, як у яе ўсё выдатна зроблена, узнікае сустрэчнае пытанне: навошта яна да мяне падыходзіла? Напэўна, узровень агульнай культуры так уплывае на пазіцыю маладых людзей, што для іх не існуе тых прафесійных крытэрыяў і меркаванняў, якія існавалі для нас. Для мяне да гэтага часу



*На здымку: Галіна Гарэлава, Радаслава Аладава, Алег Залётнеў, Тацццяна Песнякевіч*

меркаванне і Смольскага, і Картэса, і Мдзівані вельмі важнае. І я ўспамінаю патрабавальнага Абелёвіча, які калі і хваліў, дык вельмі асцярожна...

**Р. А.** ...які быў духоўным лідарам, сумленнем саюза! І, дазволю сабе заўважыць, пасля яго смерці гэтае месца ніхто не заняў...

**А. З.** А што, цікава, у жыцці расійскага саюза кампазітараў дзеецца?

**Р. А.** Што робіцца ў Маскве і ў Піцеры — адкуль мы пра гэта можам ведаць? Не многія з нас маюць магчымасць глядзець расійскі тэлеканал “Культура”.

**Р. С.** Дарэчы, з Рэспубліканскага каледжа пры акадэміі музыкі, з Мінскага музычнага вучылішча была адпраўлена ў розныя інстанцыі маса пісьмаў — з просьбамі вярнуць трансляцыю гэтага канала на тэрыторыю Беларусі, зрабіць яго перадачы агульнадаступнымі. Ён, як паветра, неабходны не толькі для творчай эліты, а для ўсёй нашай інтэлігенцыі, ды і для самага шырокага кола людзей.

**Т. П.** Пра гэта ўжо не адзін год гаворыцца. Безвынікова... Хочаце, раскажу пра “Адкрыты ліст Саюза маскоўскіх кампазітараў”, які я прачытала ў Інтэрнэце? Прозвішчы яго аўтараў нам нічога не кажуць. А сам змест перагукаецца з тымі праблемамі, пра якія мы тут гаворым. Маскоўскія кампазітары пішуць, што іх сучасная акадэмічная музыка апынулася на ўзбочыне культурнай прасторы; што іх дзяржава не бачыць у дзеячах, якія працуюць у гэтай галіне, людзей, здатных прапагандаваць сваю краіну і падтрымліваць яе прэстыж у свеце; прытым дзяржава сяк-так падтрымлівае іншыя віды мастацтва, у прыватнасці, кіно, якое само па сабе можа прыносіць грошы.

**А. З.** І кіно можа даваць каласальны прыбытак дзяржаве! А вось сучасная акадэмічная музыка не зарабляе грошы. Таму на Захадзе гэтую праблему вырашаюць наступным чынам: з шоу-бізнесу заўжды спаганяецца вельмі вялікі працэнт падаткаў, і за кошт гэтых падаткаў аказваецца падтрымка акадэмічнаму мастацтву. У нас пакуль па-іншаму: грошы ўкладаюцца ў тое, што павінна само зарабляць і даваць прыбытак, — у шоу-праекты, а сур’ёзнае некамерцыйнае мастацтва ставіцца ў рынкавыя ўмовы, ва ўмовы самастойнага выжывання.

**Г. Г.** І пра гэта ўжо столькі гаварылася!

**А. З.** Можа, мы не надта настойліва і гучна гаворым, не ўмеем пераконваць у відавочным? Наогул, мне здаецца, мы існуём нібыта самі па сабе. Дзяржаве, я маю на ўвазе кіраўнікоў, асабліва не замінаем — хіба толькі зрэдчас парушаем цішыню, калі просім грошай. Дык, можа, сёння і надышоў той момант, калі трэба афіцыйна прыйсці на прыём да кіраўнікоў і наладзіць дыялог? І пачаць з пытання: “Скажыце, калі ласка, а што дзяржава хацела б ад Беларускага саюза кампазітараў? Саюз ёсць. І аб’ядноўвае многіх цікавых асоб. Звярніце, калі ласка, увагу і на нас. Мы гатовыя да дыялога”.

**С. Б.** Дык на чым канцэнтруе сваю ўвагу кіраўніцтва саюза пасля нядаўняга з’езда?

**Г. Г.** Цяпер усё сканцэнтравалася на прапагандзе нашай музыкі: гэта самае рэальнае і дзейснае, што мы можам рабіць, пакуль ёсць на Беларускім радыё канал “Культура”, пакуль ёсць адпаведныя газеты... Аднойчы мяне вельмі ўразілі развагі Соф’і Губайдулінай, якая суаднесла розныя пласты музычнай культуры з абліччам нацыі: ёсць, маўляў, ногі нацыі, ёсць “чэрава” нацыі, а вось акадэмічнае мастацтва яна назвала дыханнем нацыі. І мяне вельмі ўзрадавала, нават надало аптымізму, што аналагічнае параўнанне прагучала ў выступленні міністра культуры Паўла Латушкі на нашым з’ездзе...

**С. Б.** Што ж, давайце паспрабуем захаваць гэты аптымістычны дух у фінале нашай размовы.

**Р. А.** Падтрымліваючы аптымізм, дадам: у нас усё-ткі ёсць такія выканальніцкія калектывы, якія ставяцца да беларускай музыкі не проста з пашанай, а і ўмеюць яе па-новаму прадставіць і выдатна сыграць. Каласальную работу па прапагандзе музыкі беларускіх кампазітараў вядзе Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр на чале з Міхаілам Фінбергам. І, мне здаецца, тое, што гэта робіцца музыкантамі такога высокага ўзроўню не ў Мінску (дзе для такіх канцэртаў чамусьці не прадастаўляюць галоўныя філарманічныя пляцоўкі), а па ўсёй Беларусі, нават у глыбінцы, — ёсць творчы подзвіг. На прапаганду творчасці айчынных кампазітараў вельмі плённа працуе Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі: канцэрты, падрыхтаваныя пераважна сіламі студэнтаў, заўсёды высакапробныя, праходзяць на розных пляцоўках, прычым не толькі ў Мінску, і цудоўна ўспрымаюцца публікай.

**Г. Г.** Ды і сімфанічны аркестр Белтэлерадыё, у якім бы творчым стане ён ні знаходзіўся, заўсёды грае і грае багата нашай музыкі, у тым ліку — прэм’еры. І Дзяржаўны камерны аркестр у нядаўні перыяд мастацкага кіраўніцтва Пятра Вандзілоўскага рэгулярна папаўняў свой рэпертуар новымі беларускімі партытурамі, рабіў іх запісы. Я з удзячнасцю думаю і пра юных выканаўцаў музыкі для дзяцей. У мяне ў гэтым жанры заўсёды шмат заказаў, і проста цудоўна, калі ты пішаш і ведаеш, што новы твор выканаюць адразу, а наступныя пакаленні вучняў будуць яго граць яшчэ доўга-доўга-доўга. Працуючы над такім рэпертуарам, я абапіраюся на ўласныя дзіцячыя ўражанні і захапленні тых часоў, калі дзеці марылі вучыцца музыцы, а для бацькоў гэта было прэстыжна, калі на паступленне ў музычную школу існаваў вялікі конкурс, калі былі чэргі на пакупку піяніна. Гэтую атмасферу ўсеагульнага імкнення да сур’ёзнай музыкі не вернеш. Можа, варта хоць бы паспрабаваць штосьці адрадзіць? Цяпер і ў нас, і ў Расіі нямала пішуць пра неабходнасць вярнуць у агульнаадукацыйную школу ўрокі музыкі. А прывесці музыку ў школу можна ж не толькі ў выглядзе заняткаў харавымі спевамі, але і праз факультатывы — напрыклад, гурткі грання на фартэпіяна, гітары і да т.п. І ўсё гэта павінна адбывацца ў цікавай, захапляльнай форме. Як гаворыць адна з нашых калег, “патрэбна замануха”. Таму на першым этапе навучання патрэбна прывабная праграмнасць п’ес, прыгожае афармленне нот і абавязковае спалучэнне музыкі, жывапісу, паэзіі. Сярод выданняў РВУ “Літаратура і Мастацтва” я ўбачыла кранальны зборнічак Арцёма Кавалеўскага “Мой сябра анёлак”, які можа стаць правобразам серыі выданняў для юных музыкантаў: нестандартны фармат, арганічнае суіснаванне нот, вершаў, малюнкаў. Адразу хочацца адчуць сябе ідэалісткай, утапісткай, максімалісткай — а без гэтага няма чаго рабіць у нашай прафесіі — і настроіцца на супрацоўніцтва. Памарыць пра сумесны праект беларускіх кампазітараў, якія пішуць для дзяцей, і выдавецтва “Літаратура і Мастацтва”.

**Т. П.** Добрая ідэя. І яе ўвасабленне таксама было б на карысць папулярызацыі беларускай музыкі.

**С. Б.** І, нарэшце, — заключны аптымістычны акорд. Наш Савет Міністраў прыняў Дзяржаўную праграму “Культура Беларусі” на 2011 — 2015 гады. Ёю, у прыватнасці, прадугледжана распрацаваць эфектыўны механізм фінансавання культуры, новыя формы яе эканамічнай падтрымкі. У шэрагу інавацыйных падыходаў значацца, напрыклад, стварэнне сістэмы нацыянальных прэферэнцый для культуры краіны; прыцягненне прыватнага капіталу праз развіццё спонсарства і мецэнацтва; развіццё механізмаў дзяржаўна-прыватнага партнёрства ў адпаведнай сферы; падтрымка культурных ініцыятыў і развіццё праектнай дзейнасці; стварэнне ўмоў для эфектыўнага функцыянавання прадзюсарства; павышэнне канкурэнтаздольнасці ды інвестыцыйнай прывабнасці прафесійнай адукацыі ў галіне культуры і мастацтва; прасоўванне беларускай культуры за мяжой... Відавочна, што новая праграма, скіраваная на вырашэнне найбольш актуальных праблем культурнага развіцця краіны, не абміне і тыя няпростыя сітуацыі, пра якія гэтак шчыра гаварылася за нашым “круглым сталом”.

# Танга ў інтэр’еры

**Анатоль МАЗГОЎ**

**Што такое аргенцінскае танга? Гэта зусім іншы свет, іншы лад жыцця. Танга — гэта гутарка Дваіх. Тут жыццё ў пачуццях і фальш у пацалунках. Тут няма паказухі, таму тут немагчыма нічога ўтаіць. Тут маўчаць, таму што словы непатрэбныя. Тут кіруюць Ён, Яна і Музыка…**

У мастацкай галерэі “З’ява” Барысаўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя І. Каладзеева адбылася прэзентацыя фотавыставы “Ён, Яна і Музыка, ці Гісторыя аднаго Танга”. Гэты праект аб’яднаў дзвюх творча адораных, чароўных мінчанак — Кацярыну Тымчанку і Святлану Кастраміцкую. У 2008 годзе яны скончылі “Творчыя майстэрні” пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў па тэме “Практычная фатаграфія” і вырашылі працягнуць кар’еру фотамастакоў сумеснай працай. У Барысаў яны прыехалі ўпершыню, а да гэтага бралі ўдзел у выставе “Пакуль не абарвецца нітка” (Мінск), а таксама ў міжнародным фэсце мастацтваў “Яблычны спас” (Палех, Расія) у 2009 годзе.

Кацярына Тымчанка працуе інжынерам-маркетолагам на Мінскім мясакамбінаце. Удзельнічала ў беларускім конкурсе лічбавай фатаграфіі “Драйв” з 2007 па 2009 год, двойчы — у рэспубліканскай выставе сучаснай візуальнай творчасці студэнтаў ВНУ, была ўзнагароджана дыпломам як аўтар лепшай работы ў тэхніцы “Фотапартрэт”. Таксама была ўзнагароджана дыпломам за трэцяе месца ў намінацыі “Вонкавая рэклама” ў гарадскім конкурсе сацыяльнай рэкламы “Я люблю жыццё”, які прапагандуе здаровы лад жыцця.

Святлана Кастраміцкая працуе эканамістам у ААТ “Белзнешэканомбанк”. Удзельнічала ў выставе лепшых твораў выпускнікоў “Творчыя майстэрні”, а таксама была аўтарам работы, якая перамагла ў конкурсе “Самая манерная фатаграфія”, арганізаваным праграмай “Манеры”.

“Любая фатаграфія — гэта спыненае імгненне жыцця. І мы паспрабавалі ўлавіць гэтае імгненне ў дзівосным танцы, у якім можна выказаць страсць”, — зазначыла на адкрыцці Кацярына Тымчанка і падзякавала выкладчыкам курсаў Сяргею Сукавіцыну і Уладзіміру Жукаву, у якіх яна разам са Святланай вучылася майстэрству.

“Не бывае двух аднолькавых танга, яго не завучваюць, яго танчаць ад душы, яго танчаць па загадзе сэрца. Для мужчыны гэта імправізацыя, для жанчыны — інтуіцыя. Яна павінна адгадаць, што ад яе чакае партнёр, і таму кожнае танга — гэта асобная гісторыя. І сёння мы раскажам вам гэтыя гісторыі — гісторыі людзей, гісторыі танца, гісторыі музыкі. Зараджалася танга ў бедных кварталах Буэнас-Айрэса, яго танчылі бедныя эмігранты”, — распавяла на прэзентацыі Святлана Кастраміцкая.

Затым загучала мелодыя аргенцінскага танга, і танцоры Валерыя Хмель і Дзмітрый Ліванскі, якія ўдзельнічалі ў фотасесіі і чые фатаграфічныя вобразы можна было бачыць на сценах галерэі, заваражылі гледачоў плаўнасцю і шчырасцю руху. А пасля ў ролі партнёркі Дзмітрыя выступіла адна з аўтараў экспазіцыі — Кацярына Тымчанка.

Значнасць гэтага праекта адзначылі мастацтвазнаўца галерэі “З’ява” Галіна Глебава і выкладчык “Творчых майстэрняў” пры БДАМ Уладзімір Жукаў.

Галоўная мэта фотапраекта ў галерэі “З’ява” — пачуць гук музыкі, утоены ў глыбіні кадра, шоргат туфляў па паркеце, убачыць непераўзыдзеныя прыгажосць і грацыю руху і, нарэшце, прачуць увесь запал танга. У сваіх работах мастачкі пры дапамозе асобнага кадра распавядаюць гісторыі пра радасць сустрэчы і гаротнасць расстання, пра каханне і адзіноту, пра невычэрпнае пачуццё і гнятлівую нудоту. На здымках можна бачыць прафесійных танцораў танга з Аргенціны і Беларусі, а таксама студэнтаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, чыё выкананне вядомага аргенцінскага танга Карласа Гардэля “Por Una Cabeza” і натхніла аўтараў на стварэнне дадзенай серыі работ. Акрамя фатаграфій у экспазіцыю ўключаны некаторыя рэчы, спадарожныя гэтаму вялікаму танцу: капялюшыкі, гармонік, столік з куфлямі, касцюмы танцораў і інш.

# Рэканструкцыя адносін

## Уладзімір Караткевіч і Ніна Молева

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

**Постаць Ніны Міхайлаўны Молевай, доктара гістарычных навук і кандыдата мастацтвазнаўства, аўтара шэрагу навуковых і мастацкіх твораў, добра вядомая ў Беларусі. У 1958 — 1960 гадах яна выкладала гісторыю мастацтваў на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве, дзе вучыўся Уладзімір Караткевіч. Агульнапрызнана, што Н. Молева стала прататыпам Ірыны Горавай у рамане пісьменніка "Леаніды не вернуцца да Зямлі" ("Нельга забыць"). Тым не менш і сёння гісторыя іх узаемаадносін з'яўляецца таямніцай, якая патрабуе свайго тлумачэння.**

Адзначым, што ні У. Караткевіч, ні Н. Молева ніколі не казалі адкрыта пра свае пачуцці. Больш таго, Ніна Міхайлаўна сказала ў інтэрв'ю газеце "Комсомольская правда в Белоруссии" (апублікавана 30 ліпеня 2009 года) наступнае:

*"— Нина Михайловна, в вас был влюблен Владимир Короткевич…*

*— Ни сном, ни духом! <…> Когда мне говорят о любви Короткевича ко мне, я всегда это слушаю с определённой неловкостью. Всё, что я о нем знаю, это то, что может знать школьный учитель о своем ученике".*

*"— Владимир Семёнович признавался вам в любви?*

*— Что вы! Это было просто исключено.*

*— Но, говорят, именно из-за чувства к вам он не мог долго жениться.*

*— Конечно, мне, как любой женщине, очень лестно это слышать. Но не было никаких личных отношений".*

Меркаванне Ніны Міхайлаўны псіхалагічна зразумелае, бо ніхто не жадае выносіць на агульнае агляданне ўласныя душэўныя таямніцы даўніх часоў. Між тым узаемаадносіны У. Караткевіча і Н. Молевай наўпрост паўплывалі на творчасць пісьменніка. Без іх тлумачэння немагчымы паўнавартасны разгляд "маскоўскіх старонак" яго біяграфіі. Прыведзеныя абставіны, а таксама відавочная спрэчнасць працытаваных фрагментаў абумовілі інтарэс да гэтай гісторыі.

Артыкул названы "Рэканструкцыя адносін", паколькі ў ім аб'яднаны розныя крыніцы. З аднаго боку, гэта 6 лістоў пісьменніка да Н. Молевай, якія былі перададзены апошняй у Цэнтральны маскоўскі архіў — музей асабістых збораў (нядаўна надрукаваны ў зборніку "Уладзімір Караткевіч: вядомы і невядомы"). Таксама — перапіска У. Караткевіча са сваім сябрам Юрыем Гальперыным (арыгіналы лістоў захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва — БДАМЛіМ — і друкуюцца ўпершыню) і Янкам Брылём (апублікаваны ў 1990 годзе ў зборніку "Шляхам гадоў"). З другога боку, гэта непасрэдна творчасць пісьменніка: раман "Леаніды не вернуцца да Зямлі", вершы і паэмы.

Нават калі звярнуць увагу на той факт, што раман лічыцца аўтабіяграфічным, узнікае пытанне: наколькі яму можна давяраць? Сам Караткевіч наўмысна пісаў у пачатку кнігі: *"…Усе падзеі ў гэтым рамане — выдуманыя. Усякае падабенства з рэальна існуючымі людзьмі з'яўляецца выпадковым".* Зрэшты, такія фразы звычайна пішуцца тады, калі падабенства больш чым відавочнае. Асцярожны Анатоль Верабей пісаў у сваёй кнізе "Абуджаная памяць", што *"і персанажы твора, і мясціны, якія апісваў пісьменнік, пад уздзеяннем ягонай фантазіі набывалі свае, самастойнае мастацкае жыццё".* Каб разабрацца ў рэальнасці дзеяння рамана, выклад падзей у артыкуле ажыццяўляецца наступным чынам: літаратурны фрагмент у рамане па магчымасці суадносіцца з цытатай эпісталярнай спадчыны. Але ў любым выпадку дадзеная праца з'яўляецца рэканструкцыяй, аўтарскай версіяй узаемаадносін паміж У. Караткевічам і Н. Молевай. Таму перанясёмся на паўстагоддзя ў мінулае, у Маскву часоў "адлігі". На календары — вясна 1959 года…

### «Любая, помніш? Была вясна…»

Маскоўскія старонкі "Леанідаў…" пачынаюцца з сітуацыі, калі галоўны герой, Андрэй Грынкевіч (спісаны, безумоўна, з самога Караткевіча), сустракаецца з Марыяй Крат. Апошнім часам у літаратуразнаўчых артыкулах, прысвечаных пісьменніку, адкрыта згадваецца імя найбольш верагоднага прататыпа гераіні. Гэта чачэнская паэтэса Раіса Ахматава. Пра іх узаемаадносіны 9 красавіка 1959 года піша ў лісце Ю. Гальперыну сам Караткевіч: *"Ведь ясно же каждому, что у меня с Руан"* (так ён называў Р. Ахматаву ў перапісцы — **Д. М.**; БДАМЛіМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 14. Л. 20); сцвярджаецца ў публікацыі "Комсомольской правды в Белоруссии" *("Короткевич встречался с чеченкой-поэтессой")*; ёсць празрыстыя намёк ва ўспамінах самой Молевай пра Вышэйшыя літаратурныя курсы (*"За первым столом неразлучная пара Владимир Короткевич и красавица чеченка Раиса Ахматова"; "Общая симпатия была на стороне Раи Ахматовой: народ, депортированный в Сибирь не за преступления — за простую этническую принадлежность. Всегда исполненный горечи взгляд и отчаянная привязанность к сыну, который звал В. Короткевича отцом и дожидался окончания занятий его и матери в садике Литературного института. В памяти осталось даже имя затравленного обстоятельствами малыша: Марат"*).

У "Леанідах…" таксама згадваецца сын галоўнай гераіні: *"Вось сын у яе цудоўны. Як прыязджае — цэлымі днямі з ім дурэў бы... Зіркаты такі, вясёлы. І мяне вельмі любіць. Каб можна было, — узяў бы аднаго сына, без яе".*

*"Што звяло?* — разважае ў рамане галоўны герой. — *Шкадаванне да яе, чыё жыццё склалася так няўдала, любоў да яе сына, цудоўнага маленькага чалавечка... Ну, яшчэ абыякавасць да таго, з кім ідзеш. Таму што з усімі аднолькава... І яшчэ боязь пустэчы поруч з сабой".*

У "Леанідах…" адносіны паміж Андрэем і Марыяй ускладняюцца з-за беспадстаўнай рэўнасці дзяўчыны. *"Дрэнна толькі, што апошнім часам яна стала бязглузда, па-дурному, раўнуе. Дарэмна. Не пагрошу пакуль што ні ўчынкам, ні позіркам. Жанчыны, наогул, бываюць дурнымі ў рэўнасці: не ведаюць, што калі мужчыну ўвесь час беспадстаўна раўнаваць, то ён нарэшце можа сапраўды пусціцца ва ўсе цяжкія грахі — "калі ўжо раўнуюць, дык няхай хоць недарэмна". Вось і гэта: пачала з жартоўнай рэўнасці, потым уцягнулася, і зараз ёй сапраўды здаецца, што кожная сустрэчная жанчына толькі і думае, каб зрабіць замах на мяне".* Між тым усё сапраўды пачалося з жарту.



Уладзімір Караткевіч, 1960 год.

7 мая 1959 года У. Караткевіч пісаў Ю. Гальперыну пра гэты эпізод: *"Чего не люблю в людях — навязчивости. Сие качество и возбудило подозрения Р. (я её навязчивость не замечал и, будь я один, был бы даже рад). Но хватит. Твоё замечание о том, что "недоверие, не появись оно сегодня, а появилось бы завтра по какому-либо другому поводу", глубоко справедливо. Я знаю, что это так, и <u>сделал свои выводы</u>* (падкрэслена У. Караткевічам — **Д. М.**).

*Началось всё с того, что Р. и её соседка, сидя в компании И.* (Іны, маскоўскай знаёмай У. Караткевіча — **Д. М.**) *и ещё одного сволочеватого парня, пару раз весьма прозрачно намекнули на недопустимость такого поведения. Кажется, И. не поняла, а я потом этим сёстрам-разбойницам дал хорошую головомойку, — лучшей они за всю жизнь не получали. Вежливость с моей стороны была истолкована ими как нечто большее, — и вот началось.*

*Милый друг, я страшно люблю свободу, даже от будущей жены буду требовать её в достаточной степени (не злоупотребляя ею, конечно), но если меня будут глупо ревновать, сковывать, стремиться создать вокруг меня зону пустыни — развод"* (Ф. 56. Воп. 2. Спр. 14. Л. 23 — 23 адв.).

Неўзабаве сітуацыя ўскладнілася новай падставай для падазрэнняў. Караткевіч наведаў лекцыю Ніны Молевай, якая з'явілася прататыпам выкладчыцы Ірыны Горавай. *"У твaіх гадах,* — кажа Грынкевічу яго сябра латыш Яніс Вайвадс, — *можа, на год ці два старэйшая. А выглядае такім дзяўчом".* І сапраўды, Ніна Міхайлаўна нарадзілася ў 1928 годзе, за два гады да Караткевіча. Якой запомнілі Ірыну Гораву чытачы "Леанідаў…"? *"Невялічкага росту, яна была вельмі худзенькая, але так падабраная, што нагадвала яму балерыну. Можа, гэтаму ўражанню дапамагала і клятчастая спадніца званочкам, і шэрая кофтачка з нейкага там нейлону. Вельмі худзенькая, як дзіцятка. <…> Звычайны твар. Мяккія шэрыя вочы пад зламанымі бровамі, густыя вейкі. Валасы попельна-залацістыя, сабраныя на патыліцы ў вялізны вузел. І растрапаныя злёгку, аніяк не хочуць ляжаць у прычосцы. Такая растрэпка! Велікаваты, усмешлівы рот. <…> Зубы не вельмі добрыя, але ўсмешка ўсё адно такая, што аж святлей стала. Вельмі прыгожыя ногі, вельмі прыгожыя рухі. І ўсё гарманічна — хоць малюй".*

Неўзабаве пасля першай лекцыі Грынкевіч наведаў бацькоўскі дом, а хутка пасля вяртання ў Маскву слухачоў літаратурных курсаў чакала вандроўка ва Уладзімірскую вобласць, якая адбылася ў маі 1959 года. Там Горава прапанавала ім лекцыі пад адкрытым небам.

У яе інтэрв'ю гэты эпізод выглядае досыць празаічна: *"Он* (Караткевіч — **Д. М.**), *как и многие его сокурсники, ко мне пришёл еще не сформировавшимся человеком. Я видела, что многое из того, что я говорила, буквально переворачивало что-то в его душе. Он становился другим.*

*Вот пример. Я привезла учеников к Церкви Покрова на Нерли, вокруг была ужасная грязь, нужно было долго идти пешком. Короткевич и другие сказали: "Не пойдём! Ноги испачкаем". Я говорю: "Нет, пойдёте, как миленькие!" Они пошли. Я читала им тексты, стоя возле храма XII века. Владимир слушал не моргая. Потом написал своё "Дзіва на Нерлі".*

А вось як апісаў гэты эпізод пісьменнік у лісце Юрыю Гальперыну: *"Теперь о Владимире. Я пережил там <u>сильнейшее</u>* (падкрэслена У. Караткевічам — **Д. М.**) *(говорю не преувеличивая) потрясение в моей жизни. Не мне тебе рассказывать, что такое Успенский и Дмитриевский соборы, но, пожалуй, скажу пару слов о Покрове-на-Нерли. Я не верил, что человек может плакать глядя на здание и потому ставил архитектуру чуть ниже всех искусств. Так вот, я ревел, брат. Позорно ревел, и не стыдился, и не стыжусь. Боже мой, это чудо, это Китеж, это всех людей душа, лучших людей. <…> Нежная-нежная, чистая-пречистая. Как свечечка стройная. <…> Понимаешь, это надо видеть. Луга безграничные, сине-зеленые, золотые, майские. И она, бедная красавица моя, стоит, как Алёнушка, почти окружённая водой. И ничего нет, белые стены да алтарный камень, да свет невесть откуда падает. И львы-рельефы улыбаются с квадратных колонн. И такая тишина, такой мир. Понимаешь, тогда не принято было преклонять в церкви колен, просто стояли и молча молились. И я также. Чуть не полетел под купол в столбе света.*

*Понимаешь, Юрка, это не экзальтированная слюнявость, но когда я подохну — мне будет легче сделать этот последний шаг, потому что и дыхание Всеволода Большое Гнездо, и дыхание тысяч, и моё маленькое среди них останется там, в этих стенах. Хорошо, брат! Как вспомню о ней — сердце дрожит от радости"* (Ф. 56. Воп. 2. Спр. 14. Л. 30 — 31).

Наведванне царквы на Нерлі не проста паўплывала на жыццё творцы. Не толькі прывяло да з'яўлення знакамітага верша "Дзіва на Нерлі" (датаваны 26 мая 1959 года). Яно перавярнула яго асабістае жыццё. Заўважым, што яшчэ дагэтуль Караткевіч развітаўся з Р. Ахматавай.

Ірына Горава, разважаў у рамане Андрэй Грынкевіч, *"зусім не падабалася яму як жанчына. Але аднойчы ён на хвіліну даў сабе волю і спытаў, а што б ён, Андрэй, адчуў, каб яна знікла. І шчыра адказаў сам сабе, што гэта было б дрэнна. Непрыкметна ён проста прызвычаіўся, што кожны тыдзень будзе бачыць яе, чуць яе голас, сачыць за ходам яе думкі, смяяцца з яе жартаў.*

*Ён разумеў, што яе лекцыі не проста лекцыі, што гэта яшчэ і нейкі новы, пакуль мала зразумелы для яго, погляд на жыццё, на яго колеры і гукі, на чалавечыя пачуцці, на мастака і мастацтва".*

Па сутнасці выкладчыца адкрывала для Караткевіча раней невядомы, чароўны свет мастацтва, далучала яго да сваёй глыбіні інтэрпрэтацыі твораў, уласным прыкладам далучала да тысячагадовага вопыту і пошукаў чалавецтва. На двары буяла вясна, у душы і перад вачыма была яна. Уладзімір не мог не захапіцца.

# На зрэзе эпохі стварэння

## тэма творчасці ў прозе Змітрака Бядулі

Алеся ЛАПІЦКАЯ

**Меркаванне пра тое, што беларуская проза першай паловы XX стагоддзя — гэта, галоўным чынам, творы пра гаротных сялян — адзін са сталых стэрэатыпаў пра нашу літаратуру. Між тым у аповесцях і апавяданнях такіх пісьменнікаў, як М. Гарэцкі, М. Зарэцкі, Зм. Бядуля, Л. Калюга — безліч іншых тэм і сацыяльных тыпаў, вартых таго, каб іх нарэшце пачалі вылучаць і вывучаць асобна. У гэтым артыкуле мы разгледзім тэму творчасці ў прозе Змітрака Бядулі — не выпадкова, бо 20-я гг XX ст. пазіцыянаваліся як крэатыўная эпоха: спроба стварыць новае жыццё, масавае прыцягненне народа да стварэння і спажывання мастацтва, часопіс з назвай у загадным ладзе "Твори!"...**

Творчыя здольнасці адных заўсёды выклікалі захапленне ці, прынамсі, здзіўленне ў іншых — самі ж песняры і мастакі з часоў Старажытнай Грэцыі імкнуліся растлумачыць крыніцы свайго таленту, сфармуляваць уласную творчую праграму, вызначыць ролю творчасці ў сучасным ім жыцці. Беларуская літаратура XIX ст. літаральна распачыналася зваротам да тэмы творчасці: кожны без цяжкасцей узгадае "Маю дудку" і "Смык" Ф. Багушэвіча, разнастайных "Паэт", "Паэту", "Паэты" А. Гаруна, вершы на гэтую ж тэму Я. Купалы ("Я не паэта", "Песняй толькі", "Прарок" і г. д.). З ліра-эпічных жанраў можна назваць адно "Сымона-музыку" Я. Коласа — што ж тычыцца прозы, то першым буйным творам, прысвечаным тэме творчасці, была аповесць "Салавей" (першая рэдакцыя — 1927 г.) Змітрака Бядулі. Праўда, асноўным у творы з'яўляецца сацыяльны канфлікт: пан Вашамірскі прыгнятае сваіх сялян, а з эстэтычных памкненняў (дый з жадання ўразіць суседзяў) ладзіць прыгонны тэатр, дзе акцёраў усяляк зневажаюць і вучаць тэатральнаму майстэрству выключна жорсткімі сродкамі. Натуральна, твор завяршаецца сялянскім бунтам, у якім прымае ўдзел галоўны герой аповесці Сымон-Салавей (незвычайная здольнасць хлопца — уменне падрабляць любы пачуты ім гук).

Зварот да тэмы класавай барацьбы робіць твор ідэалагічна прымальным і адначасова дае магчымасць нібыта між іншым, ужо на другім плане, засяродзіцца на пытаннях культуры, прычым сказаць і паказаць вельмі шмат. Прыгонны тэатр Змітрака Бядулі можна разглядаць як алегорыю культурнага жыцця БССР напрыканцы 1920-х гг.: абмежаванасць свабоды творцы, заідэалагізаванасць мастацтва, немагчымасць адлюстроўваць рэчаіснасць адпаведна ўласнаму мастацкаму густу. Да таго ж пісьменнік звяртае ўвагу чытача на дзве вельмі актуальныя для беларусаў праблемы: праблему рэалізацыі творчых здольнасцей і праблему суаднесенасці побыту і культуры.

Што да першага, то канцэпцыя Змітрака Бядулі вельмі пераканальная: без спецыяльнай адукацыі развіццё творчых здольнасцей немагчымае, але нацыянальнае мастацтва толькі тады з'яўляецца каштоўным, калі веданне сусветнай культуры спалучаецца са зваротам да народных традыцый і характэрных вобразаў, мае вынікам раскрыццё актуальных тэм і наогул запатрабавана. Тое ж, што адбываецца ў прыгонным тэатры, — непатрэбнае калькаванне, бо нават французскі рэжысёр разумее: "Перадаваць мімікай і жэстамі ўсялякія пералівы чалавечых пачуццяў <…> кожны здольны мастак <…> павінен умець па-свойму. <…> У гэтым і ўся каштоўнасць ігры. І балерынам трэба даць волю быць кожнай самой сабою, выяўляць па-свойму кожную рыску, а не малпаваць іншых". Музыкі — натуральна, з прыгонных сялян — "на канве гатовых твораў вядомых кампазітараў творацць нешта сваё, новае", але сінтэз еўрапейскіх і мясцовых традыцый таксама не цікавіць магнатаў Рэчы Паспалітай…

Апісваючы знаходжанне акцёраў у панскім палацы (на працягу некалькіх месяцаў яны жывуць у своеасаблівым "інтэрнаце", і пакідаць свой флігель ім забаронена), Зм. Бядуля выяўляе сябе як уважлівы псіхолаг. Былыя вяскоўцы трапляюць у зусім новыя ўмовы жыцця, ад іх патрабуюцца абсалютна іншыя якасці і ўменні, яны ненавідзяць палац за здзекі, за гвалт — і, разам з тым, французскі рэжысёр раскрывае іх творчыя здольнасці, а "панскі" (цывілізаваны) лад жыцця робіцца для іх прывабным і ўжо амаль неабходным. Збегшы са студыі да сваёй дзяўчыны, Сымон моршчыцца ў яе хаце ад "горкага дыму, цяжкога паху цялушкі, кур з падпечку". І да Зоські, якую хлопец раней кахаў, яго цягне менш, бо дзяўчына — "простая".

Праблема Сымона вядомая шмат якім героям тагачаснай прозы: у першым апавяданні Максіма Гарэцкага маладога студэнта абурае мардалысаўская лазня ("Свінні, а не людзі!" — ускліквае Клім), а ў "Людзях на балоце" Івана Мележа чырвонаармеец Міканор сумна зазначае: "Нядобра думаць што паганае пра родны кут, але ж у сенцы зайсці брыдка, такім смуродам б'е там, дзе чвякаюць, вішчаць парасяты". Беларускія пісьменнікі тонка намякаюць: унутраная культура немагчымая без культуры побыту; чалавек, які атрымаў адукацыю і навучыўся складана, узнёсла думаць, адчувае дыскамфорт у цеснай бруднай хаціне не таму, што стаў "гарадскім", а таму, што далучыўся да цывілізацыі. Адсюль адваротнае: высокія пачуцці і памкненні не народзяцца пад гнілымі стрэхамі…

У рамане "Язэп Крушынскі" (1932 г.) вонкава галоўнай тэмай зноў з'яўляецца класавая барацьба: падзеі адбываюцца ў 20 — 30-я гг., сяляне выкрываюць хітрага кулака і кантрабандыста Язэпа Крушынскага і адначасова арганізуюцца ў камуну. Разам з тым, у рамане можна налічыць некалькі дзясяткаў герояў, што маюць тое ці іншае дачыненне да творчасці: ад вясковага дзівака Льва Талстога, што натуе гісторыю вёскі Гайдачаны ў "альбом", прыхоплены ў земстве, — да рэдактара "Беларускай вёскі". Змітрок Бядуля апісвае самыя розныя тыпы творчасці — так, ён звяртае ўвагу на адмысловасць беларускага фальклору: дзяўчынкі спяваюць гарадской настаўніцы "дрындушкі" ("Нашу вёску Курганішча // Можна горадам назваць. // Сорак хат і дзесяць вуліц — // Недзе з мілым пастаяць"), "мяшчанскія раманцы", але нічога з вясковых песень не адпавядае пяшчотнаму дзіцячаму ўзросту (чаму ў народнай творчасці беларусаў ёсць калыханкі ды казкі, але няма песенек, разлічаных выключна на дзяцей 8 — 12 гадоў?).

У першым томе рамана значная ўвага надаецца таму, як канкрэтна ажыццяўляюцца планы стварэння "новага чалавека". Пераўвасобіцца спрабуе здраднік Антон Сяргеевіч (новы аграном Іван Мацвеевіч), які, праўда, задавальваецца зменай знешнасці і паводзін і абсалютна не імкнецца пераасэнсаваць свае погляды — зрэшты, калі ён і спадзяецца ўбачыць "новы шлях жыцця", то толькі дзеля таго, каб атрымаць з гэтага выгоды. Мяшчанскую душу не абудзяць творчыя сілы рэвалюцыі — гэтую тэзу ілюструе лёс Івана Мацвеевіча, які заканчвае свае прыгоды ў лагеры.


Малюнак Малгажаты Аўярчук

Пісьменнік, верагодна, збіраўся інакш працягнуць гісторыю новага чалавека, але з-за рэзкай рэакцыі крытыкі (уяўленне пра яе могуць даць хаця б "Заўвагі" да збору твораў Зм. Бядулі; Мінск, 1953 г.) пасля выхаду першай часткі рамана аўтар быў вымушаны не толькі пераасэнсаваць сюжэт і сістэму персанажаў, але і паступіцца сваім сумленнем… Дзіва што — у першым томе рамана Леў Талстой, таксама разважаючы пра новага чалавека, выказвае блюзнерскую думку: "Вось каб тактыку і спрыт Крушынскага ды шчырасць Драчыка злучыць у адно. Я ўпэўнены, я прысягаюся, што выйшаў-бы надта цікавы і карысны вобчаству чалавек. <…> Я недзе чытаў пра "гумункулюса" — новага штучнага чалавека. Вось каб такі "гумункулюс" зрабіць з Язэпа Крушынскага і Антося Драчыка".

Крушынскі і Драчык — антыподы. Крушынскі — вынаходлівы, працавіты, заможны гаспадар, які ведае, дзе падмазаць колы, таму красамоўствам ды падарункамі зарабляе аўтарытэт у суседзяў і тым часам пацішку "эксплуатуе" іх, ды яшчэ й займаецца кантрабандай. У галерэі кулакоў, створанай тагачаснымі пісьменнікамі, Крушынскі вылучаецца сваёй біяграфіяй: ён выхоўваўся ў горадзе, у дзядзькі, што меў уласны рэстаран, таму адрозніваецца ад вяскоўцаў не толькі спрытам, але і кемлівасцю ды пэўнай "культурнасцю". Драчык — бедны, гарачлівы, шчыры, але сваёй шчырасцю часта шкодзіць землякам: нават калісь у дзяцінстве распавёў суседу, што бацька сцягнуў рэзгіну канюшыны з ягонага поля. Трэба адзначыць, што Змітрок Бядуля вельмі дыстанцыянаваны ад сваіх герояў. Ён дакладна прадумвае паслядоўнасць эпізодаў, уважліва выпісвае іх, але ставіцца да персанажаў цалкам нейтральна, і толькі рэдкія фразы ці нібыта выпадковыя абставіны даюць магчымасць убачыць пэўныя праблемы ды супярэчнасці.

У прынцыпе, у рамане няма такога героя-творцы, з якім атаясамліваў бы сябе аўтар, які падаўся б чытачу прывабным. Прафесійныя паэты, крытыкі, навукоўцы атрымаліся персанажамі цалкам адмоўнымі — здраднікамі, дробнабуржуазнымі нацыяналістамі, найвялікшае злачынства якіх — намер ствараць літаратуру, "нацыянальную і формай і зместам". А менавіта да гэтага заклікаў і сам Бядуля ў "Салаўі". Таму апісанне настрою загнанага паэта Цярэшкі, што з дня на дзень чакае свайго арышту, атрымалася больш прачулым, чым пафасны вобраз "бальшэвіцкага карабля", які трэба "пільнаваць ад мінных небяспек, ад падводных рыфаў і меляў". Вартыя ўвагі створаныя пісьменнікам вобразы гарэзлівых дачушак Крушынскага, дзяцінства якіх разбітае смерцю маці (ускосны вынік "сексуальнай рэвалюцыі" 20-х гадоў, што дакацілася да Курганішча) і высылкай бацькі. На пачатку рамана дзяўчынкі бегаюць па лесе з сябрамі і весела граюць на піяніна — у апошніх жа частках твора яны сядзяць у кватэры гарадскога дзядзькі, і цётка скардзіцца на іх выбрыкі, а дзядзьку — таго самага паэта-нацыяналіста — вось-вось арыштуюць. Якім будзе лёс гэтых дзяўчынак?

Калі ў "Язэпе Крушынскім" думкі пра творчасць і вобразы творцаў складана аб'яднаць нейкай адзінай канцэпцыяй, то аповесць "У дрымучых лясах" (1939 г.), дзе пісьменнік згадвае сваё маленства і юнацтва, дае магчымасць зразумець вытокі мастацкага таленту ў самога Змітрака Бядулі.

З маленства хлопчыку ўласцівая чуласць і ўражлівасць, у яго багатае ўяўленне, ён добра малюе, любіць слухаць скрыпку і жалейку, сам вучыцца граць на іх. Здаецца, гэта тыповы партрэт рамантыка, але чым больш дарослым робіцца герой, тым больш у яго выяўляецца смеласці, гарэзлівасці і вынаходлівасці, якую традыцыйна прыпісваюць усім яўрэям: ён робіць то пісталецікі для сяброў, то "альбомчыкі" ўласнага дызайну для местачковай дзятвы, з талентам выдатнага рэжысёра распрацоўвае гісторыю з лістамі ад Ільі-прарока.

Амаль кожны беларускі пісьменнік (ад Я. Брыля да Г. Марчука) імкнецца, згадваючы дзяцінства, вылучыць і апісаць творчых людзей і проста разважлівых, разумных аднавяскоўцаў. Шмат іх і ў Змітрака Бядулі, прычым пісьменнік праз старонку пераказвае байкі, якія чуў з вуснаў амаль кожнага такога героя. Побач з "беларускай серэнадай" (песняй валачобнікаў), паданнем пра разбойніка Ціхана і показкамі паляўнічага ("лепш разумная мана, чым неразумная праўда") — байка пра вераб'я і цара Саламона, "механіка зямлі і неба" (вялікаводны Укіёнус, рыба Левіятан, старое Ноева віно), казка пра "арлоў і ільвоў на святым каўчэгу". Карацей, хлопчык ведае і любіць як беларускі, так і яўрэйскі фальклор, а разам з гэтым з цікавасцю чытае раздзелы Талмуда, "насычаныя легендамі і апавяданнямі" і сяк-так атрымлівае адукацыю ў хедэры і ешыбоце (яўрэйскія навучальныя ўстановы).

Істотна, што і дзед хлопчыка, і інспектар ешыбота катэгарычна забараняюць чытаць не тое што сусветную мастацкую літаратуру, але нават "свецкія кнігі на старажыдоўскай мове". Так, за граматыку "расейскай" мовы, знойдзеную ў "пятнаццацігадовага студэнта боскіх навук" хлопца лупцуюць бізунамі і праганяюць з ешыбота. Пасля першага ж знаёмства героя з творамі рускіх пісьменнікаў юнак пачынае пісаць вершы для ўяўнай каханай Мірыям, за якія яго таксама выганяюць з сінагогі.

Значна раней герой пачынае ствараць разнастайныя імправізацыі і нават падложныя лісты (ад прарока Ільі і рабіна Іакава бен Мардухая). Ён піша пад дыктоўку лісты ў Амерыку, з чаго, па-першае, зарабляе, па-другое, набывае веданне жыцця і, па-трэцяе, вучыцца літаратурнаму майстэрству: "Для апісвання гора замужніх, якія чакалі грошай ад мужоў, я ўжываў стыль псалмоў. Для любоўных пісем ад нявест я пазычаў радкі з "Песні Песень". Пакрысе ў мяне выпрацавалася свая ўласная мова".

Разам з тым, аповесць "У дрымучых лясах" не толькі знаёміць чытача з фарміраваннем пісьменніка як творцы і як асобы: у першай палове аповесці аўтар мала засяроджваецца на ўласных перажываннях і галоўным чынам імкнецца ярка абмаляваць чытачу асаблівасці яўрэйскай культуры і ладу жыцця, якія ў значнай ступені вызначылі адметнасць яго мастацкага таленту. Супастаўленню гэтага твора і "Новай зямлі" Якуба Коласа будзе прысвечаны наступны артыкул рубрыкі "Традыцыі і сучаснасць".

# У добрай школе рэалізму



**Знаны мастак Эдуард Рымаровіч нарадзіўся ў 1957 годзе, яго маленства прайшло на Смаленшчыне, пазней сям'я пераехала ў Мінск. Маці з дзяцінства бачыла прагу да малявання ў маленькага сына і аддала ў мастацкі гурток пры Палацы піянераў, якім кіраваў Сяргей Каткоў. Пасля Э. Рымаровіч скончыў Мінскую мастацкую школу імя І. Ахрэмчыка, Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, аддзяленне манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, атрымаўшы веды і навык у лепшых традыцыях беларускай рэалістычнай школы манументальнага жывапісу. Яго педагогам быў народны мастак Беларусі Гаўрыла Вашчанка. Ужо падчас вучобы ён пастаянна ўдзельнічаў у мастацкіх выстаўках, і ўжо тады было бачна, што мастак шматгранны, працуе ў розных тэхніках. Калі глядзіш на пейзажы Эдуарда Рымаровіча, адчуваеш, што іх стварыў майстар краявідаў: знаёмыя вобразы прываблівають чысцінёй і лёгкасцю выканання.**

**Галія ФАТЫХАВА,**
**фота Віктара Кавалёва**
**і з архіва Эдуарда Рымаровіча**

Пейзажы напісаны на пленэры, адлюстроўваюць асабістае ўражанне. Бо гэта былі не проста пейзажы, а карціны жывой прыроды: "Дуб", "Час бярозавага соку", "Верасень. Цёплы дзень", "З мінулага", "Лютаўскія туманы", "Вечар у Барках" і інш. Яны панарамныя, нават калі невялікіх памераў, глядзяцца з улікам успрымання з вялікай адлегласці. Лаканізм кампазіцыі, дакладнасць малюнка, колер і асаблівая прадуманасць ракурсаў і перспектывы характэрны для творчасці Эдуарда Рымаровіча. З яго слоў, менавіта свайму педагогу Гаўрылу Вашчанку ён абавязаны ўменнем бачыць так далёка і шырока, у яго ён навучыўся майстэрству. І што б ні адлюстроўваў на сваіх парсунах мастак, ён успрымае ўсё як манументаліст і робіць цэльныя карціны.

Пейзажы "Першы снег. Астрашыцкі гарадок", "Полацкі Сафійскі сабор", "Нікіцкі манастыр" з культавымі помнікамі, якія дайшлі да нашага часу, адлюстраваны на парсунах мастаком. Аўтар любіць старажытныя помнікі. Яго хвалюе прыгажосць храмаў. Праз колер і навакольнае асяроддзе ён стварае цуд. І кожнаму, хто ўбачыць карціну, захочацца пабываць у тым месцы і паглядзець самому. Мірскі замак мяняўся на вачах мастака, аднаўляўся, ажываў. Ён яго пісаў, калі той быў з аблупленай тынкоўкай, абшарпаны, з выбітай дзе-нідзе цэглай — работа "Мірскі замак". Цяпер помнік рэстаўрыраваны і велічна ўзвышаецца. У снежні 2010 года было яго адкрыццё, на якім прысутнічалі госці з іншых краін свету і Прэзідэнт Беларусі А. Р. Лукашэнка.

У майстэрні Э. Рымаровіча карцін няшмат, яны запатрабаваныя людзьмі, грамадствам, і толькі тыя, што мастак не можа аддаць, бо рыхтуецца да персанальнай выстаўкі, вісяць на сценах яго ўтульнага працоўнага памяшкання. На жаль, яны пакідаюць межы краіны, а яму хацелася б, каб нашы пейзажы засталіся ў Беларусі. Хоць з аднаго боку гэта добра. Хай іншаземцы знаёмяцца з беларускімі краявідамі праз работы мастакоў, ды і з іх творчасцю, з Беларуссю.

Карціны Эдуарда Рымаровіча знаходзяцца ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, фондах міністэрстваў культуры Расіі і Беларусі, Нацыянальным гістарычным музеі, у Мінскім абласным краязнаўчым музеі ў Маладзечне, Брэсцкім краязнаўчым музеі, Шклоўскім гісторыка-краязнаўчым музеі, у музеі прыроды "Нацыянальны парк Белавежская пушча", у калекцыянераў у ЗША, Англіі, Францыі, Германіі, Галандыі, Італіі, Кітаі, Ізраілі, Карэі, Польшчы, Чэхіі, Славеніі, Сербіі, Турцыі, В'етнаме, Расіі, ва Украіне, у Літве, Латвіі... Бачыла, як Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падараваў карціны Э. Рымаровіча ксёндзу Тадэвушу Кандрусевічу, а таксама народнаму артысту Беларусі Расціславу Янкоўскаму ў сувязі з яго 80-годдзем.

Для культурна-гістарычнага цэнтра "Калегіум езуітаў" у Оршы выкананы мастаком партрэты ў адным стылі на фасадзе, але паасобку: "Сапега" і "Усяслаў Чарадзей", "Анджэй Казімір Завіша", а таксама для інтэр'ера алеем — "Сігізмунд ІІІ", "Уладзіслаў IV", "Леў Сапега", "Ян Сабескі"... Розныя па сюжэце, яны прыцягваюць трапнасцю і чысцінёй малюнка, рытмічнай пабудовай, фарбамі.

Эдуард Рымаровіч — мастак усебаковы, і многія яго творы ўпрыгожваюць залы адміністрацыйных устаноў. Толькі ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі ў Маладзечне знаходзіцца 7 вялікіх габеленаў пад агульнай назвай "Гарады Мінскай вобласці". Выявы гарадоў — гэта таксама гісторыя. Яны пададзены з гербам мястэчка і яго адметнымі архітэктурнымі помнікамі.

Творца шкадуе, што апошнім часам нас пакінула шмат старых мастакоў, якія мелі рэалістычную школу і адукацыю. Амаль што ўсе скончылі мастацкія вучэльні ў Маскве і Санкт-Пецярбургу, а потым перадавалі свае веды і вопыт у нашай Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. І беларускія выпускнікі рыхтавалі новую змену мастакоў з традыцыямі той рэалістычнай школы. І гэта добра! На двары XXI стагоддзе. Час імклівa бяжыць, цяпер нічога не зразумець гледачу на выстаўках — засталіся толькі сімвалы, якія рэдка ўтрымліваюць нейкі сэнс.

Партрэты пішуць лічаныя мастакі, сапраўдны партрэт выканаць складана. Так, не кожны можа адлюстраваць і перадаць асабісты ўнутраны стан партрэтуемага. Э. Рымаровіч — адметны партрэтыст: напісаў не толькі нашых знакамітых папярэднікаў, але і сучаснікаў — "Бабіна лета", "Ірына", "Партрэт А. В. Лыскаўца", "Партрэт жонкі А. В. Лыскаўца", "Партрэт дзяцей С. Арцеменкі", "Юля з дачушкай", "Леся Канановіч", "Партрэт Войцаха Канановіча".



Цяпер мастак працуе над карцінай на гістарычную тэму, прысвечанай Грунвальду. Яго работа "Грунвальдская бітве 1410 года прысвячаецца" экспанавалася на Рэспубліканскай выстаўцы "Грунвальд", якая ладзілася ў Палацы мастацтва мінулай восенню. Праца над новым творам цалкам захапіла мастака. Ён прачытаў шмат кніг на гэту тэму, і яго зацікавіў вобраз Джалалдзіна, які не быў раней адлюстраваны на гістарычных карцінах. Конніца Джалалдзіна адыграла адну з рашаючых роляў у гэтай бітве: смаленская і бранская харугвы палеглі, і татарская конніца нанесла ў тыл крыжакоў удар, пасля якога два флангі пагналі тэўтонцаў...



Для напісання такога твора мастак доўга шукае, затым выношвае, пераасэнсоўвае прачытанае і толькі пасля стварае той ці іншы гістарычны вобраз. Такім чынам атрымліваецца праўдзівая сцэна з жыцця гістарычных асоб. Так была напісана карціна "Сустрэча Ягайлы і Вітаўта ў Бярэсце", якую можна ўбачыць у Брэсцкім краязнаўчым музеі.

Галоўным арыенцірам для Э. Рымаровіча ў мастацтве з'яўляецца класіка. І я з ім згодна, бо гэта узорныя, агульнапрызнаныя творы, якія маюць вечную каштоўнасць для нацыянальнай і сусветнай культуры. Бо ў аснове класічнага жывапісу — рэалістычныя мастацкія прынцыпы, грамадзянскія ідэалы, дэмакратычныя тэндэнцыі... А гэта складаней, чым андэграунд ці канцэптуальнае мастацтва, дзе можна схавацца за модным сёння ў нас падманным прыцягальным некласічным кірункам, у якім, на жаль, спляжваецца такое паняцце, як "майстэрства".

Акрамя ўсяго, Э. Рымаровіч з асаблівай любоўю і захапленнем ставіцца да палявання. На гэту тэму ім напісана шмат карцін. Зроблены мастаком роспіс "Выезд на паляванне" для музея прыроды "Нацыянальны парк Белавежская пушча" выкананы з добрым веданнем не толькі гістарычнага факта, а і працэса палявання.

Уся душа мастака ў прыродзе, ён перадае яе з любоўю і натхненнем на сваіх карцінах. А іх у яго каля дзвюх тысяч, што адлюстроўваюць розныя парыныя года: "Каляды", "Восеньскія туманы", "Першыя замаразкі", "Вечарэе", "Узыход сонейка", "Цішыня", "Першы снег", "Водблескі вечара", "Першыя промні", "Лодачка", "Сакавік", "Цішыня"...

Як манументалістам Э. Рымаровічам зроблена дэкаратыўная агароджа для Музея нафты ў горадзе Рэчыца, роспісы для Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі: "Навука мінулага і сучаснага", "Пачабут-Адляніцкі" і "Наркевіч-Ёдка", для бібліятэкі імя Янкі Купалы — "Свята Івана Купалы" і роспіс "Купалле", вітражы для дзіцячага цэнтра "Батлейка", для радыятарнага завода. Прысвяціў свае творы Рымаровіч і Мінску: трыпціх "Верхні горад" і інш.

Мастак заўсёды ў пошуку. Асоба Эдуарда Рымаровіча на сённяшні дзень застаецца непахіснай: талент, дадзены Богам, высокі прафесіяналізм, патрабавальнасць, мэтанакіраванасць, прынцыповасць з выразнай творчай грамадзянскай пазіцыяй, вялікая працаздольнасць — вось тыя прынцыпы, на якіх грунтуецца яго майстэрства.

***На здымках: работы Эдуарда Рымаровіча "Што ёсць што. Аўтапартрэт", "З мінулага", "Ціхі вечар".***

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара

# Уяўны сапраўдны Парыж

**У Нацыянальным мастацкім музеі ўпершыню ладзілася персанальная выстаўка маладой мастачкі Ірыны Котавай. Экспазіцыя з назвай "Шпацыр па Парыжы" — частка мастацкага праекта аўтара "Уяўны праект", які здзейснены пры ўдзеле пасольстваў Беларусі ў Францыі і Францыі ў нашай краіне, Міністэрства культуры Беларусі, а таксама Беларускага саюза мастакоў.**

Адкрываючы выстаўку, пасол Францыі ў Беларусі Мішэль Рэнеры зазначыў, што гэты год можна без перабольшвання назваць Годам Францыі ў Беларусі. Бо беларускія знаўцы культуры пазнаёміліся з Францыяй, якая дае прытулак таленавітым і свабодалюбівым асобам. Так, на пачатку года Нацыянальны мастацкі музей Беларусі прадэманстраваў калекцыю імпрэсіяністаў. Акрамя Манэ і Курбэ, тут былі прадстаўлены палотны Ёнкінда і Богса, мастакоў-іншаземцаў, якія таксама стварылі "Нармандыю ў жывапісе". Потым былі ініцыяваныя праекты выстаўкі Марка Шагала і экспазіцыі Барыса Заборава. Гэтым разам наведвальнікі адкрываюць для сябе карціны Ірыны Котавай. Дыпламат падкрэсліў: "Гэта цудоўная мастачка вашай зямлі, якая размаўляе, развaжае па-беларуску і адчувае сябе сапраўднай беларускай. Так атрымалася, што яна вучылася ў Францыі, і французскі ўрад стварыў спрыяльныя ўмовы для яе працы. І мяне гэта, па праўдзе кажучы, зусім не здзіўляе. Французская культура заўсёды ўбірала ў сябе элементы культур шматлікіх народаў: лацінян, германцаў, арабаў... Мабыць, у гэтым яе багацце. Спадзяюся, што так будзе заўсёды. Заўсёды Францыя будзе адчыняць дзверы таленавітым асобам з усіх краін свету і будзе ганарыцца іх поспехамі. Я б таксама быў рады бачыць Беларусь, якая змагаецца за сваіх творцаў, ствараючы найлепшыя ўмовы для іх жыцця і самарэалізацыі".

Старшыня Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА Уладзімір Шчасны адзначыў, што на працягу ўсёй нашай гісторыі беларуская культура застаецца пад уплывам французскай. Аднак, паводле яго слоў, былі і іншыя часы, калі культурныя адносіны дзвюх краін нагадвалі вуліцу з двухбаковым рухам. Гаворка ідзе пра эміграцыю ў пачатку XIX стагоддзя, калі вялікая група інтэлектуалаў вымушана была пакінуць радзіму і пераехаць у Парыж, а таксама пра ўдзел выхадцаў з Беларусі ў стварэнні парыжскай школы ў мастацтве на рубяжы XIX — XX стагоддзяў. Гэта традыцыя і цяпер працягваецца. Але так надараецца: каб быць вядомым на радзіме, трэба стаць вядомым за мяжой.

Так, Ірына Котава скончыла аддзяленне графікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, вучылася ў Свята-Сергіеўскім праваслаўным багаслоўскім інстытуце ў Парыжы, па заканчэнні якога атрымала ступень ліцэнзіята багаслоўя. У пазамінулым годзе абараніла магістарскую дысертацыю па тэме "Візантыйская традыцыя іканаграфіі "Уваскрэсення" ў інтэрпрэтацыі старажытнарускіх іканапісцаў XIII — XIV стагоддзяў" у навукова-даследчым інстытуце Сарбоны. Працуе ў галіне станковага жывапісу і графікі.



"Від на Пантэон ад Люксембургскага саду"

І. Котава — удзельніца рэспубліканскіх і міжнародных мастацкіх выставак і пленэраў. Сярод іх: міжнародныя выстаўкі ў Атаве (Канада) і "Alberobello arte" ў Альберабеле (Італія), персанальныя выстаўкі ў Чарльстане (Паўднёвая Караліна, ЗША) і ў Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Парыжы... Пры канцы мінулага года ў Вестмінстэрскім абацтве ў Лондане адбылася прэзентацыя першага англамоўнага варыянта кнігі "Гутарка прападобнага Серафіма Сароўскага з М. Матавілавым" з ілюстрацыямі мастачкі.



"Від з даху Міністэрства замежных спраў Францыі на яго галоўны ўваход"

На "Шпацыры па Парыжы" прадстаўлена каля пяцідзесяці работ, пераважна пастэляў, Ірыны Котавай: нацюрморты, пейзажы, інтэр'еры, але большая частка з іх — урбаністычныя краявіды. Прычым некаторыя адлюстроўваюць, здавалася б, адзін і той жа аб'ект. Гэта так і не, бо ў розную параву года, раніцай, днём ці вечарам, пры ясным небе або зацягнутым аблокамі, любы чалавек, а тым больш творчая натура, бачыць аб'ект зусім па-іншаму.

На выстаўцы таксама прэзентаваўся альбом-каталог мастачкі, які быў падрыхтаваны літаральна за некалькі гадзін да адкрыцця. Вельмі трапна і змястоўна ў адной з прадмоў у ім наконт творчасці Ірыны Котавай выказаўся Пасол Францыі Мішэль Рэнеры. Прыкладам, нечаканае неабавязкова размічана на сюрпрыз, як тое, што нас некалі здзівіла, але затым стала штодзённым і паўсядзённым. Часам нечаканае — гэта тое, чаго мы не можам чакаць і што змяняецца кожнае імгненне, узнікае і знікае, як дым, як бязважкі подых ветру. Менавіта ў гэтым, апошнім, сэнсе Ірына Котава — мастак нечаканага.

Яна ўяўляе пейзаж, спрабуючы адлюстраваць мімалётныя моманты, што часам знікаюць з быцця горада з яго характэрнай зменлівасцю, тыя моманты, якім ужо больш ніколі не наканавана паўтарыцца. Менавіта гэта дазваляе мастачцы брацца за сюжэты і тэмы, здавалася б, шматкроць выкарыстаныя, дапамагаючы гледачу ўбачыць іх зусім па-новаму, нібы пытаючыся: "А ці бачылі вы той самы палац, сад, храм у такім адлюстраванні і ў такім ракурсе?"

Са слоў дыпламата, у гісторыі Парыжа заўсёды было месца для дэбатаў, што ўспыхваюць час ад часу паміж яго жыхарамі (і, мабыць, з яшчэ большай сілай, сярод яго наведвальнікаў і прыхільнікаў) адносна сумяшчэння і суіснавання саду Пале Раяль і калон Бюрэна, царквы Сент-Эсташ і гандлёвага цэнтра Ле-Аль, квартала Бабур і цэнтра Жоржа Пампіду, Луўра і "яго" пірамід... Аднак Ірына Котава пакідае ўбаку і пераўзыходзіць у сваёй творчасці ўсе гэтыя бессэнсоўныя дыскусіі і невырашальныя дылемы паміж тым, што здараецца, і тым, што мы чакаем; паміж Парыжам уяўным і Парыжам рэальным, зацёртым, застылым, як каляндар на рабочым стале або рэкламны лісток у леташнім часопісе. У сваім бачанні рэальнасці яна прыўносіць асаблівую далікатнасць, і гэта адбываецца ў той меры, у якой нечаканае становіцца мэтай, што прэваліруе над усім іншым у жывапісніка натуры мастаком.

Магчыма, менавіта жаданнем акцэнтаваць непаўторнасць імгненняў творчасці і тлумачыцца ўласцівае Ірыне Котавай гарачае імкненне каліграфічна падпісваць свае работы буйным размашыстым шрыфтам, дакладна фіксуючы дату іх стварэння.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота аўтара

# Ідэі набылі форму

**Штогод Міністэрства культуры Беларусі ладзіць конкурс па вылучэнні стыпендый для творцаў. Дзякуючы дзяржаўнай фінансавай падтрымцы стыпендыяты на працягу года ўвасабляюць задуманыя праекты і паводле вынікаў сваёй працы пішуць справаздачы. Аднак чарговыя стыпендыяты Міністэрства культуры ў галіне выяўленчага мастацтва вырашылі парушыць штогадовую завядзёнку і сёлета ўпершыню, апроч традыцыйных індывідуальных афіцыйных справаздач з прыкладаннем фотаілюстрацый, падрыхтавалі выніковую калектыўную выстаўку.**

Рэспубліканская мастацкая выстаўка работ стыпендыятаў Міністэрства культуры Беларусі разгарнулася ў сталічнай галерэі "Універсітэт культуры" і пабудзе тут да 19 лютага. Яе арганізатарамі сталі само міністэрства, БДУ культуры і мастацтваў, Беларускі саюз мастакоў, а куратарам — знаны жывапісец Уладзімір Кожух, якому і належала ідэя такой экспазіцыі.

Падчас выступлення на вернісажы, які прыцягнуў увагу многіх адметных творчых асоб і артмоладзі, галоўны спецыяліст упраўлення мастацтваў МК Беларусі Аляксандр Зіменка зазначыў: "Зерне, што было пасеяна год таму, дало выдатны плён, і дзякуючы такой выстаўцы можна бачыць, як ідэя набыла форму". Прарэктар БДУКіМ па навуковай працы Марына Мажэйка, падкрэсліўшы, што кожная са шматлікіх выставак, якія адбываюцца ў гэтай галерэі, мае сваю "разыначку", вызначыла асаблівасць цяперашняй экспазіцыі: "Мастакі-стыпендыяты рыхтавалі свае праекты цэлы год. Іх творы — артэфакты, ад якіх зыходзяць мастацкія імпульсы, а гэта дарагога каштуе". Мастацтвазнаўца Яўген Шунейка выказаў шчырую задаволенасць тым, што Міністэрства культуры фінансуе праекты мастакоў, бо такім чынам яно падтрымлівае права творцаў на самавыказванне, самавыяўленне: "Для творчых асоб мастацкае жыццё — вострае свабоды, але не так і лёгка, не так і вольна лётаць у творчых марах, калі няма дзяржаўнай падтрымкі. Тут — атрымалася! Таму ў новым дзесяцігоддзі нашы мастакі павінны развіваць дасягнутае, працаваць максімальна адказна і ярка, перадаючы ў сваёй творчасці беларускія ідэі ды надзеі".



У залах галерэі экспануюцца творы жывапісу, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, скульптуры, дызайну, якія, можна сказаць, увасабляюць захапляльныя старонкі творчых біяграфій сваіх аўтараў. Карціны з вядомага нашым чытачам цыкла "Белы вальс" прадставіла магілёўчанка Галіна Кананава. Адмысловы дызайн узнагарод бацькі-франтавіка і свет старых побытавых рэчаў, а яшчэ — містычнае харастве беларускіх азёраў сталіся крыніцай натхнення Тацяны Малышавай, якая з дапамогай таленавітых выканаўцаў, майстроў шклозавода "Нёман", стварыла свае далікатныя кампазіцыі. Серыю стыльных плакатаў, у тым ліку прысвечаных беларускай гістарычнай спадчыне, зрабіў дызайнер Сяргей Саркісаў. Гледачы маюць магчымасць падзівіцца на казачныя фантазіі ў бронзе, увасобленыя скульптарам Сяргеем Аганавым, атрымаць асалоду ад эстэтызаванай сімволікі карцін Сяргея Давідовіча, Юрыя Хілько, узняць настрой ля пейзажаў ды нацюрмортаў Лізаветы Аўчынікавай, угледзецца ў панараму ўмоўнага горада, размешчанага на сяміметровым палатне Аляксея Іванова. І надоўга затрымацца ў асяроддзі беларускіх ветракоў ды вадзяных млыноў, увасобленых у тэматычнай серыі карцін Віктара Нямцова...

***На здымку: кампазіцыя Таццяны Малышавай (мастацкае шкло).***

Раіса МАРЧУК

**У Смалявічах Яўгенію Дзяркач ведаюць як паэтку і адметную майстрыху, якая займаецца абрэзкавым шыццём, ці пэчваркам. Прытым, на такім узроўні, што летась выстаўка яе работ некалькі месяцаў ладзілася ў цэнтральнай раённай бібліятэцы і выклікала непадробнае захапленне ў тых, хто змог з ёю пазнаёміцца. Яўгенія Адамаўна закончыла гандлёвы тэхнікум і атрымала дыплом тэхніка-тэхнолага па прыгатаванні ежы. Але гэтая справа была настолькі не яе, што вырашыла набыць іншую прафесію. Спрабавала паступаць на філфак, у інстытут замежных моў — не атрымалася. Пайшла кантралёрам на "Інтэграл", дзе і адпрацавала на розных пасадах больш як тры дзесяцігоддзі.**



Яўгенія Дзяркач.
Фота Касцуся Дробава

# Лёсу свайго майстрыха

Калі была паспартысткай у рабочым інтэрнаце, запісалася на курсы абрэзкавага шыцця для пачынаючых. Вырашыла пахадзіць, каб добра асвоіць саму тэхніку, бо шыць умела. Часценька штосьці перашывала (час быў такі) для дачкі і сына, зрэдку — для сябе. Майстэрства пераняла ад маці, Раісы Сцяпанаўны, якой бацька купіў машынку ў якасці пасагу. Маці рабіла абноўкі для ўсёй акругі.

Да вайны бацька Яўгеніі Адамаўны працаваў галоўным бухгалтарам у Лагойскім райспажыўсаюзе. Пасля прыходу немцаў Адам Якаўлевіч застаўся на акупіраванай тэрыторыі для арганізацыі партызанскага руху. Сям'я ж пераходзіла з вёскі ў вёску. Раіса Сцяпанаўна пастаянна шыла, тым і жылі. Калі пачыналася бамбёжка ці карнікі наступалі, ратавала хутчэй дзяцей, а іх было чацвёра, і... машынку. Шмат чаго давялося перажыць: і блакада была, і на тыф маці хварэла. Нейкі час яна ляжала без прытомнасці. Прыходзілі немцы, але ніхто з вяскоўцаў яе як жонку партызана не выдаў.

— У той дзень, калі фашысты спалілі Хатынь, маці разам з усімі намі сабралася ісці ў гэтую вёску, каб, як звычайна, пасяліцца з дзецьмі ў якойсьці хаце і шыць. Проста выпадкова мы туды не трапілі і засталіся ў жывых, — расказвае Яўгенія Адамаўна, якой тады было ўсяго тры гадкі...

Калі пачала хадзіць на курсы, вельмі захапілася новым хобі і захацела заняцца абрэзкавым шыццём усур'ёз. Нажная машынка не падыходзіла для такіх заняткаў, таму вымушана была некалькі месяцаў чакаць, каб узяць напракат ручную. Майстраваць хацелася нясцерпна. Пакуль не займела сваю "Чайку" — калі прыходзіла з работы, карміла дзяцей і бегла назад у інтэрнат (жыла непадалёку), каб папрацаваць на машынцы, якая там мелася.

Пачынала з простых работ-аплікацый для ўпрыгажэння кватэры. Свае невялічкія пано дарыла родным, сябрам. Нават заказы пачалі паступаць на карцінкі, на аплікацыі-ўпрыгажэнні для адзення. Праўда, грошай за гэта не брала, бо не ўсё вымяраецца рынкавымі адносінамі. Потым вырашыла змайстраваць вялікае пано. Праўда, яе настаўніца сумнявалася, што Яўгенія Адамаўна зможа выканаць такую складаную работу. Але жанчына загарэлася і амаль самастойна прайшла складаны шлях: ад задумкі-мары, эскіза (добра, што ад прыроды дадзены ёй дар маляваць) і да сапраўднай карціны. Падабраць абрэзкі — таксама справа няпростая. Трэба яшчэ і мастацкі густ мець. У савецкія часы існавала праблема і з абрэзкамі тканіны. Нічога, знайсці неабходнае дапамагалі сваякі, знаёмыя. Пакрысу завяршыла адну работу, другую, трэцюю...

Наступілі 90-я гады. Нейкі час не магла займацца любімай справай, бо навaліліся іншыя клопаты.

— Трэба было вызначыцца, дзе і як жыць, — распавядае жанчына. — Памерла маці, засталася пустая хата, а мяне заўсёды цягнула назад, на Смалявічыну, у сваю вёску Клянік, якая і "перамагла". Тым больш што хацелася дапамагчы сыну-студэнту. Завяла немалую гаспадарку. Да пенсіі заставалася яшчэ некалькі гадоў, таму пайшла працаваць у мясцовы калгас малаказборшчыцай. Калі жыццё крыху ўсталявалася, зноў звярнулася да шыцця. З'явілася натхненне і для напісання вершаў. Адным словам, знаходжанне ў вёсцы, сярод прыроды паспрыяла творчасці. У душы пасялілася гармонія. За некалькі гадоў да гэтага ўбачыла ў часопісе "Советская женщина" рэпрадукцыю "Руслана і Людмілы". І вельмі захацелася зрабіць аднайменнае пано. Шчыравала над ім цэлы год.



*"Каханне"*

Спачатку яе творчыя парывы прыкмецілі на месцы. Настаўнікі Кляніцкай сярэдняй агульнаадукацыйнай школы прывялі вучняў да яе дамоў, каб дзеці паглядзелі работы майстрыхі. Потым прайшла выстаўка яе пано ў мясцовай бібліятэцы.

Праз нейкі час у Смалявічах аб'явілі творчы конкурс. Яўгенія Адамаўна вырашыла паўдзельнічаць у ім, дарэчы, у дзвюх намінацыях: "Паэзія" і "Народная творчасць" (у гэтай намінацыі прадставіла толькі адну работу — "Руслан і Людміла"). І перамагла ў абодвух спаборніцтвах — атрымала першае і другое месцы адпаведна.

Гэта быў штуршок, стымул, каб тварыць далей. Звярнулася да казак Пушкіна. Нарадзіліся таксама новыя пано вялікага фармату: "Царэўна-лебедзь" і "Спячая прыгажуня". Цяпер у арсенале жанчыны больш як дзесяць работ. Адно пано месяцы тры спецыяльна шыла для ўнучак. Выканана яно, скажам так, у сучасным ключы. У ім, тлумачыць майстрыха, задзейнічаны тры стыхіі: агонь, маланка і паветра.

— Адчуваю вялікае задавальненне, калі працэс ужо закончаны, — гаворыць Яўгенія Адамаўна. — Вельмі многае хочацца вырабіць, ужо падрыхтавана шмат эскізаў, ёсць цікавыя задумкі. А вось гаспадаркі ўжо няма. Сама здзіўляюся, як раней усюды паспявала. Цяпер іншая праблема — рамонт дома. У вясковага чалавека заўсёды клопатаў хапае, таму іншы раз цяжка знайсці час для шыцця, але заўсёды выкройваю некалькі гадзін. І лічу, што пры жаданні заўсёды можна гэта зрабіць.

Тры гады таму работы Яўгеніі Адамаўны дэманстраваліся ў Цэнтры мастацкай творчасці Фрунзенскага раёна г. Мінска, які наведвалі яе ўнучкі. Бабуля неяк зайшла за імі і пазнаёмілася з выкладчыкамі, паведала ім пра сваё захапленне, паказала здымкі пано і атрымала прапанову выставіць свае работы ў самім Цэнтры. Так атрымалася, што і журналісты сталічнага тэлебачання ўбачылі пано майстрыхі. У выніку Яўгенія Дзяркач стала гераіняй перадачы "Лёсу свайго гаспадыня".

**Дарадцам і кансультантам рубрыкі "Дзівасвет" выступае старшыня БСМНТ Яўген Сахута.**

**Водгукі і матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@mail.ru з пазнакай "Дзівасвет".**



*"Мірскі замак"*

## З глыбінкі

# Разам з кнігай у Новы год

У наш камп'ютарызаваны век моладзь і дзеці ўсё менш захапляюцца чытаннем. І таму, каб павысіць прэстыж кнігі сярод дзяцей і падлеткаў, развіваць у іх любоў і беражлівыя адносіны да кнігі, выхоўваць культуру юнага чытача, у Камянецкай дзіцячай раённай бібліятэцы з 1 па 31 студзеня 2011 года прайшла акцыя "Разам з кнігай у Новы год".

У гэты месяц бібліятэкары выкарысталі новую форму работы з чытачамі — "бацькоўскі дзень" пад назвай "У бібліятэку ўсёй сям'ёй". Такім "бацькоўскім днём" стаў кожны дзень студзеня. У першы месяц года бібліятэкары праводзілі з бацькамі гутаркі пра тое, як заахвоціць малых чытаць, як вылучыць час для чытання і як яго выкарыстоўваць. А яшчэ на абанеменце прыцягвала ўвагу ілюстраваная кніжная выстаўка "Для вас, бацькі", на якой змяшчалася карысная і цікавая інфармацыя для бацькоў і кіраўнікоў дзіцячага чытання. Тут былі выстаўлены новыя кнігі для школьнікаў і кніжкі-малышкі для самых маленькіх чытачоў.

Каб заахвоціць тых дзяцей, якія не чытаюць або чытаюць мала, бібліятэка правяла яшчэ адну акцыю: пры перарэгістрацыі першых 50 чытачоў чакалі сюрпрызы і падарункі.

Але гэта яшчэ не ўсё. У студзені ў Камянецкай дзіцячай раённай бібліятэцы прайшлі і іншыя мерапрыемствы. Літаратурна-музычная феерыя. "Свечы. Музыка. Вершы" была прысвечана навагоднім і калядным святам. Эстэтычны час. "Зіма. Сімфонія фарбаў Белавежскай пушчы" заклікаў тых, хто любіць самы цудоўны лес нашай краіны, у бібліятэку, каб больш пазнаць яго прыроду і кнігі, прысвечаныя яму. Таксама была афармлена яшчэ адна выстаўка-панарама. "Кнігі запрашаюць да размовы".

Бібліятэкары спадзяюцца, што такім чынам змогуць зацікавіць юных чытачоў узяць кнігу сабе ў памочнікі і зрабіць яе сябрам сям'і.

**Наталля КАНДРАШУК**

# Пад адным небам

Музею нацыянальных культур у Іўі няма і двух гадоў, але ён ужо добра вядомы на Гродзеншчыне. Музей прыцягвае арыгінальнымі выстаўкамі. Нядаўна, напрыклад, тут дэманстравалася калекцыя рэдкіх кніг духоўнага зместу. Запомніліся таксама наведвальнікам выстаўкі "Рэлігія і лад жыцця беларускіх яўрэяў", "Па слядах Напалеона Орды", "Бабулін куфэрак", "З побыту іўеўскіх татараў". Па змесце сваім яны добра ўпісваюцца ў кантэкст пастаяннай экспазіцыі музея, якая носіць назву "Пад адным небам — праз стагоддзі".

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ,**
**г. Іўе Гродзенскай вобласці**

## Афарызм

*Кожную кнігу трэба пісаць так, нібы гэта твая лепшая і апошняя.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**
**Галоўны рэдактар Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**



**Адрас рэдакцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
дадатак "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.

Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856

Наклад 3109

Умоўна друк. арк. 3,72

Нумар падпісаны ў друк 10.02.2011 у 11.00

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7

Заказ — 632
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-6484